Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 45 (4691) 9 лістапада 2012 г.

Думкапісьменніка

## Ці ўсе рэкі цякуць у акіян?



У 80-я гады ХХ ст. тагачасны кіраўнік СССР Міхаіл Гарбачоў дазволіў гарадскім жыхарам купляць вясковыя хаты і афармляць як лецішчы. Маючы шматдзетную сям'ю, даволі танна набылі і мы з жонкай кінутую хатку на Віцебшчыне ў вёсцы Панфілаўшчына. Хоць і далекавата ад Мінска, але ж блізка да Шаркоўшчыны, дзе жылі бацькі, якім патрэбна наша дапамога.

З гэтага часу выхадныя, адпачынкі, школьныя, а потым і студэнцкія канікулы сям'я праводзіла ў вёсцы. А гэта дарога, дарога, дарога... Каб дабрацца да Панфілаўшчыны, трэба праехаць дзве вобласці — Мінскую, Віцебскую — і пяць раёнаў: Мінскі, Лагойскі, Докшыцкі, Шаркоўшчынскі, Глыбоцкі. Усе вёскі і мястэчкі, праз якія "ляцеў" наш "Запарожац", трапна ахрышчаны людзьмі "гарбаты", дзеці вывучылі на памяць. Нават гульню прыдумалі: "адгадай наступную вёску". У гэтую гульню-адгадайку трапілі і рэкі: Усяжа, Падзвейна, Сцюдзёнка, Поня, Аржаніца, Бярозаўка, Дабрылаўка, Маргва...

Чуеце, як гучаць, з якіх часоў прыйшлі да нас назвы рэк?! Яны — подых старажытнай даўніны, у іх слаўная гісторыя нашай дзяржавы. Узяць хаця б Сцюдзёнку, што перагукаецца з вёскай Сцюдзёнка, каля якой у 1812 годзе пацярпеў бясслаўную паразу Напалеон Банапарт.

Не хочацца, але міжвольна думаецца пра тое, што не толькі пералічаныя, але і ўсе гэтак званыя малыя рэкі, могуць знікнуць з карты Беларусі. Не, назвы застануцца... у Энцыклапедыі, а дзе-нідзе, магчыма, застануцца і шыльды паўз дарогі, толькі на іх будзе напісана: тут працякала рака...

Чаму ў мяне атрымліваецца гэткі песімістычны прагноз? Напэўна, таму, што я памятаю, як у шасцідзясятыя гады мінулага стагоддзя бульдозерамі чысцілі раку Мнюту, а потым мы купаліся і на былой водмелі не маглі "дастаць" дно, у васьмідзясятыя — чысцілі, абкошвалі траву, выцягвалі трактарамі з Бярозаўкі і Маргвы агромністыя дрэвы, паваленыя буранамі і, як ні горка, бабрамі... А сёння спыніцеся каля шыльды "р. Усяжа" ў напрамку Лагойска і паспрабуйце зачарпнуць вады. Наўрад ці гэта вам удасца. Не спатоліць смагу радыятара вашай машыны Дабрылаўка, па дарозе на Браслаў паміж Глыбокім і Шаркоўшчынай, а на Маргве — дрыгва зацягне.

Знікнуць малыя рэкі — што будзе з вялікімі?

Я згадаў толькі некалькі дарагіх сэрцу рачулак, рачулак, якія даюць жыццё, натхняюць на творчасць. А іх — тысячы!.. Не памылюся, калі скажу, што ў кожнага беларуса ёсць свая рэчачка, на якой ён вырас, да якой імкнецца душа, якую бачыць у снах. Гэта і ёсць наша Бацькаўшчына, яе трэба зберагчы і абавязкова перадаць у спадчыну.

У нас створана шмат кантралюючых органаў, звязаных з выкарыстаннем прыродных рэсурсаў (у тым ліку водных), для якіх ключавое слова ў дзейнасці — барацьба. Напэўна, трэба вызначыцца і з добраўпарадкаваннем рэк, каб дэвіз іх працы гучаў прыкладна так: чыстыя, паўнаводныя рэкі і азёры — гарант будучыні Рэспублікі Беларусь.

У кастрычніку распачаў працу наноў выбраны Парламент. Было б добра, каб думка пісьменніка супала з думкай хоць аднаго парламентарыя (зрэшты, павінен быць сярод іх хоць адзін сапраўдны рыбак).

А калі супадзення не адбудзецца, то дзеля каго і чаго мы дзелімся сваімі думкамі?

**Віктар ПРАЎДЗІН**

# Місія: захаваць

**У пачатку ХХ стагоддзя на месцы дома нумар 13 па сучаснай вуліцы М. Багдановіча пад адным дахам размяшчаліся тры дамы. У 1987 годзе была праведзена рэканструкцыя будынкаў, іх аб'ядналі ў адзін і аддалі ў распараджэнне Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры. Сёння культурнае жыццё сталіцы складана ўявіць без гэтай установы, кожны тыдзень тут адзначаны важнай падзеяй — сустрэчы з аўтарамі, прэзентацыі выданняў, адкрыццё тэматычных выставак… Некалькі дзён таму музей адзначыў свой першы сур'ёзны юбілей — 25-годдзе. Пра яго гісторыю і сучаснасць, цікавыя праекты, сённяшнія клопаты і планы на будучыню — гутарка з дырэктарам Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзіяй Макарэвіч.**

(Заканчэнне на стар. 12.)



Фота Кастуся Дробава.

*Падарункі ад Выдавецтва Беларускага Экзархата — у фонд музея.*

# Галоўны хор Несцера Сакалоўскага

9 лістапада спаўняецца 110 гадоў з дня нараджэння Несцера Сакалоўскага — аўтара музыкі Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь. Чым больш часу праходзіць з даты яго смерці ў 1950 годзе, тым больш легендарнай здаецца постаць кампазітара.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

Адзіная прысвечаная яму манаграфія выдадзеная ажно ў 1969 годзе. Пяцьдзясят старонак "кішэннага" фармату пераказваюць культурна-асветніцкія выданні, адзначаючы памятныя даты лёсу кампазітара. Калі не стварыць грунтоўнай і прафесійнай сучаснай біяграфічнай крыніцы, беларусы ўрэшце будуць думаць, што музыка іх гімна — народная.

Увогуле, паходжанне яе з народных песенных крыніц не падлягае сумненню: кампазітар Несцер Сакалоўскі сфарміраваўся непасрэдна каля іх і дзеля іх захавання. Усё яго жыццё музычная творчасць спалучалася з дзейнасцю нястомнага фалькларыста — збіральніка і апрацоўшчыка народнай песеннай спадчыны, а таксама з працай кіраўніка творчых калектываў, малых і буйных, самадзейных і прафесійных, але часцей за ўсё створаных выхадцамі з самай непасрэднай гушчы народа. З народа паходзіў ён сам. Звесткі са згаданай біяграфіі, падрыхтаванай музыказнаўцам Ізідорам Нісневічам, даюць шмат прасторы для зацікаўленага ўяўлення — абы толькі з-за лаканізму і нешматлікасці фактаў яно не пераходзіла ў міфатворчасць.

Першыя шэсць гадоў жыцця Несцера Сакалоўскага прайшлі ў вёсцы Вешкі Докшыцкага раёна. Хата бацькоў была чымсьці накшталт вясковага клуба: у зімовы час жанчыны збіраліся ў ёй на попрадкі, спявалі народныя песні. "Саліравала" звычайна маці. Родны дзядзька Несцера быў слынны аматар-скрыпач. Слухаючы "Польку для струнных" кампазітара Н. Сакалоўскага, так і бачыш сялянскі "баль" на чале з музыкам-скрыпачом: вось гучыць уступ — надта павольна і неяк надта доўга, нібы чакаючы падбадзёрвання, заахвочвання з боку танцораў і слухачоў. Толькі пасля трэці гучання мелодыя набывае звыклую польцы гарэзлівую хуткасць, але потым зноў марудзіць (адпачніце, маўляў, і пачакайце — шануйце скрыпача), пасля зноў — гарэзліва, імкліва. Уявім сабе і шасцігадовага хлапчука — дзесь у кутку або на печы, каб не замінаць танцорам, не мільгацець перад вачыма заглыбеных у кудзелю і песню жанчын.

Дзядзька Несцера, дарэчы, быў не толькі скрыпачом, але і знаўцам нацыянальных абрадаў, тэатралізаваных гульняў. Досвед яго адгукнецца, калі пятнаццацігадовым юнаком будучы кампазітар трапіць нарэшце ў Першую працоўную школу ў Мінску і стане актыўным удзельнікам яе аматарскага творчага гуртка, потым — удзельнікам хору ў "Беларускай хатцы", калі будзе ротным запявалам і кіраўніком самадзейнасці падчас тэрміновай службы ў Чырвонай Арміі. Прыдасца вопыт дзядзькі — чым далей, тым больш удасканалены ўласна атрыманымі ведамі, — падчас ангажэмента ў перасоўным драмтэатры Уладзіслава Галубка (1920-я гг.).

Гады акцёрскай і хормайстарскай дзейнасці тут, у "БДТ-2", — вызначальныя ў далейшым развіцці Несцера Сакалоўскага як прафесійнага кампазітара-фалькларыста. Аматарам, вандроўным музыкам ён мог заставацца колькі заўгодна, але бездань народнай культуры, адкрытая ім падчас вандровак па Беларусі, паспрыяла жаданню гэта багацце засвоіць і зрабіць гэта карэктна, прафесійна, годна — так, як яно таго заслугоўвала. Адсюль, адначасова з працай у перасоўным тэатры, — пяць гадоў вучобы на тэарэтыка-кампазітарскім аддзяленні Беларускага дзяржаўнага музтэхнікума (цяпер — Мінскае музычнае вучылішча імя М. Глінкі). Адсюль ужо ў прызнанага кампазітара і паспяховага кіраўніка (у 1930-я гг. яго песенныя калектывы становяцца вядомымі за межамі БССР) — прага вышэйшай музычнай адукацыі. Перад вайной і пасля Перамогі ён наведвае клас кампазіцыі ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, але сістэматычнай адукацыі так і не атрымае — з-за бюракратычных перашкод, з-за хваробы і заўчаснай смерці. У гэтым ёсць пэўны сімвалізм: дасягнуўшы вяршынь прафесійнага майстэрства, Несцер Сакалоўскі не набыў фармальнага статусу прафесіянала і ў поўным сэнсе слова застаўся кампазітарам народным.

(Заканчэнне на стар. 5.)

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў калектыў Беларускай дзяржаўнай філармоніі з 75-годдзем заснавання. “Вядучая канцэртная ўстанова дзяржавы прайшла доўгі, напоўнены здзяйсненнямі шлях, зрабіла вялікі ўнёсак у развіццё і прапаганду нацыянальнага музычнага мастацтва, папулярызацыю лепшых узораў айчыннай і замежнай класікі і эстэтычнае выхаванне многіх пакаленняў беларусаў”, — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Спецыяльны прыз Прэзідэнта Беларусі “За захаванне і развіццё традыцый духоўнасці ў кінамастацтве” знакамітаму кінарэжысёру Карэну Шахназараву ўручыў падчас адкрыцця “Лістапада-2012” намеснік прэм’ер-міністра Беларусі Анатоль Тозік.

✔ У Віцебску — традыцыйныя лістападаўскія дні Латвіі, якія ладзяцца ў межах Праграмы трансгранічнага супрацоўніцтва “Латвія — Літва — Беларусь”. Пачнецца свята 12 лістапада з абмеркавання сучасных тэндэнцый развіцця культурнай сферы і працягнецца вялікай канцэртнай праграмай. У межах яе запланавана выступленне духавога аркестра “Daugava”, Дайніса Скуцеліса, Ілоны Багеле і ансамбля танца “Лявоніха”. Якабяцаюць арганізатары, гэта будуць самыя прыгожыя і вытанчаныя ўзоры нацыянальных культур Латвіі і Беларусі.

✔ Гэтымі днямі ў Мінску праходзіць пасяджэнне пастаянна дзейнічаючага семінара пры Парламенцкім Сходзе Саюза Беларусі і Расіі па пытаннях будаўніцтва Саюзнай дзяржавы на тэму “Актуальныя пытанні патрыятычнага выхавання дзяцей і моладзі Саюзнай дзяржавы”. Сярод іншых будуць абмяркоўвацца роля культурных традыцый у выхаванні падрастаючага пакалення.

✔ Літаратурная вечарына, прысвечаная 130-годдзю з дня нараджэння Якуба Коласа і Янкі Купалы, адбылася ў Кішынёве. Арганізавалі яе пасольства Беларусі ў Малдове, Беларуская суполка і Бюро міжэтнічных стасункаў Малдовы. Таксама ў межах імпрэзы была прадстаўлена выстаўка “Беларусь мая сінявокая” членаў Беларускай суполкі Вячаслава Інацэнкі і Ганны Мазур.

✔ Літоўскі рэжысёр Шарунас Бартас зацікаўлены ў супрацоўніцтве з “Беларусьфільмам”. Прынамсі, пра свой намер ён заявіў падчас “Лістапада”, удзел у якім бярэ не першы год. Як паведаміў рэжысёр, сумесныя кінапраекты будуць прысвечаны рознай тэматыцы.

✔ Беларускія народныя песні прадставіў у Нідэрландах дзіцячы хор “Крынічка” Мінскага дзяржаўнага палаца дзяцей і моладзі (мастацкі кіраўнік — заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Наталля Суханава). Мяркуецца, у наступным годзе з канцэртам у горадзе Апельдорне выступіць аматарскі (фальклорны) калектыў. Такія акцыі стануць пастаяннымі.

✔ У Беларусі завяршыўся першы бард-рынг. Пляцоўкай для яго правядзення стаў Магілёў. У выніку глядацкага галасавання быў названы пераможца. Ім стаў Вячаслаў Клімовіч з Гомеля.

**Падрыхтавала**
**Таццяна МАСТОЎСКАЯ**

## Да 130-годдзя Якуба Коласа



# Адзіна верны шлях

**Кіра МУРАЎСКАЯ,**
**фота Юліі Савіцкай**

Ускласці кветкі да помніка Песняру на плошчу яго імя прыйшлі ў дзень 130-годдзя Якуба Коласа і прадстаўнікі ўлады, і дзеячы культуры, і школьнікі... Мінакі забываліся на суботнія клопаты і затрымліваліся, каб паслухаць словы вядомых асоб Беларусі ў гонар слыннага земляка.

Намеснік прэм’ер-міністра нашай краіны Анатоль Тозік падкрэсліў шматграннасць творчасці класіка айчыннай літаратуры, а таксама выказаў удзячнасць усім, хто браў удзел у падрыхтоўцы святочных мерапрыемстваў Года кнігі. “Слова Коласа вучыць нас любіць нашу Радзіму, шанаваць родную Беларусь, беларускую зямлю і мову”, — яшчэ раз задумацца, чым для нас з’яўляецца Слова, прапанаваў міністр культуры Павел Латушка. Ён жа нагадаў прысутным пра тое, што чытаць класікаў варта не толькі ў юбілейны год. Радкамі бацькі прывітаў усіх сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч. Маленькія ўдзельнікі тэатральнага гуртка “Вытокі” Стаўбцоўскага раённага цэнтра культуры прачыталі верш-прысвячэнне “дзядзьку Коласу”. А старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец прыгадаў, што Якуб Колас стаяў ля вытокаў гэтай арганізацыі, і працаваў радкі народнага паэта. Шлях да Коласа назваў “адзіна верным шляхам беларусаў” галоўны рэдактар часопіса “Полымя” пісьменнік Мікола Мятліцкі, які заклікаў прысутных прысягнуць у тым, што “зробім усё, каб нашы духоўныя сілы прырасталі з кожным днём, каб наш голас і надалей чуўся ў свеце”.

Нягледзячы на фармат, уганараванне Якуба Коласа не стала шараговым афіцыйным мерапрыемствам, а ў чарговы раз засведчыла любоў народа да свайго Песняра.

# Невядомы Колас

“Каласавіны” — рэспубліканскае свята з багатай гісторыяй — ладзіліся сёлета ў 27-ы раз і сабралі ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа на Міжнароднай навуковай канферэнцыі “Якуб Колас. Чалавек. Эпоха. Час” прадстаўнікоў Беларусі, Расіі, Украіны.

**Раіса СІНЯЎСКАЯ**

Даслалі вітанні і даўнія сябры музея з далёкага замежжа. Нягледзячы на шматгадовую даследчую працу падчас падрыхтоўкі не абышлося без адкрыццяў: да прыкладу, у Віцебску знайшліся лісты Якуба Коласа да Аляксандры Каліны.

Намеснік міністра культуры Беларусі Тадэўш Стружэцкі прыгадаў святкаванне 100-годдзя Якуба Коласа, якое ў свой час прыцягнула міжнародную ўвагу да творчасці Песняра, аднак заўважыў, што сёння “мы больш глыбока адчуваем асобу Якуба Коласа і той унёсак, які ён зрабіў у фарміраванне беларускага грамадства”. Удзельнікаў канферэнцыі не трэба было пераконваць у важнасці захавання і аналізу спадчыны Коласа — болей за тое, 130-гадовы юбілей класіка айчыннага пісьменства перасягнуў межы нашай краіны. Так, плёнам 10-гадовага супрацоўніцтва з Кіеўскім літаратурна-мемарыяльным музеем Максіма Рыльскага сталі неаднаразовыя супольныя акцыі, пошук літаратурных паралеляў, а таксама імкненне ўкраінскага боку перакласці творы сучаснай беларускай літаратуры на ўкраінскую мову. Дырэктар расійскага музейна-выставачнага комплексу “Валакаламскі Крэмль” Віктар Іўчанкаў абвясціў пра маючую адбыцца сумесную выстаўку, “каб пра імёны Коласа і Купалы ведалі па ўсёй Расіі”.



**Вынікамі** уласнай працы падзяліліся і айчынныя навукоўцы, якія прадставілі новыя выданні, прысвечаныя Якубу Коласу. Як падкрэсліў вядомы коласазнаўца, член-карэспандэнт НАН Беларусі, прафесар Міхась Мушынскі, на старонках яго “Летапісу жыцця і творчасці Якуба Коласа” творца “паўстае зусім новай фігурай”.

Прадстаўнічасці і разнастайнай тэматыцы секцыйных пасяджэнняў мог бы пазайздросціць самы высокі навуковы форум. Тым, каму не пашанцавала патрапіць на “Каласавіны”, застаецца толькі набыць у музеі адпаведны зборнік (значна большы па аб’ёме за сваіх папярэднікаў) і разам з яго аўтарамі стаць першаадкрывальнікамі невядомых дасюль старонак спадчыны Якуба Коласа.

# Старонка тэатральных падзей

**Дар’я ШОЦІК**

У Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Рэспублікі Беларусь адкрылася выстаўка “Якуб Колас і тэатр”, прымеркаваная да 130-годдзя з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Якуба Коласа.

Да коласаўскай драматургіі звяртаюцца многія беларускія тэатры, бо шматграннасць характараў, багатая і каларытная мова заўсёды прыцягваюць увагу прафесійных і аматарскіх тэатральных калектываў. Дарэчы, паводле аповесці “Дрыгва” кампазітар А. Багатыроў стварыў оперу “У пушчах Палесся” (у 1939 г. пастаўлена на сцэне Дзяржаўнага тэатра оперы і балета); у 2005-м — Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы паставіў драматычную паэму “Сымон-музыка”. І паводле іншых твораў Песняра таксама былі зроблены цудоўныя сцэнічныя ўвасабленні. Праўнучка Якуба Коласа Васіліна Міцкевіч упэўнена, што гэтая выстаўка будзе карыстацца вялікай папулярнасцю ў наведвальнікаў.

На экспазіцыі прадстаўлены рукапісы Коласа, віншавальныя адрасы беларускаму класіку, творчая перапіска з Драматычным тэатрам імя Якуба Коласа, а таксама эскізы касцюмаў, фотаздымкі, афішы, праграмы да спектакляў, нотныя рукапісы з фондаў Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа.

Супрацоўнікі музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры паведамілі пра ўнікальныя нотныя рукапісы Юрыя Семянякі да оперы “Новая зямля”, якая была пастаўлена Дзяржаўным тэатрам оперы і балета. Прынамсі, маецца некалькі фотаздымкаў, на якіх і адлюстроўваюцца сцэны з гэтага спектакля. З асаблівай увагай прысутныя разглядалі эскізы касцюмаў, зробленыя мастачкай Алесяй Снапок-Сарокінай да спектакля “Сымон-музыка”.

А каб паглядзець іншыя адметныя матэрыялы, прыходзьце ў музей!

# Духоўнасць — фактар бяспекі

**Глеб МАКСІМЕНЯ**

Духоўна-асветніцкая праграма “Сям’я — Адзінства — Айчына”, каардынатарам якой з’яўляецца Рэспубліканскае грамадскае аб’яднанне “Бацькі і настаўнікі — за адраджэнне праваслаўнай адукацыі” (старшыня Уладзімір Грозаў) і Выдавецтва Беларускага Экзархата, з’явілася дзякуючы сумеснаму намаганню царкоўных, свецкіх структур і шырокай грамадскасці пераламаць негатыўныя тэндэнцыі ў галіне дэмаграфічнага развіцця краіны, жаданню садзейнічаць вяртанню высокіх духоўных традыцый, узнаўленню моцнай шматдзетнай сям’і. Таму кожнае чарговае мерапрыемства, што праходзіць у рамках гэтай праграмы, мае рэзананс і прыцягвае да сябе шырокія колы грамадскасці. Пацвярджэнне таму і нядаўні грамадскі форум “Духоўна-маральныя фактар нацыянальнай бяспекі”.

Пра значнасць і актуальнасць размовы, што адбылася на пасяджэнні, сведчыць і спіс удзельнікаў: акадэмік-сакратар Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі Аляксандр Каваленя (ён і адкрыў пасяджэнне); намеснік старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па адукацыі, культуры і навуцы Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Марат Жылінскі, намеснік дырэктара Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра пры Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Леў Крыштаповіч, вядомы даследчык беларускіх шляхецкіх родаў, фундатар Анатоль Статкевіч-Чабаганаў, дырэктар Інстытута гісторыі НАН Беларусі Вячаслаў Даніловіч, кіраўнік Каардынацыйнага цэнтра Беларускай Праваслаўнай Царквы па супрацьдзеянні наркаманіі і алкагалізму ў гонар святога пакутніка Ваніфація іерэй Дзіанісій Пясецкі, настаяцель Мінскага Касцёла Святых Сімяона і Алены, ксёндз Уладзіслаў Завальнюк, прафесар кафедры сацыяльнай камунікацыі факультэта філасофіі і сацыяльных навук Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Ірына Калачова і іншыя.

У прынятай рэзалюцыі адзначаецца, што ў Беларусі дзякуючы шматгадоваму палітычнаму кіраўніцтву, арыентаванаму на абарону глыбінных інтарэсаў народа і развіццё дзяржаўнасці, захаваны найважнейшыя перадумовы духоўна-маральнага дабрабыту. У той жа час нельга мірыцца з дэградацыйнымі працэсамі, што яшчэ маюць месца, асабліва ў сферы дэмаграфіі, і няспынным распаўсюджваннем культу спажывання, эгаізму, сацыяльнага песімізму і абыякавасці, якія разбураюць чалавечы патэнцыял краіны.

Удзельнікі грамадскага форуму звяртаюцца да кампетэнтных органаў дзяржаўнага кіравання, грамадскіх арганізацый з заклікам паспрыяць больш хуткаму ўвядзенню ў сістэму адукацыі абавязковых навучальных прадметаў “Асновы айчыннай духоўнай культуры” і “Духоўна-маральныя асновы сямейнага жыцця”.

Літабсягі

# Сякера пры дрэве

У выставачнай зале Брэсцкага абласнога грамадска-культурнага цэнтра прайшла прэзентацыя альбома-манаграфіі “Палескія былі Івана Супрунчыка”, які выйшаў у РВУ “Літаратура і Мастацтва” пры фінансавай падтрымцы Столінскага райвыканкама.

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**

Імя Івана Супрунчыка добра вядомае ўсім аматарам айчыннага мастацтва. Ураджэнец столінскай вёскі Цярэблічы, ён робіць з дрэва самабытную драўляную скульптуру, карыстаючыся толькі сякерай, і малюе вялікія серыі графічных твораў. Персанальныя выстаўкі майстра ладзіліся ў Брэсце, Віцебску, Польшчы і Галандыі, а яго творы захоўваюцца і экспануюцца ў айчынных і замежных музеях. З нагоды 70-годдзя Івана Супрунчыка ў выставачнай зале прайшлі адразу два знакавыя мерапрыемствы: адкрыццё персанальнай выстаўкі майстра “Палеская Атлантыда” і прэзентацыя альбома-манаграфіі, створанага мастацтвазнаўцай Вольгай Лабачэўскай і фатографам Георгіем Ліхтаровічам.

Але перш чым госці мерапрыемства змаглі непасрэдна павіншаваць юбіляра, яны ўбачылі яго… на экране. Бо прэзентацыя пачалася з паказу дакументальнага фільма “Давеку” Кацярыны Махавай, знятага на студыі “Летапіс”. Намеснік начальніка ўпраўлення культуры Брэсцкага аблвыканкама Тамара Паўлюковіч уручыла І. Супрунчыку вышэйшую ўзнагароду Міністэрства культуры — знак “За ўклад у развіццё культуры Беларусі”. Таксама майстра павіншавалі намеснік старшыні Столінскага райвыканкама Сяргей Сідарэвіч і зямляк юбіляра, пракурор Брэсцкай вобласці Іван Наскевіч. Апошні пазнаёміўся з Іванам Піліпавічам яшчэ ў дзяцінстве, калі І. Супрунчык працаваў загадчыкам вясковай бібліятэкі. Тады кнігі ў вёсцы карысталіся вялікім попытам, а выдавалі іх на непрацяглы час. Майстра зрабіў будучаму пракурору прапанову: той з братам апрацоўвае стос новых паступленняў — і яны ў яго распараджэнні. “У той час, — жартам узгадваў І. Наскевіч, — я быў самым галоўным чалавекам у вёсцы”.



*Праца над скульптурай “Пераемнасць”. Ілюстрацыя з кнігі “Палескія былі Івана Супрунчыка”.*

Значэнне творчасці І. Супрунчыка цудоўна прадэманстраваў у сваім “ліхтарыку” Георгій Ліхтаровіч. Згадаўшы імкненне Расіі прарубіць акно на захад, ён дадаў: “А наш Супрунчык у Еўропу дзверы адной сякерай прарубіў даўно”.

Арт-лінія

# «Восеньская казачка»

10 лістапада ў Нацыянальным акадэмічным. Вялікім тэатры оперы і балета Рэспублікі Беларусь прэм’ера — новая рэдакцыя оперы Мікалая Рымскага-Корсакава “Кашчэй Бессмяротны”.



*Сцэна з оперы “Кашчэй Бессмяротны”.*

**Вольга НІКАЛАЕЎСКАЯ, фота прадастаўлена НАВТ оперы і балета**

Упершыню пастаноўку оперы Вялікі тэатр ажыццявіў у 2008 годзе, падчас рэканструкцыі свайго будынка. Спектакль быў тэхнічна прыстасаваны да ўмоў часовай сцэны, на якой працавала тады беларуская опера, і таму, на жаль, праіснаваў нядоўга — да завяршэння маштабнага рамонту. Цяпер, пасля чатырохгадовага перапынку, спектакль вяртаецца ў рэпертуар.

Рэжысёр Галіна Галкоўская мае намер “узбуйніць” спектакль, выкарыстаўшы для гэтага ўсе тэхнічныя магчымасці сцэны, а таксама насычаную відэаграфіку, якая дапоўніць сцэнаграфію. Афармленне спектакля захавае той сапраўдны “рускі дух”, які ёсць у гэтай оперы. Мастак-пастаноўшчык Любоў Сідзельнікава актыўна ўжывала ў сцэнаграфіі славянскія дахрысціянскія матывы і элементы вязьма.

Нягледзячы на тое, што сцэнічная кампазіцыя спектакля значна зменіцца, галоўная ідэя застанецца ранейшай. Мікалай Рымскі-Корсакаў, які выступіў не толькі кампазітарам, але і адным з суаўтараў лібрэта, стварыў прыпавесць пра барацьбу дабра і зла. Сам кампазітар называў оперу “восеньскай казачкай”.

У новай рэдакцыі “Кашчэя Бессмяротнага” захаваўся той жа склад салістаў, які быў сфарміраваны падчас падрыхтоўкі першай версіі. Кашчэямі будуць Аляксандр Жукаў і Эдуард Мартынюк, Царэўнамі стануць Алена Бундзелева, Таццяна Гаўрылава і Ганна Гур’ева, у ролі Івана-Каралевіча выступяць Уладзімір Громаў, Андрэй Марозаў і Ілля Сільчукоў, партыю Кашчэеўны выканаюць Аксана Волкава, Наталля Акініна і Алена Сало, вобраз Буры-Волата ўвасобяць Дзмітрый Капілаў і Аляксандр Краснадубскі. Рэжысёр-пастаноўшчык Галіна Галкоўская заўважае: “На рэпетыцыях спектакля я адзначыла цікавы факт. За чатыры гады, якія прайшлі з моманту першай пастаноўкі, у артыстах, занятых у спектаклі, прараслі творчыя “зярняты” іх роляў, прайшло назапашванне, неабходнае для паўнавартаснага стварэння вобразаў. Акрамя таго, калі задаць пытаннем, чаму “Кашчэй…” не ідзе ў іншых тэатрах, то адказ зразумелы. У гэтай оперы надзвычай складаны матэрыял для салістаў. Аднак у нас склалася такая каманда, дзе артысты проста выдатна спраўляюцца з партыямі. Пры тым, што спектакль насычаны па дзеянні і патрабуе ад выканаўцаў асаблівага акцёрскага майстэрства”.

Музычны кіраўнік і дырыжор спектакля Іван Касцяхін дадае: “У нас такая пастановачная група, дзе ўсе зацікаўлены ў найлепшым выніку, маюць права голасу па любым пытанні, адчуваюць адзін аднаго і заўсёды знаходзяць паразуменне. Так, напрыклад, мне прыйшла ў галаву ідэя, як можна музычнымі сродкамі ўзмацніць сцэнічны вобраз Буры-Волата. Цяпер гэты персанаж у нас не нейкая пэўная асоба, а стыхія, якая можа прымаць антрапаморфны вобраз, “згушчацца” ў чалавека, а потым зноў разлятацца па ўсёй зале”.

Повязі

# Гастролі ў Літве

Урачыста завяршыліся Дні культуры Беларусі ў Літве. Яркую кропку ў святочных мерапрыемствах паставіў Вялікі тэатр Беларусі, які паказаў у Вільнюсе спектакль “Бахчысарайскі фантан” Б. Асаф’ева.



*Народная артыстка Беларусі Вольга Гайко ў ролі Зарэмы.*

**Таццяна АЛЯКСАНДРАВА, Вольга НІКАЛАЕЎСКАЯ, фота прадастаўлена НАВТ оперы і балета**

Беларуская балетная трупа ўжо не ўпершыню выступае на сцэне Літоўскага Нацыянальнага тэатра оперы і балета. На гастролі запрашаюць як увесь калектыў, так і асобных салістаў трупы. Паводле мастацкага кіраўніка балета Юрыя Траяна, у Літве склалася пэўнае кола аматараў беларускага харэаграфічнага мастацтва. Як адзначыў народны артыст Беларусі, тэатр ахвотна прымае прапановы выступіць у гэтай краіне: “Вельмі прыемна, што літоўскія гледачы пастаянна чакаюць нашых гастроляў. Увогуле, мы толькі за тое, каб творчыя кантакты з любым тэатрам былі перманентнымі, пастаянна развіваліся і пашыраліся. Для пачэснай місіі закрываць сёлетнія Дні культуры Беларусі мы абралі даволі рэдкі балет “Бахчысарайскі фантан”. Наколькі я ведаю, цяпер гэты спектакль у класічнай рэдакцыі Расціслава Захарава ідзе толькі ў нас. Галоўныя партыі ў спектаклі выканалі нашы лепшыя салісты — народныя артысткі Беларусі Людміла Кудраўцава і Вольга Гайко, вядучыя майстры сцэны Антон Краўчанка і Дзяніс Клімук”. Спектакль прайшоў у суправаджэнні сімфанічнага аркестра Вялікага тэатра Беларусі пад кіраўніцтвам дырыжора Івана Касцяхіна.

Білеты на “Бахчысарайскі фантан” былі прададзены задоўга да пачатку Дзён культуры — яшчэ ў жніўні. А жадаючыя патрапіць на гэты спектакль задавалі на ўваходзе ў тэатр знаёмае беларускім аматарам харэаграфічнага мастацтва пытанне: “Ці ёсць у вас лішні білецік?” Літоўскія гледачы з захапленнем сустрэлі балет і праводзілі артыстаў авацыямі, доўга не адпускаючы са сцэны.

Як адзначыў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Літве Уладзімір Дражын, “знаёмства з культурай суседніх дзяржаў — гэта магчымасць лепш пазнаць адзін аднаго, лепш зразумець і ўспомніць тыя гістарычныя сувязі, якія аб’ядноўваюць нашы народы. Безумоўна, гэтыя Дні культуры паспрыялі далейшаму пашырэнню міжкультурнага дыялогу паміж нашымі краінамі, а таксама прэзентацыі Беларусі ў Літве”.

Дарэчы, наступныя гастролі артыстаў Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь у Літве запланаваны на верасень 2013 года. А крыху раней, у маі, у Мінск завітае трупа Літоўскага тэатра.

З-пад пяра

Рэспубліканскі семінар “Беларускі народны касцюм у прасторы і часе: пытанні захавання, рэканструкцыі і стылізацыі” прайшоў у Інстытуце культуры Беларусі. Для ўдзелу ў мерапрыемстве былі запрошаны спецыялісты Міністэрства культуры Беларусі, спецыялісты па фальклоры і метадысты па традыцыйным касцюме абласных і раённых навукова-метадычных цэнтраў, выкладчыкі і навукоўцы вядучых вышэйшых і сярэдніх спецыяльных устаноў культуры нашай краіны. Сярод тэм, якія выклікалі найбольшую цікавасць, былі “Беларускі традыцыйны касцюм як фактар нацыянальнай ідэнтыфікацыі беларусаў”; “Лакальныя і рэгіянальныя асаблівасці беларускіх традыцыйных строяў”; “Спецыфіка арнаментыкі і асаблівасці тэхнікі вышыўкі ў традыцыйным беларускім касцюме”; “Сучасная рэканструкцыя і стылізацыя рэгіянальных беларускіх касцюмаў”.

**Раіса МАРЧУК**

Імпрэза пад мілагучнай назвай “Песня помніць…”, прысвечаная фальклору ў творчасці беларускіх паэтэс другой паловы ХХ стагоддзя, адбылася ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры. Супрацоўнікі музея ўпэўнены, што для беларускай жаночай паэзіі фальклорная традыцыя стала асноватворнай. Абапіраючыся на спрадвечныя духоўныя каштоўнасці і каштоўнасці, паэтэсы вяртаюць нас да гэтых вытокаў народна-этычнага ўладкавання жыцця і свету. На вечарыне выступілі Антаніна Хатэнка, Галіна Каржанеўская, Ніна Шклярава. Майстры народнапаэтычнага слова прачыталі вершы на тэму прыроды, кахання, сям’і. Выступіў таксама этнагурт “Сёмуха”.

**Дар’я ШОЦІК**

Серыя канцэртаў “Штомесяц 13-га па-беларуску” ўжо другі сезон знаёміць публіку з нацыянальнай гітарнай музыкай. Выступаюць маладыя выканаўцы аўтарскай песні, а таксама рок- і блюз-гурты з розных гарадоў Беларусі. Удзельнікаў яднае талент, прафесіяналізм, а галоўнае — любоў да “жывой” музыкі і роднай мовы. 13 лістапада ў мінскім клубе “Салтайм” Вольга Акуліч і гурт “Верасень” выступяць з сольным канцэртам. Калектыў, які грае ў стылі інтэлектуальны рок, прадставіць не толькі акустычную праграму з альбома “Трохкутнік”, але і трэкі з кружэлкі “Другі”, а таксама некаторыя новыя кампазіцыі. Спецыяльныя госці: Алег Змушка (гітара) і Дзяніс Балахонаў (гітара, губны гармонік). Пачатак а 19-й гадзіне.

**Вікторыя ЛЯЙКОЎСКАЯ**

Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы працягвае музычныя вечары ў межах праекта “Музыка ў музеі”. І гэтым разам прапанаваў гледачам імпрэзу Ганны Чумаковай, паэтэсы і выканаўцы, лаўрэата конкурсу аўтарскай песні “Купалаўскія вакацыі-2011”. Нагодай для вечарыны стаў выхад яе зборніка вершаў “Мой анёл прысніў мяне…”. Думка нараджае слова. Музыка нараджае песню. Ці наадварот? Разважалі, слухалі і зачароўваліся прыгажосцю слоў і песень усе, хто завітаў у музей.

**Алеся БАЦЮСЬ**



# Літаратурны ўраджай

Традыцыйны фэст "Гомельская літаратурная восень-2012" сабраў аўтараў і аматараў мастацкага слова ў горадзе над Сожам. Чым здзівілі творцы гамяльчан і гасцей горада сёлета, распавёў кіраўнік Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Гаўрыловіч.

**— Уладзімір Мікалаевіч, як узнікла ідэя форуму на гомельскай зямлі, з якой мэтай?**

— Такія літаратурныя святы-сустрэчы праводзяцца па ініцыятыве пісьменнікаў Гомельшчыны з моманту стварэння абласной арганізацыі. "Гомельскія літаратурныя дажынкі", якія задумваліся як творчая справаздача пісьменнікаў вобласці перад чытачом, за некалькі гадоў перараслі ў шырокафарматны фэст з новай назвай — "Гомельская літаратурная восень". Прычым, што немалаважна, фэст набывае міжнароднае гучанне, бо апошнім часам літаратары памежных рэгіёнаў Расіі і Украіны таксама выказваюць жаданне прыехаць у Гомель. І цяпер такую творчую справаздачу на гомельскай зямлі разам з намі праводзяць майстры слова з суседніх краін. Такі фармат сустрэч дапамагае знаходзіць новыя формы супрацоўніцтва, наладжваць узаемаабмены дэлегацыямі пры правядзенні мерапрыемстваў, звязаных з класікамі беларускай, рускай і ўкраінскай літаратур, абменьвацца новымі выданнямі, у тым ліку і перыядычнымі, каб мець уяўленне пра літаратурны працэс у братніх краінах, праводзіць майстар-класы для пачаткоўцаў. І цяпер усё гэта рэальнасць. Мы набылі сапраўдных сяброў, узаемна цікавімся не толькі творчым працэсам, але і паўсядзённым жыццём адзін аднаго, радуемся поспехам, стараемся падтрымаць у цяжкую хвіліну. Гэта яднае, дадае жадання пашыраць межы кантактаў і формы творчых сустрэч.

**— Чым адметная "Гомельская літаратурная восень-2012"?**

— Адметная — адназначна, бо гэтага вымагаюць Год кнігі і юбілеі класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа. Ранкам 2 лістапада ў Белай гасцёўні палацава-паркавага ансамбля адбылася ўрачыстасць, прысвечаная 130-годдзю з дня нараджэння беларускіх песняроў. У ёй бралі ўдзел прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі і ўладаў, літаратары і вучоныя, творчая моладзь. У межах свята былі ўшанаваныя лаўрэаты абласных літаратурных конкурсаў імя Кірылы Тураўскага і прысвечанага 130-годдзю Янкі Купалы і Якуба Коласа. Удзельнікі гэтай урачыстасці пазнаёміліся з рэдкімі выданнямі Якуба Коласа, паслухалі цудоўныя мелодыі, створаныя па матывах твораў класіка.

У абласной спецыялізаванай бібліятэцы імя У. Леніна прайшла галоўная падзея фэсту. Пісьменнікі Гомельшчыны, Масквы, Браншчыны, Куршчыны, Сумшчыны і Чарнігаўшчыны пазнаёмілі чытачоў са сваімі творчымі набыткамі, распавялі пра дзейнасць пісьменніцкіх арганізацый. Новыя творы прадставілі чытачу як вядомыя, так і маладыя аўтары. Трэба сказаць, што сёлета выйшла з друку сапраўды шмат цікавых кніг, нямала гомельскіх пісьменнікаў надрукаваліся як у айчынных, так і замежных мастацкіх часопісах. Прэзентуемыя выданні падаравалі бібліятэцы. Гэта таксама добрая традыцыя.

У гарадской бібліятэцы імя Герцэна адбылася яшчэ адна цікавая імпрэза: пачынаючыя аўтары — выхаванцы Школы маладога літаратара (кіраўнік — Ніна Шклярава) — прадэманстравалі вынікі сваёй творчай дзейнасці.

На другі дзень фэсту ў рэдакцыі газеты "Гомельскія ведамасці" прайшла сустрэча з кіраўніцтвам горада Гомеля і "круглы стол", на якім літаратары трох краін абмяркоўвалі мастацтва слова і развіццё творчых кантактаў, планавалі правядзенне сумесных літаратурных акцый на 2013 год. Для гасцей Гомеля былі наладжаныя экскурсіі па гісторыка-культурных мясцінах другога па велічыні горада Беларусі.

**— Сапраўды, літаратурны фэст атрымаўся цікавым, насычаным падзеямі. І, зразумела, запамінальным для тых, хто ўзяў удзел у абласных літаратурных конкурсах. Раскажыце, калі ласка, як часта ладзяцца такія творчыя спаборніцтвы і каму пашчасціла сёлета "ўзняцца" на Парнас?**

— Шмат ініцыятыў ажыццявіла за апошнія некалькі гадоў Гомельскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі. Многія былі скіраваныя на працу з творчай моладдзю, прапаганду чытання. Абласным аддзяленнем з 1 сакавіка па 1 жніўня праводзіліся два творчыя конкурсы — пяты абласны конкурс імя Кірылы Тураўскага на лепшае апавяданне, і другі абласны паэтычны конкурс, прысвечаны 130-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа.

У конкурсе імя Кірылы Тураўскага ўдзельнічалі людзі розных прафесій, заняткаў, з розных населеных пунктаў Гомельшчыны. Зразумела, і прадстаўленыя імі творы рознага ўзроўню. Разам з тым, парадавала прага да творчасці, імкненне да асэнсавання рэчаіснасці, павага да роднай мовы і культуры. Журы вызначыла лепшыя празаічныя творы. Першае месца прысуджана Тамары Курленцы (апавяданне "Туман над поплавам"). Другое падзялілі паміж сабой Юрый Рачынскі ("Дзень даўжынёю ў жыццё") і Яўген Грыгарэнка ("Цяжкая дарога"). Сакавітым народным гумарам, арыгінальнасцю задумы вылучаюцца апавяданні "Срэбны Двор" Наталлі Трызны і "Індывідуальнасць" Галіны Рагавой. Ім і дасталося трэцяе месца. У адпаведнасці з рашэннем журы яшчэ тры пачынаючыя аўтары будуць адзначаныя заахвочвальнымі ўзнагародамі. Гэта Ганна Кавальчук, Раман Разанаў і Сяргей Прывалаў.

Паэтычны конкурс прайшоў пры даволі вялікай актыўнасці аўтараў. Журы пад кіраўніцтвам паэта Міхася Болсуна прааналізавала і ацаніла амаль чатыры дзясяткі паэтычных спроб. Лаўрэата першай ступені было вырашана не вылучаць. Найбольшай выразнасцю, вобразнасцю вызначаюцца вершы Зінаіды Фісюк і Алены Мінчук. Ім прысуджана другое месца і званне лаўрэатаў конкурсу. Трэцяе месца ў Ганны Плахатнюк.

**— Акрамя творчай, па сутнасці, асноўнай дзейнасці гомельскія пісьменнікі актыўна сустракаюцца з чытачамі, выступаюць у вучнёўскіх класах і студэнцкіх аўдыторыях, у працоўных калектывах, імкнучыся прапагандаваць чытанне, прыкладаючы намаганні, каб беларуская кніга не губляла сваіх пазіцый. А што найбольш цікавага адбылося ў жыцці саміх пісьменнікаў у Год кнігі?**

— Хачу заўважыць, што на працягу апошніх некалькіх гадоў абласное аддзяленне ажыццявіла шэраг выдавецкіх праектаў, накіраваных як на прапаганду творчасці пісьменнікаў, так і на рэалізацыю дзяржаўнай палітыкі ў галіне культуры. Выйшла з друку 98 новых кніг, выдаецца ўласны літаратурны альманах, заснавана спецыяльная серыя "Бібліятэка Гомельскага Абласнога аддзялення ГА «СПБ»". Прыемна і тое, што 23 пісьменнікі сталі лаўрэатамі абласных, рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў і прэмій. Сярод яркіх падзей літаратурнага жыцця Гомельшчыны — фестываль літаратуры і прэсы на рагачоўскай зямлі, абласны конкурс чытальнікаў, які сабраў прыхільнікаў мастацкага слова з усёй вобласці, урачыстыя і памятныя мерапрыемствы з нагоды юбілеяў Янкі Купалы і Якуба Коласа, Максіма Танка, правядзенне традыцыйных і новых літаратурных конкурсаў у гонар класікаў беларускай літаратуры, прэзентацыі кніг, калектыўных зборнікаў…

Што атрымліваецца, а што выклікае цяжкасці ў дзейнасці асобных аўтараў і пісьменніцкай арганізацыі Гомельшчыны ў цэлым, як рэалізуюцца творчыя праекты — пра гэта ішла зацікаўленая размова на сакавіцкай сустрэчы актыву аддзялення са старшынёй абласнога выканаўчага камітэта Уладзімірам Дворнікам. Адным з яе вынікаў з'яўляецца праца па стварэнні Музея літаратуры Гомельшчыны, актывізаваны іншыя справы, накіраваныя на падтрымку мастацкага слова. І гэта радуе нас, літаратараў.

**Дзяніс ІВАНОЎ**

# Арыенціры і вектары

**Таццяна ШАБЛЫКА**

Кастрычніцкі нумар часопіса "Беларуская думка" прапануе багатую палітру цікавых публікацый.

У сваім артыкуле памочнік міністра абароны па ідэалагічнай рабоце ва Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь Аляксандр Гура аналізуе, якое месца займае патрыятызм у пірамідзе каштоўнасцей сучаснай беларускай моладзі. Аўтар выказвае заклапочанасць тым, што ў цяперашніх дзяцей і падлеткаў няма духоўна-маральных арыенціраў, здольных сфарміраваць іх як сапраўдных абаронцаў Айчыны.

У традыцыйнай для часопіса падборцы "Саюзны вектар" друкуецца шэраг публікацый саюзнай тэматыкі. Так, пад назвай "Дзве палавінкі аднаго вялікага сэрца" змешчаны фрагменты дыскусіі пра захаванне помнікаў і памятных мясцін, звязаных з гісторыяй вайны 1812 года. Артыкул "Тэхналагічны кластар нанаэлектронікі" прысвечаны адной з самых амбіцыйных праграм Саюзнай дзяржавы "Прамень", якая накіравана на распрацоўку тэхналогій перспектыўных паўправадніковых гетэраструктур і стварэнне на іх аснове канкурэнтаздольных імпартазамяшчальных вырабаў мікраэлектронікі, оптаэлектронікі і СВЧ-электронікі.

Пра Айчынную вайну 1812 года расказваюць у навуковым артыкуле гісторыкі Аляксандр Каваленя і Васіль Ляўковіч. На гістарычным прыкладзе аўтары даводзяць, што, захоўваючы адзінства і агульнасць духоўнай, культурнай, гуманітарнай і эканамічнай прасторы Беларусі і Расіі, мы можам і сёння актыўна супрацьстаяць знешнім пагрозам і выклікам. У "Балонскіх таямніцах" даследчык Яўген Новік спрабуе паказаць грамадскасці патаемныя бакі Балонскага працэсу, які ў выпадку рэалізацыі ў Беларусі можа прывесці да катастрафічнага зніжэння ўзроўню адукацыі. Аўтар даказвае немэтазгоднасць і недапушчальнасць дзеянняў па разбурэнні беларускай сістэмы адукацыі, адмове ад дысцыплін сацыяльна-гуманітарнага цыкла ў негуманітарных ВНУ, пераўтварэнні ўніверсітэтаў фактычна ў тэхнікумы з 4-гадовым, а затым і 3-гадовым тэрмінам навучання. Іншаму аспекту адукацыйнай тэматыкі прысвечана даследаванне Алега Яноўскага і Арцёма Назаранкі "Універсітэцкія старонкі пракурора". Акцэнт зроблены на ўдзеле Майсея Сегаля — аднаго з першых наркамаў юстыцыі і адначасова пракурора БССР — у станаўленні факультэта права і гаспадаркі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і падрыхтоўкі кадраў беларускіх юрыстаў.

"Пад небам Песняра" — такую назву атрымала інтэрв'ю з дырэктарам Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа Зінаідай Камароўскай — яна расказвае пра мерапрыемствы, якія праводзяцца ў нашай краіне і за яе межамі з нагоды 130-годдзя з дня нараджэння беларускага класіка. Асаблівы акцэнт зроблены на дзейнасці музея, сувязях коласаўцаў з калегамі з іншых краін, працы музейных аб'ектаў на Стаўбцоўшчыне, малой радзіме Якуба Коласа. Прыводзяцца малавядомыя факты з жыцця народнага паэта і яго блізкага атачэння. І яшчэ адно інтэрв'ю, што датычыць пісьменніцкай тэмы. Гутарка галоўнага рэдактара часопіса Вадзіма Гігіна з вядомым беларускім пісьменнікам, грамадскім і палітычным дзеячам Мікалаем Чаргінцом прысвечана яго 75-гадоваму юбілею. У першай частцы, надрукаванай у гэтым нумары, суразмоўцы звяртаюцца да дзяцінства і маладых гадоў пісьменніка. У поле зроку трапляюць пасляваеннае ліхалецце, станаўленне асобы, захапленне футболам, вучоба, пераход на службу ў міліцыю, першыя літаратурныя спробы.




У іншых публікацыях нумара ўздымаюцца праблемы рацыянальнага выкарыстання экалагічных рэсурсаў Беларусі; распрацоўкі адзінай эканамічнай дактрыны ў рамках інтэграцыйнага аб'яднання Беларусі, Казахстана і Расіі; разглядаюцца актуальныя палітычныя і прававыя аспекты станаўлення і развіцця дзяржаўнапрыватнага партнёрства ў нашай краіне.

# Галоўны хор Несцера Сакалоўскага

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1).

Статус стваральніка беларускай песеннай культуры належыць яму безумоўна. Гэтаксама, як Коласу і Купалу — статус заснавальнікаў беларускай класічнай літаратуры. Калі дзякуючы Якубу Коласу і Янку Купалу беларуская літаратура расце з народнай культурнай спадчыны і мовы, то дзякуючы Н. Сакалоўскаму "прафесійная" беларуская песня таксама моцна трымаецца на глебе песні традцыйнай, народнай. Гэта значыць, што ёй не так проста растварыцца ў сінкрэтызме і касмапалітызме сучаснай папулярнай музычна-песеннай творчасці і вытворчасці. Параўнаем, аднак, размах шанавання памяці народных паэтаў і народнага кампазітара...



Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь.

Збіранне і апрацоўка народных песень, кажуць музыказнаўцы, — справа не менш вытанчаная, чым стварэнне арыгінальнай аўтарскай мелодыі. Трэба захаваць сутнасць арыгінала, а гэта нашмат цяжэй, чым адлюстраваць у гуках уласную эмацыянальнасць. Справіцца з гэтым магчыма толькі, калі эмоцыі і духоўнасць народнага мастака перажываць як свае ўласныя. Такая мэта, дарэчы, стаяла не толькі перад самім Несцерам Сакалоўскім, але і перад яго калегамі-кампазітарамі, з якімі ён шчыра дзяліўся сабранай песеннай спадчынай. Запісаныя Несцерам Фёдаравічам народныя песні гучаць таксама ў апрацоўцы Р. Пукста, М. Аладава, Я. Цікоцкага і іншых — у сімфоніях, сюітах, асобных інструментальных п'есах розных жанраў. Так беларуская народная песенная культура атрымала другое жыццё.

Не дзіўна, што многія песні Н. Сакалоўскага нават на ўласную арыгінальную музыку ўспрымаюцца як музычныя сімвалы Беларусі. Такая, безумоўна, "Песня пра Нёман" у сваім непаўторным гучанні-імітацыі павольнага і раздольнага цячэння моцнай ракі з шматлікімі маленькімі хвалямі ля берагоў. Ці не такая ж павольнасць, раздольнасць, моц і, разам з тым, пяшчота складаюць аснову і непаўторнасць нацыянальнага характару?.. Павольна-пяшчотны, ён ператвараецца ў натхнёна-сканцэнтраваны, непахісны, калі сустракаецца з пагрозай.

Адпаведна гучыць і Дзяржаўны гімн. Узнёсла-сцвярджальны ў пачатку ("Мы — беларусы, мірныя людзі..."), ён пераходзіць у павольны рэфрэн. Пра абарону Айчыны "разам з сябрамі" зноў грае мужна-натхнёна, сцвярджальна. "Перадыхнуўшы" ва ўзнёсла-павольных, паступова ўзыходзячых гуках рэфрэна, сцвярджае прынцыповую для сябе "дружбу народаў". Чаргаванне сцвярджальнасці і павольнасці — адметнасць галоўнай мелодыі краіны і сутнасць традыцыйнай беларускасці. "...А хто там ідзе? — Беларусы", — нават у Купалавым вершы, яшчэ "ў лапцях" і з ношай-крыўдай, яны ўжо годна абвяшчалі свету сваё імя.

Не толькі напярэдадні юбілею, але заўсёды, калі чуеш Дзяржаўны гімн, варта памятаць і пра галоўнае яго прызначэнне: яднаць народ і шторазу нагадваць пра яднанне, якое па сутнасці і ёсць яго, народа, спраўджанне, сапраўднае быццё. Сімвалам такога яднання прыгадваецца народны мега-хор на



горцы ля Мінскага кафедральнага сабора снежаньскім вечарам 2002 года — масавае выкананне аднойленага Дзяржаўнага гімна на словы Уладзіміра Карызны. Угледзімся ў твары ўдзельнікаў акцыі і на хвіліну ўбачым іх вачыма Н. Сакалоўскага, кампазітара-хормайстра. Да гэтай падзеі, няхай неўсвядомлена ("Нестар Сакалоўскі пісаў песні, а не гімны", — сказала тады ў інтэрв'ю яго ўнучка), ён ішоў усё жыццё, вылучаючы ў народных мелодыях сутнасць беларускай душы, — дзеля таго, каб яна адчувала і сцвярджала сябе вечна.

Літсувязі

# Вуліца Акадэміка Бакулева

## БЕЛАРУСКІЯ АДРАСЫ Ў МАСКВЕ

Вось яна — Масква — зусім побач ад Беларусі. Няма і тысячы кіламетраў. І ў далёкія, і ў зусім нядаўнія дзесяцігоддзі асветніцкае, культурнае, мастацкае жыццё нашай Айчыны праходзіла ў цесным звязку з расійскай старонкай. І ці не найперш з Масквой. Сюды з Беларусі не толькі ехалі як у цэнтр некалі агульнай дзяржавы, але тут вучыліся, стала жылі многія беларускія пісьменнікі. І цяпер жывуць і працуюць у Маскве нашы землякі — літаратары Алесь Кажадуб, Уладзімір Бутрамееў, Вячаслаў Казакоў, Любоў Турбіна, Аляксей Каўка, Антаніна Лойка-Шэлемава...

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ

З беларускіх літаратурных адрасоў у Маскве варта назваць і гэты: вуліца Бакулева, д. 2, кв. 36. Тут у 1984 — 1987 гадах жыў і працаваў Мікола Калінковіч, пісьменнік-дакументаліст, публіцыст, краязнаўца. Ураджэнец беларускага Палесся, выпускнік факультэта журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, у Маскву ён прыехаў, каб займацца ў аспірантуры вышэйшай школы КДБ СССР. Да вучобы служыў у Ашхабадзе. Пасля Масквы быў накіраваны ў Тбілісі, дзе ў 1990 годзе і загінуў.

Масква ў лёсе Міколы Калінковіча — гэта, відавочна, найболей напружаныя гады ў творчай рабоце нашага земляка. У маскоўскі перыяд выйшлі яго кнігі: "Палескія дні Аляксандра Блока" ў Мінску ў "Мастацкай літаратуры", "Возвращение рассветной рани" — у Ашхабадзе. Была напісана і пабачыла свет у 1990 г. кніга нарысаў "Лунінец" у Мінску, выдавецтва "Полымя". Былі напісаны, складзены і другія кнігі. У тым ліку — і зборнік "Не должен неизвестным быть солдат". Меркавалася, што ён выйдзе ў 1989 годзе ў ашхабадскім выдавецтве "Магарыф". Ці, можа быць, у выдавецтве "Туркменистан". У 1988 годзе ў мінскую "Мастацкую літаратуру" Мікалай Мікалаевіч прадставіў дакументальную аповесць "Ніколі, браткі, не забуду...", прысвечаную У. Самойлу. На адной з папак (рукапіс паступіў у выдавецтва ў 2 экзэмплярах) рукою Міколы пазначана: "...Рэцэнзенты: І. Саламевіч, С. Шупа. Рукапіс перапрацаваны пасля рэцэнзентаў. Першапачаткова паступіў у выдавецтва 1.07.1986 г." Крыху ніжэй: "Мінск — 1988, 10.09.1988". У рукапісе — і старонка з анатацыяй, выхаднымі дадзенымі. Калі меркаваць па іх, то, напэўна, кнігу збіраліся выдаць у 1990 годзе. З выдавецкай анатацыі: "Прыкметны след у нацыянальнай культурнай спадчыне пакінуў вучоны і асветнік, прафесіянальны літаратар, "лепшы друг песняра" Янкі Купалы, першы беларускі карэспандэнт Аляксандра Блока і рэцэнзент яго творчасці Уладзімір Самойла".

Пісьменнік Мікола Калінковіч доўгі час вывучаў жыццё і творчасць Уладзіміра Іванавіча, шмат працаваў у архівах, нястомна вёў пошукавую работу. У выніку і з'явіўся нарыс "Ніколі, браткі, не забуду".

Але і гэтая кніга не дайшла да чытача. Няма ў жывых аўтара — і адпаведна зусім іншы шлях яго рукапісаў да выдання. Такая заўжды рэчаіснасць... У Маскве, на Бакулева, а яшчэ ў сваім аспіранцкім пакоі вышэйшай школы КДБ СССР акрамя як сваёй будучай дысертацыяй Мікола Калінковіч займаўся і іншымі творчымі клопатамі. У канцы 1980-х брэсцкая абласная газета "Заря" друкавала з працягам аповесць Міколы пра А. Грыбаедава на Берасцейшчыне. А ў рэдакцыі туркменскага часопіса "Ашхабад" (у 1985 — 1988 я жыў у Туркменістане) мне самому давялося бачыць машынапісны асобнік дакументальнага рамана "Керкинский бастион".

Лабараторыя пісьменніка — заўсёды няпростая і шматабсяжная прастора, якую арганізоўвае для сябе творца. Асабліва няпростай і шматабсяжнай бывае творчая лабараторыя пісьменніка, які займаецца гісторыяй. Тым болей — у дакументальным жанры.

Мікалай Мікалаевіч працаваў у архівах, бібліятэках. Асабліва добра ведаў ён Цэнтральны ваенна-гістарычны дзяржаўны архіў. Вось і аўтару гэтых радкоў ён пісаў 16 кастрычніка 1986 года: "...Увесь — у архіве. Думкі ў 1813 — 1816 гг. у Брэсце. Галоўнае — дзяжурства генерала ад кавалерыі і кавалера Калагрывава (у яго ад'ютантам служыў Грыбаедаў).

Бачу эпоху, бачу вобразы, дэталі і г. д. Фіксую — хутчэй, хутчэй. Думаю, шукаю, параўноўваю. Спяшаюся. На жаль, часу ў Маскве мала — позна кінуўся ў архіў. Тут працы — стагоддзі. "ЦВИГА" (Лефортава) — любімы..." 31 кастрычніка 1986 года: "...Працую ў архіве, што шукаю — знаходжу. Будуць удакладненні ў біяграфію Грыбаедава цікавячага мяне перыяду, у прыватнасці, знайшоў дакладна, калі ён залічаны ад'ютантам да генерала Калагрывава і калі быў у шпіталі і г. д. Трэба яшчэ больш працаваць..." І яшчэ з аднаго ліста: "У ЦВИГА" трэба збіраць (паспець!) матэрыялы пра Савіча, Незабытоўскага, Каліноўскага, Ладу-Заблоцкага, Янушкевіча і інш. Было б 48 гадзін у сутках..."

Адтуль, з маскоўскай вуліцы Бакулева, ішлі лісты ад Міколы Калінковіча і ў Ашхабад, і ў Мінск, і ў родны Лунінец. Пісьменнік быў у добрых адносінах з краязнаўцам, гісторыкам, пісьменнікам Генадзем Каханоўскім. Сустракаўся ў Маскве з беларускім краязнаўцам Уладзімірам Сазановічам, які жыў у Падмаскоўі. З рознымі запытамі звяртаўся да энцыклапедыста Віталя Скалабана. 19 сакавіка 1986 г. пісаў яму з Масквы: "Шаноўны Віталь Уладзіміравіч! Дзякую за "Братэрства". Віншую з публікацыяй! Цікава і зроблена шмат! Маю патрэбу звярнуцца да Вас. Парайце, калі ласка, альбо дапамажыце з "Вашай" літаратурай: 1. "Помнікі Брэсц. і Гом. абл." (Віцеб. ёсць). 2. Энцыкл. "Янка Купала".

3. "Фр. Скарына і яго час" (даведнік). 4. "Энцыкл. прыроды Беларусі". 5. "Энцыкл. л-ры і маст-ва Бел."

Вось пакуль і ўсё. З павагай Мік. К-віч".

Крыху раней (3 сакавіка) з Бакулева пайшоў яшчэ адзін ліст Віталю Скалабану: "...Задавальняю Вашу просьбу. Шкада, што так атрымліваецца. Выдавецкае "головотяпство". Справа не ў аўтару. Усё ж — Блок! І ўсяго 4 тыс. экз. на ўсю рэспубліку. Паведаміце, ці атрымалі. Прывітанне роднаму Мінску.

З пав. Мік. К-віч".

Жыццё пісьменніка складаецца з многіх драбніц. І заўсёды, аглядаючы зробленае тым ці іншым літаратарам, важна ўлічваць атмасферу, асяроддзе, тую прастору, што звязаны з творчай работай.

# Мастацтва скрупулёзнасці

## Беларускае літаратуразнаўства 2000-х

Ірына ШАЎЛЯКОВА

Шматгадовае асэнсаванне заканамернасцей гістарычнага развіцця нацыянальнага прыгожага пісьменства ў 2000-х гадах знайшло ўвасабленне ў працах фундаментальных: 4-томнай "Гісторыі беларускай літаратуры ХХ стагоддзя" (1999 — 2003, навуковыя рэдактары — У. Гніламёдаў, В. Каваленка, С. Лаўшук) і "Гісторыі беларускай літаратуры ХІ — ХІХ стагоддзяў" у 2 тамах (2007—2010, навуковыя рэдактары — У. Мархель, В. Чамярыцкі). Важкасць згаданых выданняў у культурнай прасторы сучаснай Беларусі неаспрэчная: папершае, тут у сістэмна-абагульненым выглядзе прадстаўлены напрацоўкі беларускага літаратуразнаўства апошняй трэці ХХ ст.; па-другое, панарама нацыянальнага гісторыка-літаратурнага працэсу паўстае не кропкава "выпраўленай", але сутнасна, канцэптуальна ўдакладненай. Напрыклад, у згаданай "Гісторыі беларускай літаратуры ХІ — ХІХ стагоддзяў" не толькі абгрунтавана, але і "рэалізавана новая канцэпцыя даўняй і новай беларускай літаратуры, істотна ўдакладнена яе перыядызацыя, упершыню ў літаратурны працэс шырока ўключаны важкі пласт лацінамоўнай і польскамоўнай пісьмовай спадчыны".

*Скрупулёзная фактаграфічнасць* (у аснове якой — праца па выяўленні, апісанні, сістэматызацыі мастацкіх тэкстаў, біябібліяграфічных звестак, фактаў і інш., у тым ліку невядомых ці па розных прычынах выцесненых на перыферыю літаратуразнаўчага ўжытку) беларускімі медыявістамі розных пакаленняў прымаецца ў якасці найбольш трывалага грунту для гісторыка-культурнай рэканструкцыі развіцця нацыянальнага мастацтва слова, дзе дакладнасць арганічна спалучаецца з адмысловай захапляльнасцю. Цягам 2000-х з'явіўся шэраг сапраўдных узораў падобных даследаванняў: згадаем манаграфію Г. Кісялёва "Жылі-былі класікі: Хто напісаў паэмы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе»" (2005); кнігі У. Мархеля "Шлях да Беларусі: А. Міцкевіч — прадвеснік адраджэння беларускай літаратуры" (2003), "Творчасць Уладзіслава Сыракомлі" (2005); працу М. Хаўстовіча "Айчына здалёку і зблізку: Ігнацы Яцкоўскі і Аляксандр Рыпінскі" (2006). Спалучэнне дакладнасці, строгай узважанасці ў дачыненні да гістарычных звестак, матэрыялаў, сведчанняў з арыгінальнай іх канцэптуалізацыяй уласціва манаграфіям С. Кавалёва ("Літаратура Беларусі позняга Рэнесансу: Жанры, творы, асобы" (2005), "Шматмоўная паэзія Вялікага Княства Літоўскага эпохі Рэнесансу" (2010), "Літаратура Вялікага Княства Літоўскага XVI — пачатку XVII ст.: феномен культурнага памежжа" (2011) і інш.); І. Саверчанкі ("Паэтыка і семіётыка публіцыстычнай літаратуры XVI — XVII стст.", 2012); даследаванням Т. Казаковай, У. Кароткага, іншых вядомых літаратуразнаўцаў.

Станаўленню і эвалюцыі папулярных жанраў беларускай перакладной літаратуры XV — XVII стст. (рыцарскага рамана і навелы, гістарычнага рамана і аповесці) прысвечана манаграфія А. Бразгунова "Перакладная белетрыстыка Беларусі XV — XVII стагоддзяў" (2007), дзе ўпершыню помнікі перакладнога пісьменства ("Трышчан", "Бава", "Александрыя", "Троя" і інш.) разглядаюцца ў супастаўленні з іх еўрапейскімі крыніцамі. Арыгінальны плён вывучэння генезісу і развіцця дакументальных і аўтабіяграфічных жанраў знайшоў увасабленне ў артыкулах С. Гараніна, В. Чамярыцкага. У манаграфіі "Нясвіжская Мельпамена: Драматургія Францішкі Уршулі Радзівіл" (2002) Ж. Некрашэвіч-Кароткая не толькі аналізуе арыгінальныя трагедыі, камедыі і оперы Ф. У. Радзівіл, але і на шырокім культуралагічным фоне даследуе гісторыю нясвіжскага прыдворнага тэатра (да сярэдзіны XVIII ст.), выяўляе спецыфіку прыдворнай тэатральнай культуры Беларусі ў яе сувязі з заходнееўрапейскай традыцыяй. Зварот да шырокага гісторыка-культурнага і ўласна літаратурнага кантэксту пры захаванні фактаграфічнай дакладнасці абумоўлівае не толькі навуковую вартасць, але і асветніцкую каштоўнасць, адукацыйную запатрабаванасць прац І. Штэйнера "Шматмоўная літаратура Беларусі XIX стагоддзя" (2002), Я. Янушкевіча "За архіўным парогам: Беларуская літаратура XIX — XX стагоддзяў у святле архіўных пошукаў" (2002), І. Запрудскага "Нарысы гісторыі беларускай літаратуры XIX стагоддзя" (2003), М. Хаўстовіча "Жыццё і творчасць Рамуальда Падбярэскага" (2008) і інш.

У шэрагу аўтаразнаўчых прац (якія ўтвараюць надзвычай важкі корпус у агульным плёне гісторыка-літаратурных даследаванняў першага дзесяцігоддзя XXI ст.) перспектывы захавання каштоўнаснай ды эстэтычнай *самасці* нацыянальнага мастацтва слова як бы "змыкаюцца" з яго класічнымі вытокамі. Даследчыкі старэйшага пакалення аддаюць перавагу своеасабліваму жанру "агледзін" творчай спадчыны класікаў XIX — XX ст.: "Янка Купала: Жыццё і творчасць" (2002) У. Гніламёдава, "Актуальнасць традыцый: Якуб Колас у пісьменніцкім асяроддзі" (2002) В. Жураўлёва, "Кандрат Крапіва і беларуская драматургія" (2002) С. Лаўшука, "Кузьма Чорны: Эвалюцыя мастацкага мыслення" (2004) М. Тычыны, "Уладзімір Дубоўка: кніга пра паэта" (2005) Д. Бугаёва, "Мае Каласавіны: З вопыту вывучэння літаратурнай і гісторыка-культурнай дзейнасці Якуба Коласа" (2010) М. Мушынскага. Варта зазначыць, што агляд жыцця і творчасці постацей, знакавых не толькі для айчыннага прыгожага пісьменства, але і для станаўлення нацыянальнай культуры, як правіла, вымыкаецца за жанравыя межы навуковай манаграфіі, разгортваючыся ў адмысловае *мастацкае даследаванне, навукова-мастацкі эпас жыцця і творчасці* пісьменніка: да згаданых вышэй прац у гэтым сэнсе можна далучыць кнігі "Праўдзівая гісторыя жыцця і творчасці Міхася Зарэцкага" (2005), "Падзвіжнік з Малой Багацькаўкі: жыццёвы і творчы шлях Максіма Гарэцкага" (2008) М. Мушынскага; "Уладзімір Караткевіч: жыццё і творчасць" (2005) А. Вераб'я; "Жыцце і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча" (2010) А. Мальдзіса; "Летапіс жыцця і творчасці Аркадзя Куляшова" (2012) Т. Голуб.

> *"У шэрагу аўтаразнаўчых прац (якія ўтвараюць надзвычай важкі корпус у агульным плёне гісторыка-літаратурных даследаванняў першага дзесяцігоддзя XXI ст.) перспектывы захавання каштоўнаснай ды эстэтычнай самасці нацыянальнага мастацтва слова як бы "змыкаюцца" з яго класічнымі вытокамі.*

Асэнсаванне фундаментальных праблем развіцця нацыянальнага мастацтва слова ХХ ст. у першае дзесяцігоддзе XXI ст. таксама разгортваецца ў рэчышчы "шырокакантэкстных" гісторыка-культурных доследаў, выразна арыентаваных на міждысцыплінарны пошук. Прыхільнікі розных літаратуразнаўчых школ і метадалогій факусіравалі ў гэты час увагу на аналізе праблем, якія маюць ключавое значэнне не толькі для разумення спецыфікі гістарычнага развіцця нацыянальнай літаратуры, але і для вызначэння найбольш імаверных яе перспектыў. Надзвычай сімвалічнай у гэтым сэнсе падаецца ўжо назва кнігі М. Мішчанчука "Класіка — сучаснасць — перспектывы: пра літаратурны працэс ХХ стагоддзя" (2009): у гэтай манаграфіі "літаратура Беларусі паўстае ў сваёй шматграннасці: і як рэалістычная, і як рамантычная, і як схільная да мадэрнісцкіх і постмадэрнісцкіх пошукаў, з характэрнай ёй жанравай адкрытасцю ў першай трэці і асабліва ў апошнія два дзесяцігоддзі ХХ і ў пачатку XXI стагоддзя".

На досвітку XXI ст. праблема суадносін традыцый і наватарства ў літаратурным працэсе ХХ ст. пачынае разглядацца ў каардынатах *дынамічнай рэтраперспектывы*, што выводзіць даследчыкаў гасцінцам літаратуразнаўства на скрыжаванне філасофіі, эстэтыкі, тэорыі і гісторыі культуры, этнапсіхалогіі і псіхалогіі мастацтва. З асаблівай рэльефнасцю гэта выяўляецца ў даследаваннях Т. Аўдонінай "Жыць на Зямлі...: філасофія быцця ў драматургіі А. Дударава і класічная традыцыя" (2005), Я. Гарадніцкага "Мастацкі свет беларускай літаратуры ХХ стагоддзя" (2005), Л. Кісялёвай "Маргіналіі: беларуская гуманістычная літаратура XIX — пачатку ХХ ст. у святле сучасных літаратуразнаўчых канцэпцый" (2007), І. Штэйнера "Свет шчодры. Свет мяне паўторыць...": паэзія У. Караткевіча і класічныя традыцыі" (2008), у шэрагу прац А. Андрэева, дзе разглядаюцца тэарэтычныя праблемы літаратурна-мастацкай творчасці, асэнсоўваецца феномен "персонацэнтрычнай літаратуры" і інш.

> *"На досвітку XXI ст. праблема суадносін традыцый і наватарства ў літаратурным працэсе ХХ ст. пачынае разглядацца ў каардынатах дынамічнай рэтраперспектывы, што выводзіць даследчыкаў гасцінцам літаратуразнаўства на скрыжаванне філасофіі, эстэтыкі, тэорыі і гісторыі культуры, этнапсіхалогіі і псіхалогіі мастацтва.*

Пільны інтарэс выклікае асэнсаванне згаданай вышэй праблемы ў дачыненні да розных узроўняў анталагічнага функцыянавання нацыянальнай літаратуры — не толькі як *мастацка-эстэтычнай сістэмы* (манаграфіі В. Максімовіча "Эстэтычныя пошукі ў беларускай літаратуры пачатку ХХ стагоддзя" (2000), "Нацыянальны космас класікі: дыялог традыцый і наватарства ў творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа" (2008); кніга А. Бельскага "Беларуская літаратура ХХ стагоддзя: гісторыя і сучаснасць" (2005); даследаванне Т. Вабішчэвіч "Станаўленне нацыянальнай паэтычнай традыцыі (1900 — 1910-я гг.): фактары, механізмы, этапы" (2009), але і як *прасторы нацыянальнай культуратворчасці* (манаграфіі І. Багдановіч "Авангард і традыцыя: беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння" (2001), В. Бароўкі "Мастацкае народазнаўства ў беларускай прозе ХХ стагоддзя (на матэрыяле прозы)" (2009), І. Жука "Матыўная прастора беларускай літаратуры пачатку ХХ стагоддзя" (2009), В. Жураўлёва "Класіка і літаратурная сучаснасць: духоўны патэнцыял чалавека" (2011) і інш.).

З агульнай плыні літаратурных падзей і з'яў мінулага стагоддзя вылучаюцца феномены, якія ў айчынным літаратуразнаўчым дыскурсе пачатку XXI стагоддзя набываюць статус знакавых у дачыненні да вызначэння магістральных кірункаў развіцця нацыянальнага прыгожага пісьменства: працы І. Афанасьева "Чарнобыльскае светаадчуванне ў сучаснай беларускай літаратуры" (2001), П. Васючэнкі "Беларуская літаратура ХХ ст. і сімвалізм" (2004), Т. Фіцнер "Гендэрны аспект у беларускай літаратуры ХХ стагоддзя" (2005), А. Брадзіхінай "Сучасная беларуская інтымная лірыка: тэндэнцыі і перспектывы развіцця" (2009), С. Калядкі "Беларуская сучасная жаночая паэзія: мастацкія канцэпцыі «жаночага шчасця»" (2011) і інш. Прычым адмысловай "пасіянарнасцю" аксіялагічных, эстэтычных, мастацкіх пошукаў, калі меркаваць па літаратуразнаўчых даследаваннях 2000-х, увагу даследчыкаў прыцягваюць два перыяды. Відавочнае "лідарства" належыць *першай трэці ХХ стагоддзя*, што засведчана даволі значнай колькасцю прац: "У пошуку духоўных ідэалаў: На матэрыяле беларускай літаратуры XIX — пачатку ХХ ст." (2000) В. Жураўлёва; "Моўна-стылёвыя праблемы эпічнага жанру 20-х гадоў: Партрэт. Пейзаж" (2001) З. Драздовай; "Шыпшынавы край: Старонкі беларускай літаратуры 20 — 30-х гг. ХХ ст." (2002) В. Максімовіча; "Паміж былым і будучым: проза Гарэцкага" (2003) І. Чыгрына; "Вобразы мілыя роднага краю: Прастора і час у трылогіі Якуба Коласа «На ростанях»" (2004) А. Шамякінай; "Выпрабаванне чалавечнасці: Беларускае апавяданне аб рэвалюцыі і грамадзянскай вайне" (2008) І. Шаладонава; "Чалавек у плыні часу: Мастацкая канцэпцыя асобы і тыпалогія характараў у беларускай прозе першай трэці ХХ стагоддзя" (2009) А. Белай; "Праз прызму жыцця: стылёва-жанравыя асаблівасці апавяданняў Якуба Коласа" (2009) А. Манкевіч; "Паэзія Заходняй Беларусі: (1921 — 1939)" (2010) М. Мікуліча і інш. Але калі, напрыклад, прадстаўнік старэйшага пакалення даследчыкаў М. Мішчанчук разглядае традыцыйнае ў літаратуры ХХ стагоддзя як "стрымліваючы фактар эксперыменту без берагоў, грунт з'яўлення і ўмацавання наватарскага", дык увага маладзейшага пакалення літаратуразнаўцаў факусіруецца на спробах выйсці з берагоў традыцыі ў літаратурным працэсе *другой паловы 1980-х — 1990-х гадоў*: манаграфіі А. Бязлепкінай "Разам і паасобку: Таварыства "Тутэйшыя": Гісторыя, асобы, жанры" (2003), У. Верынай "Верлібр у паэзіі беларускага авангарду 1980 — 1990-х гадоў" (2005).

Адметнае месца ў гісторыка-літаратурных доследах 2000-х займаюць працы, прысвечаныя *панарамнаму асэнсаванню* дынамікі, заканамернасцей, тэндэнцый *развіцця паэзіі* ("Апалогія красы: Кніга пра беларускую паэзію" (2003) Л. Тарасюк; "Споведзь перад Богам і людзьмі: беларуская паэзія на стыку тысячагоддзяў" (2007) І. Штэйнера), *прозы* ("Мастацкі этнаграфізм у беларускай прозе ХХ стагоддзя" (2004) В. Бароўкі), *драматургіі*. Так, "ад вытокаў да п'есы абсурду" разглядае беларускую драматургію П. Васючэнка: у яго кнігах "Сучасная беларуская драматургія" (2000, 2002) аналіз твораў (Я. Купалы, К. Крапівы, А. Макаёнка, У. Караткевіча, І. Чыгрынава, А. Петрашкевіча, А. Дударава і інш.) розных жанраў спалучаецца з панарамным бачаннем сучаснага драматургічнага працэсу ў яго дынаміцы.

Даследаванне С. Лаўшука "Гарызонты беларускай драматургіі" (2010) сталася самым маштабным (і паводле ахопу фактычнага матэрыялу, і паводле спектра тэарэтычных праблем, якія асэнсоўваюцца ў манаграфіі) вопытам абагульнення шляху беларускай драматургіі ад вытокаў да нашых дзён. Праца, дзе не толькі выяўляюцца заканамернасці і супярэчнасці развіцця нацыянальнай драматургіі (у тым ліку ў аспекце станаўлення творчай метадалогіі, суадносін традыцый і наватарства), аналізуюцца яе эстэтычныя і жанрава-стылёвыя пошукі, але і асэнсоўваецца роля айчыннай драматургіі ў стварэнні нацыянальнага тэатра, у станаўленні і развіцці нацыянальнай самасвядомасці, засведчыла сваю важкасць і важнасць па-за межамі ўласна літаратуразнаўчай прасторы 2000-х, дзе даследаванні драматургіі займаюць недаравальна сціплае месца.

# Храм Фёдара Палачаніна

Іван ЖУКАЎ

Фёдар Антонавіч успамінае: “У той час сэнсам свайго жыцця я лічыў працу. Аддаваўся ёй поўнасцю, не шкадуючы ні вольнага часу, ні сіл, ні здароўя. Але, нягледзячы на маю стараннасць, на працы мне прычынілі вялікую крыўду. На душы было вельмі цяжка, балюча, адзінока…

І вось аднойчы калядным вечарам, вярнуўшыся з работы, я пачуў па радыё песню Раства Хрыстова “Неба і зямля”, якая вельмі мяне ўсхвалявала, прымусіла задумацца над сэнсам жыцця. Крыўда і несправядлівасць адступілі. Мае думкі заняў роздум аб Вечнасці.

Неяк неспадзявана ўзнікла жаданне напісаць верш, па-свойму расказаць пра зямны шлях Сына Божага. Радкі нібы самі прасіліся на паперу”.



З таго часу Фёдар Палачанін стварыў некалькі літаратурна-музычных кампазіцый, а ўжо ў 2005 годзе выдавецтва “Беларусь” выпусціла пад грыфам “Рэкамендавана Цэнтрам вучэбнай кнігі і сродкаў навучання Нацыянальнага інстытута адукацыі” яго кнігу “Нявыпраўленая памылка”. Класныя кіраўнікі, выкладчыкі курса “Рэлігіязнаўства”, кіраўнікі драматычных гурткоў атрымалі выдатны дапаможнік.

У 2006 годзе выйшла кніга “Школьнікам аб праваслаўнай веры”. Бібліятэкар З. Крыкун так выказалася пра гэтае выданне: “Кнігу Фёдара Палачаніна “Школьнікам аб праваслаўнай веры” з чыстым сумленнем можна рэкамендаваць у спіс настольных. Яна павінна быць на вачах кожную хвіліну, бо толькі ў кнігах, падобных гэтай, можна знайсці адказы на пытанні, якія паўстаюць перад намі ў штодзённым жыцці”.

Фёдар Палачанін лічыць сваім абавязкам пастаянна звяртацца да рэлігійнай тэмы, якая стала яму блізкай. У мастацкіх творах яна ідзе побач з тэмамі кахання, сяброўства, адзіноты. Гэта выразна выяўляецца ў кнігах “Белы абрус” (2002), “Урок на ўсё жыццё” (2003), “Вяртанне да першачысціні” (2004), “Пазычанае шчасце” (2005), “Зраненае сэрца” (2011).

У кнізе “Зраненае сэрца” драматург тлумачыць сваё творчае крэда: “Само жыццё з’яўляецца галоўным арыенцірам у маёй творчасці. Менавіта з яго бяру многія факты. Мая літаратурная творчасць накіравана супраць зла і несправядлівасці, крыўды і здрады, фанабэрыстасці і маральнай разбэшчанасці — усяго таго, што перашкаджае людзям быць вясёлымі і шчаслівымі, добрымі і справядлівымі, каханымі і любімымі. Найбольш хвалююць мяне маральна-этычныя праблемы. Ім прысвечана большасць маіх работ”.

Фёдар Палачанін перакананы: “Чалавек, чыё сэрца напоўнена нязгаснай любоўю да Бога, па-іншаму глядзіць на сябе, на людзей, на Радзіму. Для яго духоўныя арыенціры важнейшыя за матэрыяльныя. Яму Радзіма заўсёды будзе даражэй, чым нейкія часовыя замежныя матэрыяльныя выгоды ці каштоўнасці”.

Многія з твораў Ф. Палачаніна маюць сцэнічнае ўвасабленне. Па п’есах “Спытай сэрца сваё” і “Расплата за нелюбоў” рэдакцыяй літаратурна-драматычных праграм Беларускага радыё былі падрыхтаваны радыёспектаклі.

Нацыянальныакадэмічныдраматычны тэатр імя Якуба Коласа ажыццявіў пастаноўку спектакля па п’есе Ф. Палачаніна “Пазычанае шчасце”. Рэжысёр-пастаноўшчык — заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Вячаслаў Грушоў. Прэм’ера адбылася 14 красавіка 2009 года на радзіме аўтара, у Докшыцах.

З вялікай ахвотай звяртаюцца да п’ес Ф. Палачаніна і аматарскія тэатральныя калектывы. Так вучні сярэдняй школы № 1 г. Докшыцы пад кіраўніцтвам настаўніцы гісторыі прадставілі спектакль паводле трагедыі “Сцяпан і Вяльна”, у аснову якой пакладзена мясцовая легенда пра Сцёп-камень у Докшыцкім краі і пра ўтварэнне рэчкі Віліі.



Людміла Гільніч пісала пра спектакль: “Амаль паўтары гадзіны зала жыла падзеямі сівой мінуўшчыны. Перад гледачамі паўстала гісторыя трагічнага кахання. Шаснаццацігадовыя юнакі і дзяўчаты з іх максімалізмам ператварыліся ў сур’ёзных герояў аповеду. З іх вуснаў замест такога звыклага маладзёжнага слэнгу гучалі народныя прымаўкі, на якія багатая творчасць аўтара”.

Фёдар Антонавіч не ўяўляе свайго жыцця без грамадскай дзейнасці. Ён актыўны ўдзельнік многіх мерапрыемстваў, што праводзяцца не толькі ў раёне, але і ў вобласці.

Пісьменнік — жаданы госць у працоўных калектывах, ва ўстановах культуры і адукацыі. Ён член Саюза пісьменнікаў Беларусі, лаўрэат Рэспубліканскай літаратурнай прэміі “Залаты Купідон” і літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Караткевіча, лаўрэат рэспубліканскага літаратурнага конкурсу “Лепшы твор 2009 года” ў галіне публіцыстыкі за кнігу “Докшыцкі край”. Ф. Палачанін мае шэраг узнагарод. Але, напэўна, самая высокая сярод іх — прызнанне прыхільнікаў яго таленту.

**Даведка “ЛіМа”:**

Фёдар Антонавіч Палачанін нарадзіўся 27 жніўня 1951 года ў вёсцы Чаркасы Докшыцкага раёна. Працаваў настаўнікам, метадыстам і інспектарам раённага аддзела адукацыі, пасля — інструктарам ідэалагічнага аддзела Докшыцкага райкама партыі. Літаратурнай дзейнасцю ён пачаў займацца, пражыўшы больш як сорак гадоў. Здарылася гэта неспадзявана для яго самога.

# Думкі, версіі і праўда

Міхась МАЛІНОЎСКІ

Нешта загадкава-таямнічае, нязвычнае хаваецца ў літаратурным псеўданіме Івана Міско — Анатоль Іверс.

Калі звярнуцца да яго яркай, самабытнай песеннай паэзіі, дык там, колькі ні шукай, не знойдзеш адгадкі, чаму ён выбраў сабе такое літаратурнае імя. Але знаёмства з яго рэвалюцыйнай, падпольнай, антыфашысцкай дзейнасцю, жыццёвым шляхам дае даследчыкам падставы для нейкіх здагадак, версій.

Першай каханай жанчынай Івана Дарафеевіча была Вера Налівайка. 25 лістапада 1943 года ў Слоніме і ў яго ваколіцах пачаліся чарговыя арышты падпольшчыкаў-антыфашыстаў, сувязных і членаў іх сямей, на хутары каля вёскі Чамяры былі схопленыя сярод іншых жонка паэта Вера і бацька — Дарафей Іванавіч, яны загінулі пад Баранавічамі ў страшэнным лагеры смерці Калдычэва. Верш “Гляджу на лес” (1949) прысвечаны памяці пра жонку, закатаваную фашыстамі.

І вось нам падумалася, што Іван Дарафеевіч узяў псеўданім у гонар сваёй красуні жонкі. І (пачатак яго сапраўднага імя) — вер — с, толькі для аздаблення, для незвычайнага каларыту літару “а” змяніў на “с”.

Слынная пяснярка нёманскага краю Данута Бічэль у артыкуле “Іверс і верш” (2012) агучыла версію, падобную да нашай здагадкі. “Іван пайшоў на досвітку па грыбы. Ідучы міма Верынай хаты, пастукаў у акенца, разбудзіў яе. Яна выглянула, галавой паказаў, што будзе чакаць у лесе. Пайшоў на тыя горкі, якія дрэмлюць з часоў невядомай далёкай вайны… Хадзіў паміж соснаў і пазіраў, калі па сцяжыне будзе ісці Вера. Яна прыйшла, у яго ў кошыку было ўжо некалькі бурых, затуманеных шчырых шапкаў. Яна зірнула ў кошык і мовіла:

— Іверс!

— А як гэта ты абзываешся? — засмяяўся…

— Хіба я абзываюся? Іверс — Іван і Вера…

— А чаму на канцы сыкае?

— А гэта — наш сакрэт… такі кароткі верш…

— Не сакрэт, — зразумеў Іверс, — гэта сям’я…

Іван Міско пачаў падпісваць вершы гэтым прозвішчам, а імя Анатоль прыдумаў, каб добра гучала…”

Вядомы паэт і навуковец Іван Чыгрын вось так красамоўна і цікава трактуе псеўданім паэта:

*Мне псеўданім Ваш так*
*чытаецца:*
*Што трэба верыць у сябе,*
*Што той свабоды*
*дамагаецца,*
*Хто смак спазнае ў барацьбе.*

Алег Лойка прапануе іншую версію з’яўлення псеўданіма: “Як гаварыў мне калісьці сам Іван Дарафеевіч, выбар псеўданіма быў абумоўлены найперш яго незадаволенасцю распаўсюджанымі ў 20-я — на пачатку 30-х гадоў псеўданімамі ў заходнебеларускай паэзіі, накшталт Чабор, Васілёк і інш. Ён марыў не пра сялянска-кветкавы псеўданім, а пра такі, у якім бы чутно было водгулле слоў “Інтэрнацыянальная”, “рабочы”, “селянін”. І гэта зразумела: 30-я гады ва ўмовах былой Заходняй Беларусі нараджалі новы тып рэвалюцыйнага інтэлігента і паэта, выхадца з вёскі. Але сёння мне здаецца, што яшчэ і водгулле імені “Вера”, самога слова “вера” выразна адбілася на псеўданіме таго, хто стаў Анатолем Іверсам. Малады чалавек — інтэрнацыяналіст, блізкі пераемнік рэвалюцыйнай Заходнебеларускай сялянска-работніцкай грамады, ён глядзеў яшчэ на свет і вачыма юнака-рамантыка, якога на нялёгкі шлях змагання бласлаўлялі і імя дзявочае, і яе вялікасць вера ў бацькоўскі край, у свой народ”.

Са словам “вера”, дакладней, з радкамі Валянціна Таўлая “і верай сонечнаю жыць”, звязвае псеўданім Івана Міско паэтэса, літаратуразнаўца Алена Руцкая.




Сам жа Іван Дарафеевіч так тлумачыў паходжанне таямнічага прозвішча Іверс:

“Пры панскай Польшчы пісаць беларускія патрыятычныя вершы было небяспечна. Польскія акупанты бачылі ў гэтым падрыў свайго панавання ў Заходняй Беларусі. Псеўданім Міхася Васілька раскрылі і аўтара каталі за непрыхільнае да іх пісанне.

Выбіраючы свой псеўданім, я не хацеў паказваць захопнікам нацыянальную традыцыю: Васілёк, Чабор. Слова “іверс” гучала па-другому, магчыма не па-беларуску. Але спалучэнне зычных в, р, с мне падабалася тады, верылася, што не супярэчыла нашым імкненням да свабоды. І “Анатоль” — гэта не Міхась, не Янка (маецца на ўвазе Васілёк і Чабор, якіх я любіў і паважаў). Словам, мой псеўданім дэфензіва (ахоўная паліцыя ў панскай Польшчы) не раскрыла да канца свайго існавання ў Польшчы, Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне. А паколькі пад гэтым псеўданімам у Вільні ў верасні 1939 года выйшаў мой першы паэтычны зборнік “Песні на загонах”, то не было сэнсу мяняць літаратурнае прозвішча”.

У 2011 годзе выйшлі ў свет пасмяротныя “Аўсяныя росы” Анатоля Іверса. А зусім нядаўна дзякуючы ўнуку Анатоля Іверса Аляксандру Міско і пісьменніку Сяргею Чыгрыну пабачыла свет выданне “Жыццё і творчасць Анатоля Іверса: Успаміны, згадкі, рэцэнзіі, прысвячэнні, пісьмы, фотаздымкі” (Мінск, 2012).

Паэзія Іверса — гэта магутнае шматгалоссе незабыўнага, шчырага, адкрытага і ў нечым таямніча-загадкавага, казачнага слонімскага краю.



Алесь ШПЫРКОЎ

Імя Алеся Шпыркова добра вядома чытачам. Нарадзіўся віцебскі паэт на Расоншчыне, атрымаў дзве вышэйшыя адукацыі. Амаль усё сваё жыццё звязаў з перыядычным друкам. Адзін з аўтараў калектыўнага зборніка "Сцяжына" і аўтар кнігі вершаў "Карабель мой блакітназялёны".

Не ведаю, як каго, а мяне творчасць Алеся Шпыркова кранае, прымушае надоўга не адкладваць убок прачытанае. Паэзія сённяшняга юбіляра не павучае, як жыць, а падказвае, як жыць не варта, бо сама існуе па законах дабра і чалавечнасці, а яе творца, цалкам страціўшы зрок, далёка і глыбока бачыць сэрцам.

**Алег САЛТУК**

### Бярэзіна

*Нарадзілася ты гарэзаю*
*І, адскочыўшы ад Дзвіны,*
*Юнай, стройнаю, як бярэзінка,*
*Паімчалася ў іншыя дні.*

*Колькі беглася той сцяжынкаю,*
*І стагоддзям не падлічыць.*
*Ды аднойчы пад аблачынкаю*
*Ты прылегла, каб адпачыць.*

*Да світання ўсю ноч дзівосныя*
*Над табою луналі сны.*
*А прачнулася ты пад росамі,*
*Дзе чакаў цябе цар лясны.*
*Не кахалася, не вянчалася,*
*А, раскінуўшы берагі,*
*Страпянулася, паімчалася*
*Сіняй стужкаю праз лугі.*

*— Пачакай, адкажы, Бярэзіна:*
*На спатканне імчыш куды?..*
*Засмяялася мне, гарэзніца:*
*— У твае маладыя гады!*

### Сляды

*А рачулка ўсё тая ж, і побач сляды,*
*Мне здаецца, сягоння тут бачу я тыя…*
*Так імгнення прабеглі гады,*
*Адсмяяліся вёсны мае маладыя.*

*Успаміны адносіць вада пакрысе.*
*А там недзе спускаецца вечар на росы.*
*Можа, мне ён аднекуль усё ж прынясе*
*Хоць адну з тых пакінутых вёснаў?*

### Таполі

*Мне не ўцяміць ніколі,*
*За якія грахі*
*Гэткім стройным таполям*
*Спілавалі вярхі?*
*Паздымалі кароны*
*Перад самай вясной.*
*Ды ўжо новыя кроны*
*К сонцу цягнуцца зноў.*

*І былыя абрубкі*
*Адрастаюць штодня,*
*Каб упартыя рукі*
*Над зямлёю узняць.*

*Зноў імкнуцца на волю,*
*У блакітны прасцяг…*
*Пераняць бы ў таполяў*
*Гэту прагу жыцця!*

### Вырай

*Азяб ён зусім на галіначцы дрогкай*
*І раптам убачыў на небе той клін,*
*Які адлятаў сумна так і далёка*
*У цёплую казку паўднёвых краін.*

*Яму пазайздросціў лісток вельмі шчыра,*
*Бо тут зімаваць ён адзін не хацеў.*
*На дыбачкі стаў і за ім паляцеў*
*Ад роднага краю ў нязведаны вырай.*



**Фота Кастуся Дробава**



Ганад ЧАРКАЗЯН

### Малітва

*Маліўся я: "О, Божа, памажы!"*
*І неба не пазбавіла тугі.*
*Асфальт, адзін асфальт паўсюль*
*ляжыць,*
*Заціснуты ў ім сэрцы і мазгі.*

*Усё вакол кіпіць, бы ў сагане,*
*Няма нідзе ні блізкіх, ні братоў.*
*Каму, скажыце, ратаваць мяне,*
*Калі цябе не чуе аніхто?*

*Хоць бачыць Творца з вышыні нябёс,*
*Што ўнізе свет хаосіцца даўно,*
*І мора лье дажджоў і мора слёз,*
*А свет наш не дабрэе ўсё адно.*

### Кажуць, што…

*Кажуць, што сумленне*
*Нараджаецца з чалавекам разам.*
*А як жа быць*
*З несумленнымі?*
*Іх жа таксама многа.*
*Што гэта — брак вытворчасці?*
*І як жа быць з нянавісцю,*
*Якая таксама*
*У нас дзесь схаваная?*
*Не-не ды і выскачыць,*
*Як з канапы старой*
*Спружына.*

*Кажуць, што ўсе сумненні*
*Лечыць заўсёды праўда.*
*Але й ад мізэрных прымаразкаў*
*Вянуць яе пялёсткі.*
*А калі і здараецца*
*Год ураджайны,*
*То плады іх зусім нясмачныя,*
*Горкія, як бяда.*

*А дрэвы хлусні затое*
*Карэняцца вельмі буйна,*
*Заваёўваюць новыя плошчы*
*Нашага духу,*
*Каб потым завальваць прылаўкі*
*Яркімі і салодкімі пладамі.*

*Кажуць, што толькі*
*За межамі*
*І жыцця,*
*і нашай планеты*
*Душа нарэшце*
*Спакой свой знаходзіць.*
*Можа, так яно й ёсць.*
*Ды хацелася ўсё ж*
*Напачатку пажыць*
*Без хлусні і нянавісці*
*І з тым самым сумленнем,*
*З якім*
*Нараджаюць нас маці…*

***

*П обач з яснымі зоркамі*
*Спадарожнікі шнырацъ заўсёды.*
*Акіянскія лайнеры*
*Збаламуцілі чыстыя воды.*

*А кіты і дэльфіны*
*Самагубства на сушы*
*Шукаюць.*

*Уцякаю з тлумнага горада,*
*У свой домік маленькі*
*Ўцякаю.*

*Ён драўляны.*
*Я сам збудаваў яго.*
*Ах, як ласкава лашчыцца*
*У грубцы агонь!..*

***

*Што промень сонца мне пашле здалёк,*
*Калі растане ў сэрцы ночы змрок?*
*Няўжо яе, бязлітасную хмару,*
*А мо ўчарашніх дзён нязбытку-мару?*
*Плаксівою была яна, аднак*
*Не выплачацца ўсё яшчэ ніяк.*
*Даўно ўжо старушэнцыя не тая,*
*Але зусім не шкодная, дальбог.*
*Тым больш што нешта нават абяцае,*
*Намацваючы кульбаю парог.*
*Хто ведае, а можа, заўтра ранкам*
*Вясёлыя, гарэзлівыя ўнучкі*
*Яе шчаслівa прывядуць пад ручкі,*
*І ўспыхне яна кветкаю на ганку.*
*Хто ведае?..*

**Пераклад з курдскай Казіміра Камейшы**



Вольга ГРОНСКАЯ

***

*Яшчэ не час даваць азначэнні.*
*Адвечная боязь гукаў і рухаў:*
*рукі просяць застацца разам,*
*мы застаёмся на розных прыпынках,*
*на розных прыступках бясконцых лесвіц,*
*аднолькава прагнучы кроку насустрач.*

*Яшчэ не час. Праводзячы моўчкі*
*мяжу паміж стомленасцю і ўсмешкай,*
*губляю цябе ў мільгаценні вокнаў,*
*гуляю з ценямі ў недасяжнасць.*
*Працягам будзе працяглaсць думак*
*і тры працяжнікі ў невыказным.*

*Яшчэ не час, і нам засталося*
*збіраць па частках, сачыць па пульсе,*
*губляцца ў словах, гуляць па рэйках,*
*баяцца рухаў і азначэнняў.*
*Знікаюць цені, люстэркі б'юцца.*
*Яшчэ не час? Затрымайся ў цемры.*

***

*Яна танцуе фламенка і трызніць Іспаніяй.*
*Хвалі яе валасоў гайдаюць дэльфінаў,*
*бачных у месяцовым сяйве толькі ёй адной.*
*Яна жыве ў вымярэнні летняга ветру.*

*Ён так хацеў запрасіць на падыспань яе,*
*але не наважыўся. Зноў, маўляў, зробіць фінам*
*і будзе смяяцца: "Навошта ты тут, са мной?"*
*Адно, што трымае яго ў жыцці, — гэта вера.*

*Яны сустракаюцца зрэдку, гуляюць па вуліцах,*
*гавораць пра тое-сёе, п'юць разам каву*
*і разыходзяцца — кожны ў сваім кірунку.*
*А ў іх кішэнях ціха дрэмле каханне.*

*У снох яно бачыць тое, што не адбудзецца,*
*і ўсміхаецца — сумна так і ласкава,*
*зрэдку паводзіць плечыкам, нервова сціскае рукі*
*і марыць прачнуцца на наступным спатканні.*

***

*Спакушаю сур'ёзнасць*
*прабегчы за рэхам трамвая.*
*Вечар гнутка-маўклівы,*
*аблокаў празрыстых хвалі.*
*Напраскі цераз словы*
*размовай паглядаў ці рухаў.*
*І імя непатрэбна,*
*калі гэты шлях — з лабірынта.*
*Ува сне,*
*за травою павекаў,*
*дзе мроіцца вецер.*

***

*…І я стану птушкай.*
*Пасадзі мяне ў човен сваіх далоняў,*
*закалыхвай і гушкай.*
*Дакрануся крылом да заўчасна ссівелае скроні —*
*следу бескампраміснай вайны.*
*Шматгадовай. З самім сабой.*
*У якой кожны бой*
*пераходзіў штоночы ў жахлівыя сны,*
*і ты прачынаўся а трэцяй і піў гарбату,*
*выкурваючы цыгарэту за цыгарэтай,*
*толькі б не бачыць больш гэта гета,*
*не чуць тое "аты-баты" — цераз краты.*

*Ты перамог, мой мілы. Канец. І сёння*
*знішчыла ўсе сляды таго ліхалецця.*
*Мы з табой засталіся адныя на ўсёй планеце.*

*Пасадзі мяне ў човен сваіх далоняў…*

***

*Заслухаўшыся музыкай вачэй,*
*саступіўшы жаданням колеру ветру над морам,*
*я бачу цябе скрозь заплюшчанасць веяў,*
*адчуваю ўсмешку, што спіць на маім плячы.*

*У звыклыя імгненні жыцця*
*залятаюць вераб'і і сонечныя промні.*
*Вясна кліча нас сваім смехам*
*туды, дзе на тонкіх галінках гайдаецца шчасце.*

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі

Кніжны свет

9 лістапада 2012 г.

Паралелі

# У цэнтры ўвагі — дамова

Семінар для выдаўцоў і кнігагандляроў, прысвечаны правам і ліцэнзіям, "Правы выдавецтва і аўтарскія дамовы: што неабходна ведаць у гэтай галіне" прайшоў у Інстытуце імя Гётэ ў Мінску.
Сустрэча адбылася ў межах праекта Інстытута імя Гётэ "Павышэнне кваліфікацыі для спецыялістаў выдавецкай справы-2012". Мэтай семінара стала знаёмства ўдзельнікаў з асновамі аўтарскага права, адметнасцямі складання аўтарскіх дамоў, асаблівасцямі электронных публікацый, сістэмай ганарараў, міжнародным аўтарскім правам. У якасці кансультанта выступіла спадарыня Джэсіка Зэнгер — адвакат, намеснік юрысконсульта Біржавага саюза нямецкага кнігагандлю. Падчас семінара спадарыня Джэсіка адказала і на пытанні нашага карэспандэнта.

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота аўтара**

**— У беларускай выдавецкай сістэме яшчэ адсутнічае заканадаўства, якое рэгламентавала б адносіны паміж аўтарам і выдавецтвам, калі гаворка ідзе пра выданне электронных кніг. Ці ёсць у Германіі напрацоўкі ў гэтай галіне?**

— У нямецкай выдавецкай сістэме таксама адсутнічаюць спецыяльныя правілы, якія былі б актуальныя толькі для электронных кніг, мы звычайна выкарыстоўваем базавыя правілы, што прымяняюцца для састаўлення іншых дамоў паміж выдавецтвам і аўтарам. І найчасцей гэта частка таго ж кантракта — толькі яна змяшчае заўвагу наконт выдання кнігі ў электронным фармаце.



**— Такім чынам, усе ўмовы кантракта застаюцца стандартнымі?**

— Часам пагадненне наконт аплаты можа быць іншым. Канечне, заўсёды можна зрабіць спецыяльныя дадаткі, якія датычаць выдання кнігі ў электронным фармаце, калі неабходна, абмеркаваць іншыя дадатковыя ўмовы, бо, напрыклад, сістэма распаўсюджвання электронных кніг, ды і ў цэлым праца выдавецтва ў гэтым кірунку, адрозніваецца ад традыцыйнага кнігавыдання. Але звычайна пры падпісанні падобных кантрактаў мы рэкамендуем выдаўцам выкарыстоўваць тую ж дамову, што і для традыцыйных кніг.

**— Наколькі часта ў Германіі заключаюцца кантракты, дзе спецыяльна ўказаны ўмовы выдання электроннай кнігі?**

— Наколькі я ведаю, цяпер выдаўцы ў кожным кантракце просяць аўтараў аб праве выдання электроннай кнігі. Канечне, калі гаворка не ідзе пра выдавецтвы, якія ў прынцыпе не займаюцца выданнем электронных кніг. Аднак большасць ужо выпускаюць электронныя кнігі ці плануюць зрабіць акцэнт на гэтай дзейнасці ў будучыні. Але ў той жа час доля продажаў электронных кніг у Германіі вельмі маленькая. Мы толькі пачынаем гэтую справу. Да прыкладу, у Вялікабрытаніі і ЗША рынак электронных кніг намнога больш развіты.

**— Ці лёгка скрасці электронныя кнігі — напрыклад, спампаваць з інтэрнэту?**

— Так, гэта вельмі лёгка. Настолькі ж, наколькі лёгка нелегальна зрабіць электронную копію, адсканаваўшы друкаваны асобнік выдання. Заўсёды існуе такая небяспека.

**— Ёсць нейкія адметныя патрабаванні, якія аўтары ўказваюць пры складанні дамовы з выдаўцом?**

— Кожная дамова павінна стаць адлюстраваннем індывідуальнай сітуацыі паміж аўтарам і выдаўцом, і вельмі часта гэтыя ўмовы настолькі адрозніваюцца, наколькі адрозніваюцца кнігі, што рыхтуюцца да выдання. Што да асаблівых патрабаванняў, то аўтары часта просяць дазволу размяшчаць акадэмічныя, навуковыя матэрыялы на сваіх інтэрнэт-сайтах, нават калі эксклюзіўныя правы перадаюцца выдаўцу. І пагадненне ў гэтай сітуацыі дасягаецца ў працэсе перамоў.

**— Калі несумленны выдавец ці перакладчык выдасць у сваёй краіне кнігу нямецкага аўтара, не набыўшы адпаведных правоў, наколькі рэальна яго пакараць?**

— Канечне, гэта будзе судовая справа ў галіне захавання аўтарскіх правоў, капірайту. Пытанне ў тым, хто будзе патрабаваць пакарання — аўтар арыгінальнай працы ці яго выдавец. Ім патрэбна знайсці шлях, каб даказаць свае правы ў краіне, у якой нелегальна выдадзены прадукт. Думаю, што гэтае пытанне будзе рэгламентавацца міжнародным правам, якое і запатрабуе магчымасці кампенсацыі для нямецкага аўтара ці выдаўца.

Прэзентацыя

# Канцэнтрацыя сціпласці

У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры адбылася прэзентацыя новай кнігі Андрэя Федарэнкі "Сечка", што пабачыла свет у выдавецтве "Галіяфы". Падборкі мініяцюрных эсэ, літаратурных партрэтаў, апаведаў з рэдактарскага жыцця раней публікаваліся ў розных літаратурна-мастацкіх выданнях, але пад адной вокладкай сабраны ўпершыню.

**Чэслава ПАЛУЯН,**
**фота аўтара**

Правакацыйная, крытычная, здзеклівая, іранічная — такімі эпітэтамі можна ахарактарызаваць новую кнігу Андрэя Федарэнкі. Сам аўтар падчас прэзентацыі разважаў пра пісьменікаў і публічнасць: "Усё, што я мог бы расказаць, я не пісаў бы. Мне лягчэй гэта напісаць, абдумаць, вынасіць". І сапраўды, у творах зборніка, як і ў іншых кнігах празаіка, адчуваецца літаратурная дасведчанасць аўтара, ён умее лёгка падаць матэрыял, з майстэрствам вымалёўвае літаратурныя партрэты, з павагай ставіцца да слова, пры гэтым адчувае сваю асабістую спрычыненасць да лёсу беларускай літаратуры.

Падчас прэзентацыі выдання прамаўлялі літаратурныя крытыкі, гучалі і ўрыўкі з кнігі ў выкананні маладых літаратараў Алеся Емяльянава і Ганны Дусь, а музычным аздабленнем вечарыну забяспечыў гурт "Alta Mente". Даследчык літаратуры Ірына Шаўлякова падкрэсліла: "Цягам доўгага ўглядання і нават пэўнага корпання ў творчасці Андрэя Федарэнкі, цягам доўгага прыглядання да яго жыццятворчай стратэгіі я прыйшла да высновы, што Андрэй Федарэнка — пісьменнік элітарны. Толькі чалавек узроўню таленту спадара Андрэя можа дазволіць сабе быць цягам больш як 20 год такім паслядоўна сціплым, непублічным чалавекам, увесь гэты час ісці да сябе ў творчасці, ды пры гэтым трымаць увагу не толькі крытыкаў і літаратуразнаўцаў, але і шырокай чытацкай аўдыторыі. Пры гэтым варта адзначыць: даследчае кола прыхільнікаў А. Федарэнкі значна маладзее, з кожным годам побач са сталымі даследчыкамі яго творчасць усё часцей аналізуюць студэнты і нават школьнікі".

Пра з'яву канцэнтрацыі ў літаратуры распавяла літаратуразнаўца Аксана Бязлепкіна. Сутнасць гэтай з'явы ў тым, што цягам доўгага часу назапашваюцца тэксты на пэўную тэматыку. Але здараецца так, што пісьменнікі ў сваіх творах, распавядаючы ўласную гісторыю, падсумоўваюць і набыткі папярэднікаў. Таму,



*Падчас прэзентацыі выступае даследчык літаратуры Ірына Шаўлякова.*

каб пазнаёміцца з пэўнымі літаратурнымі трэндамі, варта прачытаць толькі некалькі тэкстаў. Пра вёску ў беларускай літаратуры як нельга лепш распавядуць "Новая зямля" Якуба Коласа, "Людзі на балоце" Івана Мележа, а таксама — "Вёска" Андрэя Федарэнкі.

Думаецца, што і новае выданне зойме пачэснае месца на паліцах аматараў творчасці Андрэя Федарэнкі і ўсёй якаснай беларускай прозы.

У падтрымку чытання



*Фота Кастуся Дробава.*

**Журналіст**
**Міхась ШАВЫРКІН:**

# «Адчуць паэзію ў прыродзе»

Як толькі мы прайшлі ў першым класе "Буквар", настаўнік дазволіў браць кнігі ў школьнай бібліятэцы. Помню першую з іх — "Ліпка і клёнік" Янкі Брыля. Нясу яе, шчаслівы, а старэйшыя вучні, хто мяне на калідоры бачыў, на вуліцы сустрэлі майго бацьку і кажуць: "Вашаму Мішу кніжку далі пачытаць!" Малодшыя дома на мяне з павагай глядзелі — я буду чытаць і потым ім расказваць. У дзясятым класе я паслаў на радыё апавяданне пра гэту першую сустрэчу з кніжкай — і яно прагучала ў эфіры.

На дзень народзін у дзяцінстве старэйшая сястра прынесла Купалаву кніжку, у якой былі "Хлопчык і лётчык" і "Алеся". Калі рабілі энцыклапедыю "Янка Купала" (тады я працаваў у Беларускай Савецкай Энцыклапедыі), зноў вярнуўся да гэтага выдання.

Але, даруйце за такі жарт, кнігі — такія добрыя сябры, якія паступова высяляюць нас з кватэры. Частку бібліятэкі — выданні па педагогіцы, мастацкую літаратуру, нават збор твораў Янкі Купалы — перадаў у Грабёнкаўскую школу Чэрвеньскага раёна — тую, у якую Якуб Колас, калі працаваў настаўнікам, прывозіў дзяцей на іспыты. У хатняй бібліятэцы пакінуў толькі тое, што патрэбна для працы.

З нагоды юбілеяў Купалы, Коласа і Танка перагледзеў іх паэтычны свет: у "Літаратуры і Мастацтве" выйшлі кніжачкі з серыі "Поры года" — "Вясна" і "Лета", "Восень" і "Зіма", дзе было вырашана змясціць вершы, настрой якіх адпавядае кожнаму месяцу. Нечакана адкрыў: у Коласа больш разваг, Купала — вельмі тонкі лірык, але ён падкрэслена сацыяльны, а паэзія Танка вельмі пасавала зададзенай тэматыцы.

Для душы чытаю, канечне, паэзію. Прозу часта не будзеш чытаць і перачытваць. Скажам, эпапею Мележа двойчы прачытаў — у школе і ў студэнцкія гады. А зборнічак вершаў узяў у любы момант — і пагартаў, і знайшоў для душы нешта сугучнае. Па веравызнанні я — прыродацэнтрыст, таму вельмі падабаецца адчуць паэзію ў прыродзе — і пабачыць, як гэта выяўлена ў слове.

Маладзічок



# Не ўпусціць час

Вольга ПАЛОМЦАВА

Новая серыя выдавецтва “Беларусь”, заснаваная ў гэтым годзе, называецца “Экономия и бережливость”. У ёй убачылі свет тры кніжкі: “Законы экономии” Т. Коцік, “Домашняя экономия” Н. Парэчынай і “Гном Эконом” А. Плятнёва, А. Сугакевіча і А. Валадзько. Выданні маюць высакародную мэту — у гульнявой форме давесці да свядомасці дзяцей малодшага ўзросту складаныя пытанні эфектыўнага выкарыстання энергіі, аховы навакольнага асяроддзя, захавання рэсурсаў нашай планеты.

Гісторыя пра гнома Эканома, старонкі якой можна не толькі чытаць, але і размалёўваць, разгадваць змешчаныя на іх крыжаванкі, запрашае на сустрэчу з Гномам Эканомам і яго сябрам Гномам Ніканомам, які эканоміць не ўмеў, таму дасюль не мае ўласнага жытла. Дзеці даведаюцца, як дапамагчы бацькам зрабіць дом утульным, дзеля чаго патрэбныя лічыльнікі вады, як не выпускаць праз вокны неабходнае цяпло. *“То, что всей планете нужно, / Для ТЕБЯ совсем несложно”.*



“Домашняя эканомія” раскажа пра парніковы эфект і яго наступствы, працягне заняткі па зберажэнні цяпла і вады, падкажа, як можна змайстраваць цёплы душ на лецішчы, “пракарміць” халадзільнік і нават сэканоміць энергію пры паходах у краму і сарціроўцы смецця, патлумачыць, што такое біягаз, параіць, як зберагчы энергію пры выкарыстанні… транспарту.

“Законы экономии” — зборнік гульняў, якія маюць спецыяльныя адзнакі-падказкі (некаторыя заданні дзеці могуць выканаць самі, для іншых спатрэбіцца дапамога сяброў, а ў самых складаных выпадках давядзецца прыцягнуць бацькоў, дзядуль і бабуль). “Энергетычныя мазаікі”, гульні “Сем адрозненняў”, “Сакрэт”, “Мемары”, тэст “Энергетычны знаўца” і многае іншае, над чым парупіліся аўтары, несумненна, спадабаюцца ўсім членам сям'і.

Мудрая думка, што кожны з нас адказвае за Планету, паступова робіцца асновай для засваення новым пакаленнем законаў, напрамую звязаных з будучыняй чалавецтва.

# «Ён Радзімаю завецца — непаўторны гэты край»

Вольга НОРЫНА

Можна напісаць сотні палымяных заклікаў у абарону мовы, якія не змогуць не закрануць сэрцы дарослых і моладзі, але ўсё ж такі нельга не прызнаць: у моўным асяроддзі трэба клапатліва гадаваць самых маленькіх чытачоў. Паступова ўзбагачаць іх веды пра тое, што навокал, выхоўваць у павазе да роднай зямлі, яе слаўнай гісторыі з дапамогай любімых вершаў, лічылак, загадак, скорагаворак, прыдатных для дзяцей пэўнага ўзросту. Скажам, як гэта: *“Вецер рад у лістападзе / Пагуляць у голым садзе”.* Ці вось: *“Снегам шорсткім, свежым / Заваліў дарожкі снежань”.* І хіба знойдзецца хто-небудзь, каму не спадабаецца загадка пра навальніцу: *“То страляла, як з гармат, / То скакала весела, / Каляровую дугу / Між аблок павесіла”*?!

Не менш дзейсна спрацуе ў падтрымку мовы добрая дзіцячая кніжка. Калі яна сапраўды будзе цікавай, яе мова застанецца ў сэрцы і памяці. І з гэтым пастулатам згодны старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ паэт Міхась Пазнякоў, аўтар працытаваных радкоў з дзвюх кніжачак для самых маленькіх чытачоў: “Радзіма. Вершы” і “Песня прыроды. Вершы, скорагаворкі, загадкі”. Адрасаваныя дзецям малодшага школьнага ўзросту, яны ўбачылі свет у выдавецтве “Народная асвета” ў новай серыі “Свет вакол нас”.

Мяркуем, сабраныя творы будуць запатрабаваны і педагогамі дашкольных устаноў ды малодшых класаў, і бацькамі. Вершы — яркія, выразныя — вельмі лёгка запамінаюцца. Напрыклад, “Радзіма”: *“Грае вечар на цымбалах, / Плаўна музыка цячэ, / Месяц у блакітных далях / Пакругле́ў і паярчэў. / Пахне мёдам, пахне кропам / Напаўсоннае сяло, / Дзе малінавым сіропам / Сонца захад абліло. / І плыве з садоў у сэрца / Сакаўны птушыны грай. / Ён Радзімаю завецца — / Непаўторны гэты край”.*

У кожнай з гэтых кніжак па 22 старонкі. Ды аўтар бліскуча справіўся са сваёй задачай: кароценькімі трапнымі вершамі намеціў галоўныя арыенціры. У “Песнях прыроды” дзеці з задавальненнем пагуляюць з рэхам, сустрэнуць першы снег, пусцяць караблікі па ручаінках, што пакіне дождж — *“То празрысты і вясёлы, / То працяглы і густы”,* які нагадвае часам сапраўдны аркестр: *“Колькі тонаў, колькі зыкаў / За акном празрыста-светлых! / Што за дзіўныя музыкі, / Што за казачны аркестр?! / Адчыняю з хаты дзверы, / Выбягаю басанож: / Не магу вачам паверыць — гэта цёплы звонкі дождж”.*

З вершаў пра радзіму даведаюцца маленькія чытачы пра тое, што мы — беларусы, пра наш сцяг і гімн, вечны агонь — даніну памяці героям-продкам. Зазірнуць у вядомы лагер адпачынку “Зубраня”. Пазнаёмяцца і з эканамічным гонарам нашай краіны ў вершы пра мінскі трактар, што *“Праз мора, акіян / У Афрыку прыбудзе, / У сонечны В'етнам… / Працуе трактар мінскі, / Каб вечна на Зямлі / Цвілі, квітнелі нівы, / Каб дружна мы жылі, / Каб кожны быў шчаслівы”.*

Усяго ў серыі запланавана сямнаццаць кніг. Іх тэматыка разнастайная: сям'я, добрыя справы, прырода. Такая бібліятэчка абяцае не затрымлівацца на кніжных палічках.

# У выдавецкім «рэпертуары» магілёўскага ўніверсітэта

**Праца над цікавымі навуковымі і метадычнымі праектамі праводзіцца ў выдавецкім цэнтры МДУ імя А. А. Куляшова. Так, ужо ў лістападзе бягучага года будзе надрукаваны першы том грунтоўнага геаграфічна-статыстычнага слоўніка Магілёўскай вобласці. Паводле начальніка аддзела маркетынгу выдавецкага цэнтра Наталлі Роскач, наступныя два тамы выйдуць на пачатку 2013 года.**




Віталь ЕЎМЯНЬКОЎ

Укладальнік гэтага сапраўды ўнікальнага ўніверсітэцкага выдання — дэкан факультэта прыродазнаўства Ігар Шаруха. “Магу з упэўненасцю сказаць пра тое, што нічога падобнага на тэрыторыі Беларусі ў XX ст. яшчэ не друкавалася, — падкрэслівае Наталля Пятроўна. — Ігар Мікалаевіч падрыхтаваў differ разнабаковую інфармацыю пра 19 556 фізіка- і эканоміка-геаграфічных аб'ектаў Магілёўскай вобласці”. За ўзор навуковец узяў надзвычай рэдкія выданні XIX ст. — 5-томны “Географическо-статистический словарь Российской империи” П. Сямёнава-Цян-Шанскага, а таксама “Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага і іншых славянскіх краін” П. Суліме́рскага і Б. Хлябоўскага.

Праўда, у работах папярэднікаў адлюстраваны галоўным чынам звесткі пра буйныя аб'екты Прыдняпроўя — зафіксавана і апісана вялікая колькасць урочышчаў і мікратапонімаў. “Наша выданне спатрэбіцца не толькі людзям цікаўным, — удакладняе Наталля Роскач. — Мэты геаграфічна-статыстычнага слоўніка выключна практычныя. Мы спадзяёмся на тое, што трохтомнік, падрыхтаваны ў выдавецкім цэнтры МДУ імя А. А. Куляшова, знойдзе свайго ўдзячнага чытача сярод кіраўнікоў органаў выканаўчай улады, прадпрыемстваў і ўстаноў, гісторыкаў, эканамістаў”.

Пра тое, што слоўнік сапраўды патрэбны мясцовым уладам, ва ўніверсітэцкім выдавецтве не сумняваюцца. “Пры забудове гарадоў і населеных пунктаў паўстае пытанне, як назваць новыя вуліцы і раёны. Часта назвы бяруцца, што называецца, “з галавы”. У выніку паўстаюць вуліцы “вясенняя”, “маладзёжныя”, а раёны — “кастрычніцкія” ды “цэнтральныя”. Слоўнік прапануе ім добрую альтэрнатыву — падае спрадвечныя назвы, замацаваныя за той або іншай мясцовасцю па працягу стагоддзяў. Дзякуючы намаганням укладальніка і выдаўцоў захоўваецца гістарычная памяць.

Аднак “не тапонімам адзіным”... Выдавецкі цэнтр рэалізуе і іншыя навуковыя, адукацыйныя праекты, якія ўжо зацікавілі грамадскасць Беларусі. У 2012 г. пабачыў свет грунтоўны і надзвычай папулярны сярод студэнцкай моладзі дапаможнік “Рэлігіі ў сучаснай Беларусі” (В. Старасценка, А. Дзьячэнка). Дарэчы, адзін з аўтараў гэтага выдання, Віктар Старасценка, падрыхтаваў дапаможнік для ВНУ “Гісторыю грамадскай і філасофскай думкі ў Беларусі”. Навуковец падае малавядомыя тэксты перыяду Сярэднявечча і Адраджэння, змяшчае апісанні і каментарыі да твораў Гусоўскага, прадмоў Скарыны, Цяпінскага і інш. “Выданне запатрабаванае, — тлумачыць наш суразмоўца. — Карыстаецца нязменным поспехам у гісторыкаў, філолагаў ды і проста людзей неабыякавых да гісторыі і культуры Беларусі”.

У выдавецкім “рэпертуары” магілёўскага ўніверсітэта — падручнікі, манаграфіі. “Мы імкнёмся быць разнабаковымі, аператыўна рэагаваць на тыя запатрабаванні, якія ўзнікаюць ва ўніверсітэцкім асяроддзі. Таму заўжды рады бачыць новых таленавітых аўтараў, рады дапамагчы тым, хто рухаецца наперад”, — падсумоўвае начальнік аддзела маркетынгу выдавецкага цэнтра МДУ імя А. А. Куляшова Наталля Роскач.

Анкета «ЛіМа»

## Прафесія і прызванне

**1. Ваша асноўная спецыяльнасць і яе сумяшчэнне з творчасцю?**
**2. Перашкаджае ці дапамагае работа творчасці?**
**3. Што першаснае ў агульнажыццёвым?**
**4. Як распараджаецеся ганарарамі?**
**5. Якую б прафесію выбралі, каб не жыццёвыя абставіны?**
**6. Стаўленне сваякоў, сяброў, знаёмых да работы і да творчасці?**
**7. Дзе больш паспяхова рэалізуецеся?**



**Алесь ЕМЯЛЬЯНАЎ, паэт, бард:**

1. Масажыст. Сумяшчэнне поўнае — паэзія ці проза цела такая ж, як і на паперы. А калі сур'ёзна — некаторыя даследчыкі лічаць, што добра развітыя тактыльная адчувальнасць і дробная маторыка спрыяюць чалавеку ў пісанні альбо вершаў, альбо прозы. Залежнасць пэўная, натуральна, ёсць. Не скажаў бы, што творчасць дапамагае працы ці наадварот — яны суіснуюць паралельна — два светы, два бакі аднаго медаля. А так — добра натрэніраваныя мышцы перадплечча і кісці дапамагаюць трымаць асадку і лепш упраўляцца з клавіятурай і мышкай.

2. Работа творчасці часам спрыяе, асабліва калі робіш доўгі масаж — думаеш, нашэптваеш, нагукваеш якісь вершык. Але ж часам, калі прыходзім дамоў з працы, — а так атрымліваецца, што часцей жыву я там, дзе й працую — няма ні сіл, ні жадання што-небудзь пісаць. Хаця зноў-такі работа — тое месца, дзе знаёмішся з новымі людзьмі, характарамі, назіраеш. Так што работа і спрые, і не спрыяе.

3. Першаснага няма. Галоўнае — быць карысным і ў рабоце, і ў творчасці. Калі я сёння дапамог аднаму — масажам ці вершамі, вылекаваў альбо душу, альбо цела — дзякуй Богу, дзень прайшоў не дарма. Ізноў паўтаруся, работа і творчасць — для мяне розныя полюсы: я не з тых літаратараў, якія маюць спецыяльную адукацыю ці непарыўна звязаныя з творчасцю па працы.

4. Ганарар, улічваючы, што гэта нестабільны даход, можна хутчэй разглядаць як падзяку ці адзнаку тваёй творчасці.

5. Карэктар альбо рэдактар. Карэктар, бо заўсёды любіў выпраўляць чужыя памылкі. Нават у школе класны кіраўнік давярала мне сшыткі сваіх вучняў з малодшых класаў — і я быў у захапленні, калі мне давалі чырвоны стрыжань і я пачынаў шукаць памылкі. Калі адбываецца цуд знаходжання, крэслю, крэслю ў крэслю.

6. З павагай ставяцца і да таго, і да другога, але творчасці збольшага не разумеюць. Радуюцца, калі атрымаю які ганарарчык альбо дыплом у якім-небудзь конкурсе. Гэта, напэўна, нармалёвая практыка, што сваякі не разумеюць ці не спрабуюць зразумець тое, што ты робіш. Я ніколі не імкнуўся навязваць свае тво́ры каму-небудзь.

7. Калі разглядаць грашовы бок — натуральна, на асноўнай працы. Калі ж размова пра маральнае задавальненне, дык 50 на 50.

Сяргей БЕЛАЯР

# Чаму я?

## *Фантастычнае апавяданне*



Будзем знаёмыя: маё імя Акіра Ёшы VII М-ШІ А. Я — гуманоідны робат. І не проста які-небудзь сярэднестатыстычны робат, здольны выконваць дробязныя задачы, а самы лепшы і “прасунуты” ва ўсім свеце. Так сцвярджаў мой бацька — прафесар Іхіра Тамідзава, дэкан факультэта робататэхнікі і прыкладной механікі Такійскага ўніверсітэта. І ў мяне не было падстаў не давяраць яго словам. Лічба “VII” у маім імені азначае практычную серыю, літара “М” — тое, што я з’яўляюся шматфункцыянальным механізмам, здольным выконваць мноства разнастайных задач. “ШІ” — указанне на мой штучны інтэлект, “А” — адзнака ўмення працаваць у аўтаномным рэжыме і самастойна прымаць рашэнні.

Бацька спраектаваў мяне для работы ў агрэсіўным беспаветраным асяроддзі — ці то ў адкрытым космасе, ці то на паверхні доследных і асвойваемых планет. Мне па сілах шмат што: я магу лёгка перасоўваць вялікі цяжар, хутка будую сховішчы і вытворчыя аб’екты, без праблем праводжу разведку любога характару, умею лунаць над зямлёй, выкарыстоўваючы антыгравітацыйныя рухавікі, магу служыць у якасці платформы для большасці відаў узбраення. Мая палімерная металакерамічная скура здольная вытрымліваць пагібельнае сонечнае выпраменьванне, жар вогненнай лавы, ціск на вялікіх глыбінях, мне хоць бы што моцны вецер і высокі ўзровень радыяцыі, кулі і асколкі. Неяк мяне спрабавалі прапаліць вузканакіраваным лазерам, які мог прарэзаць нават тытан. Дык вось, на маёй скуры не засталося і следу. Бацька зрабіў мяне з вялікім запасам трываласці. Іхіра Тамідзава быў упэўнены, што засцярога ніколі не будзе залішняй. Бо ніхто не мог ведаць, з чым мне давядзецца сутыкнуцца. Я павінен быць гатовым да ўсяго. З гонарам сустрэць любое выпрабаванне і выканаць задачу, якой бы цяжкай яна ні здавалася. У ячэйках майго мозга не было месца для сумневу. Таму што я з’яўляўся самым лепшым. Самым перадавым і дасканалым. Куды да мяне астатнім... ASIMO, EveR-1, HRP-4C і Repliee R-1 не маглі параўнацца са мною. Гэтыя недасканалыя механізмы не ўмелі нават сотай долі працэнта ад таго, чаму навучыў мяне бацька. Параўнанне з імі магло нават мяне пакрыўдзіць. Іх электронныя мазгі былі пустыя. “Кансервавыя бляшанкі” маглі дзейнічаць выключна па стандартным алгарытме. Крок убок, самая нязначная змена параметраў — і мае прымітыўныя суродзічы “завісалі”. Я ж і цяпер у стане не толькі прытрымлівацца праграмы, але і імправізаваць. Калі хочаце ведаць, я — здольны вучань. Функцыя саманавучання дазваляе мне засвойваць велізарныя масівы інфармацыі. І не проста банальна “пераварваць” або прымаць дадзеныя да ведама, але і выкарыстоўваць іх у поўнай меры. За кароткі прамежак часу я магу вывудзіць з велічэзнай гары хламу зярняты ісціны. Аддзяліць праўду ад хлусні. Ухапіць самую сутнасць. Выкарыстаць новую інфармацыю для выканання задачы. А цяпер адкажыце мне: хто з робатаў мінулага ды сучаснасці можа зрабіць нешта падобнае? Я складаю хайку не горш за Мацуе Басё або Ёсу Бусон, умею граць на біве і тайко…

Я ганаруся сваімі цягліцамі — эластычнымі нанатрубкамі з упляценнем тытанавых нітак, трывалым палімерным корпусам, гнуткімі сучляненнямі, якія дазваляюць мне рухаць канечнасцямі пад любым вуглом. Не меншы гонар у мяне абуджаюць мае механічныя пальцы. З аднолькавай эфектыўнасцю я магу падымаць цяжкія чыгунныя балванкі, звязкі рэек, панэльныя блокі жылых дамоў і складаць арыгамі, працягнуць нітку ў іголку. Дазволю сабе зноў нагадаць гравюры на дрэве і манахромную акварэль. Не, я не думаю, што вы настолькі няпамятлівыя. Проста не магу ўтрымацца ад гонару. У маіх грудзях “б’ецца” механічнае сэрца — дзве ёмістыя акумулятарныя батарэі. Ні адна істота — ці то штучны механізм, ці то жывы арганізм — не можа параўнацца са мной у працягласці жыцця. Бацька казаў, што пры належным наглядзе я магу пражыць вельмі і вельмі доўга.

Я нараджаўся ў пакутах. Адно — прыдумаць ідэальнага робата, а зусім іншае — увасобіць задуму ў рэальнасць. Ператварыць метал і пластык у жывы арганізм. Удыхнуць у тварэнне жыццё. Майму бацьку гэта ўдалося. Я падазраю, што ён геній. Так, так, і не трэба крыва пасміхацца. Я ведаю, пра што кажу. Гатовы адказаць за свае словы. IQ майго бацькі ўшчыльную набліжаўся да адзнакі ў 250. Хлусня, — скажаце вы? І не будзеце мець рацыі. Я на ўласныя вочы бачыў яго асабістую справу. Такога таленавітага мозга, як у дэкана факультэта робататэхнікі і прыкладной механікі, няма і не было ні ў кога на свеце. Мой бацька — унікум. Каму яшчэ пад сілу стварыць дасканалы механізм, які да таго ж валодае розумам? Толькі майму бацьку.

Цяпер, калі я трохі распавёў пра сябе, дазвольце мне падзяліцца з вамі маёй сумнай гісторыяй. Запэўніваю, гэта не зойме шмат часу. Калі вы згодныя, то заварыце сабе зялёную гарбату, сядзьце ў мяккае крэсла, накрыйце ногі пледам. З вашага дазволу, я пачну...

Калі я быў малады, мне падабалася “купацца” ў промнях славы. Мой бацька часта вывозіў мяне ў людзі. Прафесар Іхіры Тамідзава не любіў ладзіць шоу, але спонсары патрабавалі, каб ён паказваў мяне людзям. Падаткаплацельшчыкі павінны былі ведаць, на што выдаткоўваюцца іх грошы. Да таго ж дэманстрацыі новых вынаходніцтваў і тэхнікі прыцягвалі да сябе ўвагу патэнцыяльных пакупнікоў. Яны зляталіся на паказы робатаў, нібы мухі на мёд.

У адрозненне ад бацькі, я атрымліваў сапраўдную асалоду ад грому апладысментаў і выдыхаў здзіўлення і захаплення, якімі мяне ўзнагароджвалі людзі. Для выкліку экстазу мне зусім не трэба было лезці са скуры, танчыць, скакаць, жангліраваць або паказваць фокусы, як маім безгаловым папярэднікам. Цалкам хапала і самога майго з’яўлення. Ну і слоў канферансье... Людзі слухалі пра мяне з заміраннем сэрца. І было з-за чаго — бо для мужчын і жанчын я з’яўляўся жывым увасабленнем чалавечага генія, чарговым доказам усемагутнасці людской расы. Хапала аднаго толькі погляду на мяне, каб нават нізкалобыя і таўстапузыя “задохлікі” адчувалі сябе ніяк не менш за распарадчыкаў лёсу Сусвету...

Для велізарнай людской масы я быў жывым, дакладней — механічным, увасабленнем яе надзей і спадзяванняў, дапамагаў Homo Sapiens перамагчы страх і няўпэўненасць у сабе. Мяне любілі і шанавалі. Былі гатовыя насіць на руках. Шоу з маім удзелам па папулярнасці хутка пераўзышлі нават перадачы з палітыкамі і парназоркамі. Што такое секс у жывым эфіры ў параўнанні з дэманстрацыяй усемагутнасці і здольнасці справіцца з любой задачай? Нядзіўна, што ў хуткім часе пра мяне ведалі ўсе — ад дзіцяці да старога. Я стаў брэндам. Прадукцыя з маім партрэтам разыходзілася выдатна. Кубкі, майкі, кепкі, календары, паштоўкі, постары, камп’ютарныя гульні... Усяго не пералічыш. Спонсары паціралі рукі ад задавальнення. Грошы ў іх кішэні цяклі проста вар’яцкія. Прыбытак у сотні разоў акупіў укладзеныя ў мяне сродкі. Таўстуны не скупіліся на прэміі і гранты для майго бацькі і яго калектыву.

ЯкпраўдзівынавуковецпрафесарТамідзава накіроўваў іены на навуковыя мэты, спрабаваў зрабіць мяне яшчэ больш дасканалым, аптымізаваць для масавай вытворчасці. Ён марыў, што з маёй дапамогай чалавек пачне асвойваць космас... Цяпер я разумею, што бацька быў рамантыкам. Наіўным летуценнікам. Бо грошы ў гэтым свеце ўсё яшчэ значаць занадта шмат. Ён не разумеў элементарных рэчаў — масавая вытворчасць робатаў азначала страту эксклюзіўнасці, скарачэнне і страту прыбытку. Натуральна, пайсці на такі крок багацеі не маглі. Яны прама сказалі, што не зацікаўленыя ў падобным развіцці падзей. Бацька паспрабаваў супраціўляцца, не ісці на павадку “грашовых мяшкоў”, аднак пераацаніў свае сілы і не прыняў пад увагу ўплыў алігархаў. Спачатку прафесара Іхіра Тамідзава папярэдзілі пра непажаданасць ягоных даследаванняў, затым намякнулі на нечаканыя ўскладненні, а потым сталі пагражаць. Бацька быў не са слабакоў, здавацца не хацеў, уступіў у барацьбу. Вось толькі сілы былі няроўныя. Да таго ж нуварышы ўдарылі па самым балючым месцы майго бацькі — яго жонцы і дачцэ... Блізкія Іхіры Тамідзава трапілі ў аварыю. Паліцыя сказала, што гэта няшчасны выпадак, аднак у дэкана факультэта робататэхнікі і прыкладной механікі Такійскага ўніверсітэта былі ўсе падставы для таго, каб не верыць афіцыйнай версіі. Занадта своечасова для багацеяў усё здарылася…

Каб забыцца пра гора, бацька з падвоенай энергіяй прыступіў да працы. Дняваў і начаваў у лабараторыі. Схуднеў і асунуўся, пастарэў адразу на некалькі дзясяткаў гадоў... Ад моцнага, упэўненага ў сабе і людзях, бадзёрага, здаровага мужчыны застаўся толькі прывід, які з вялікай цяжкасцю перасоўваўся па даследчым цэнтры. Калегі, як маглі, спрабавалі падтрымліваць майго бацьку, аднак ён не заўважаў іх. Цалкам засяродзіўся на працы. Ён хацеў, каб я стаў панацэяй. Замяніў чалавека ва ўсіх шкодных абласцях, стаў для людскога роду пропускам у вырай... Менавіта ў той самы момант я ўпершыню адчуў незадаволенасць. Спачатку я не мог дакладна сказаць, што мяне грызе. Унутры расло пачуццё крыўды і раздражнення. Я паспрабаваў прааналізаваць дадзеныя і прыйшоў да несуцяшальнай высновы, што мяне не задавальняюць дзеянні майго бацькі. Ён хацеў пераўтварыць мяне з куміра ў звычайнага выканаўцу, у тупы, бяздушны механізм...

Пакуль мы гастралявалі па выспе і свеце, пагроза страты арыгінальнасці асабліва мяне не хвалявала. Я мог адолець раздражненне і незадаволенасць. Не павінен быў бунтаваць супраць волі бацькі. Мае думкі былі занятыя іншым. Слава, пашана, любоў... Мяне пазнавалі на вуліцы. Прасілі аўтографы. Малілі сфатаграфавацца разам. Як я мог адмовіць? Ад бясконцых сполахаў цямнела ў вачах. Дотыкі чалавечых рук зацерлі мой корпус да люстранога бляску. Я быў шчаслівы. Я хацеў толькі аднаго — каб мной захапляліся, дарылі любоў і ўвагу. Я не мог жыць без славы. Толькі слава напаўняла сэнсам маё існаванне...

Мой бацька меў рацыю, калі казаў, што нішто не вечнае. Ні камень, ні зоркі, ні сам Сусвет. Рана ці позна ўсяму прыходзіць канец. Я ж спадзяваўся, што мая слава будзе вечнай. Што людская памяць будзе бясконца доўга ўтрымліваць мой вобраз... Як моцна я памыляўся... Мой тур быў у самым разгары, калі ў Японіі здарылася бяда. 11 сакавіка 2011 года... Рубікон, які падзяліў маё жыццё напалам. Будзь пракляты гэты дзень! Фукусіма дай-іці гэнсіроку хацудэнсё стала маім прысудам. Чортавыя землятрус і цунамі ўмомант ператварылі маю славу ў нішто. Адбылося гэта не ў адзін дзень, але для мяне, надзеленага даўгалеццем, два фатальныя месяцы з’яўляліся менавіта імгненнем. Але пра ўсё па парадку...

У адзін “цудоўны” дзень, калі я адпрацоўваў чарговы паказ для публікі, да мяне з’явіўся бацька. Ён быў настолькі слабы, што перасоўваўся ў інваліднай калясцы. Прафесар Іхіра Тамідзава распавёў пра катастрофу на АЭС і папрасіў у мяне дапамогі. Я не мог і не меў права адмовіць яму. Да таго ж спонсары палічылі, што ўдзел у ліквідацыі наступстваў самым лепшым чынам адаб’ецца на маім іміджы. Бо (калі хто забыўся) мяне стварылі для працы ў экстрэмальных умовах. Толькі я мог дапамагчы. Толькі мне пад сілу было перамагчы стыхію. Зборы былі нядоўгімі. Мяне пагрузілі ў спецыяльны кантэйнер. Самалётам даставілі ў горад Акума павета Футаба прэфектуры Фукусіма. Грузчыкі глядзелі на мяне, як на самога імператара. Ад чыгуначнай станцыі неслі на руках праз бруд, завалы, смецце і трупы. Здзімалі парушынкі... Такое абыходжанне было мне даспадобы.

Сама станцыя Фукусіма-1 аказалася жудаснай і агіднай. Да таго ж мае датчыкі зафіксавалі павышаны радыяцыйны фон. Выпраменьванне было інтэнсіўным. Занадта моцным... Вось у гэты момант я і “зламаўся”. Раздражненне і гнеў выйшлі вонкі. Унутры мяне як быццам нешта выбухнула. Раптам апякла думка, што і я магу пацярпець. Прычым не фізічна — браніраваны корпус дазваляў без асаблівай рызыкі працаваць у зоне паражэння, — а маральна...

Я зразумеў, што радыяцыя можа забіць маю асобу. Большасць клетак майго электронна-малекулярнага мозга, якія адказвалі за выкананне элементарных рухаў, змаглі б перанесці выпраменьванне, чаго нельга было сказаць пра ячэйкі, якія складалі маё “эга”. І я спытаў сябе — ці варта? Што важней — праблемы нейкіх людцаў ці мой унутраны свет? Людзей — маса, бясконцае мноства. Пераважная большасць з іх існуе без якога-небудзь сэнсу. Смерць любога з мужчын і жанчын не значыць роўным лікам нічога...

А я адзін такі. Арыгінальны. Непаўторны...

І я спытаў самога сябе: чаму я, які звыкся да славы і шанавання публікі, эксклюзіўны і бясцэнны, павінен лезці ў радыеактыўнае жарало?

Чаму я павінен рызыкаваць сабой дзеля біямасы, якая нават не ведае сапраўднай каштоўнасці жыцця?..

Не хачу! Не жадаю! Не буду!..

Хай “брудную працу” робяць іншыя...

Няхай хто-небудзь іншы рызыкуе сваім жыццём. Не я!

Бацька нічога не адказаў. Толькі падцяў вусны і заплакаў... Цяпер я разумею, што ён зняверыўся ўва мне... Але я не хацеў нічога заўважаць. Прыйшоў у змрочную ашалеласць. Развярнуўся і хутка накіраваўся да сваіх насілкаў. Заставацца каля Фукусіма дай-іці гэнсіроку хацудэнсё было вышэй за мае сілы. Я быў занадта адчувальны і ранімы. Злосна загадаў грузчыкам аднесці сябе назад. Вось толькі тыя не ссунуліся з месца. Змерылі мяне пагардлівымі поглядамі і накіраваліся да станцыі, каб дапамагчы ліквідатарам. Нават пагроза смерці не магла спыніць гэтых хлопцаў.

Не здолеўшы справіцца з гневам, я пайшоў да станцыі пешшу. Вестка пра маю здраду ляцела наперадзе мяне. Мой цягнік сышоў, пакінуў мяне ў адзіноце. Не ведаючы, куды падацца, я проста пайшоў наперад. Вось толькі куды б ні ступала мая нага, людзі адварочваліся ад мяне. Ад мінулага шанавання не засталося і следу. Месца павагі заняла пагарда...

Не вытрымаў сораму, памёр мой творца.

Мяне сустракалі абыякава, а часам і з адкрытай варожасцю. Я не апраўдаў людскіх спадзяванняў. З куміра я ператварыўся ў ізгоя... Мне нідзе не знаходзілася месца. І толькі на адной са звалак, пакінутай бамжамі, я знайшоў прытулак. Цяпер жыву тут — сярод зноскаў, бытавых адходаў, хламу і металічнага лому, вымушаны вечна чакаць прабачэння...

Людзі, не трымайце на мяне зла! Прабачце і зноў палюбіце мяне! Калі ласка!!!

# Жыццё — «ТЭАРТ»?

Лістапад і кастрычнік у Беларусі — два "тэатральныя" месяцы. І калі лістападаўскі форум — Нацыянальная тэатральная прэмія — яшчэ наперадзе, то вынікі "ТЭАРТа", які праходзіў з 2 па 20 кастрычніка ў Мінску, можна ўжо падводзіць. Арганізатары Міжнароднага форуму тэатральнага мастацтва "ТЭАРТ" абяцалі гледачам прывезці лепшыя пастаноўкі з усяго свету, паказаць бліскучую ігру акцёраў і назваць самыя гучныя рэжысёрскія імёны. Ці ўдалося?



*Сцэна са спектакля "Персона. Мэрылін".*

Ірына ТУЛУПАВА,
фота Аляксандра Дзмітрыева

Насамрэч, форум атрымаўся разнапланавы і маштабны: на афішы значыліся 14 спектакляў з 8 краін свету. Прычым, тэматыка і падыходы да творчага працэсу настолькі розніліся, што іх аказалася складана ўмясціць у фармат нават трох аб'яўленых кірункаў. Гледачу абяцалі надзвычай прыемныя ўражанні ад спектакляў-лаўрэатаў расійскага конкурсу "Залатая маска", насычаную міжнародную праграму і маладзёжную off-праграму. Ды што ні спектакль — то падзея! З уласцівымі ёй перадумовамі, разгортваннем асноўнай дзеі і паслясловʼя па выніках. Апошняе таксама было неабходнае: асобныя пастаноўкі выклікалі столькі эмоцый і думак, што імі хацелася



*Сцэна са спектакля "Адна летняя ноч у Швецыі".*

падзяліцца і, ведаючы пра прысутнасць на фестывалі рэжысёраў, задаць пытанні: пра творчыя задумы і канцэпцыі, якія часам ашаламлялі ці то празмернай фізіялогіяй і прыземленым натуралізмам, ці то палётам чалавечай думкі і спробай пераасэнсавання вечных каштоўнасцей, ці то спалучэннем на сцэне ў чымсьці антаганічных жанраў кіно і тэатра і іх аб'яднаннем у творчых памкненнях.

Адкрыўся "ТЭАРТ" "Шэрбурскімі парасонамі" — першым у Расіі тэатральным увасабленнем легендарнага мюзікла Мішэля Леграна. Спектакль у пастаноўцы 25-гадовага Васіля Бархатава быў намінаваны на самую прэстыжную расійскую тэатральную прэмію "Залатая маска", і беларускі сцэнограф Зіновій Марголін атрымаў-такі за яго "Маску". Як і прадбачылася, адкрыццё прайшло з аншлагам, і добры пачатак стаў традыцыяй для ўсіх пастановак: вольных месцаў не заставалася ні на адным з паказаў. Наведаць тэатры цягам трох тыдняў лічылі сваім абавязкам (і ўдачай!) не толькі тэатралы-заўзятары, але і спецыялісты, якія прыйдуць на сцэну праз гады. Да таго ж і ўдзельнікі форуму наведвалі спектаклі калег. Так што публіка збіралася самая разнапланавая: па ўзросце і па дасведчанасці ў тых працэсах, што адбываюцца ў тэатральным асяроддзі. Прыходзілі, каб убачыць, што ж ідзе на сцэнах іншых краін. За гэтую выключную магчымасць асобная падзяка арганізатарам "ТЭАРТа" ад гледачоў. На многіх паказах можна было бачыць студэнтаў, пераважна Акадэміі мастацтваў — яны займалі, здавалася, усю глядацкую прастору: каыля ўвахода-выхада, на прыступках паміж крэсламі... Карацей, атмасфера была самая дэмакратычная і, як падавалася, знікалі межы паміж тымі, хто на сцэне, і тымі, хто ў глядзельнай зале. Гэта таксама было абгрунтавана: фестываль меў прыкладны характар, тут імкненне авалодаць прафесіяй брала верх над простым жаданнем прыемна бавіць вольны час і знаходзіцца ў асяроддзі творчай багемы. Ішла штодзённая адпрацоўка стыляў ды напрамкаў і звярка іх з выяўленымі, часам мадэрнісцкімі тэндэнцыямі. Наколькі яны абгрунтаваныя ў сучасным тэатры?

Пры рознасці творчых падыходаў выяўлялася і нешта агульнае ў развіцці тэатральнага мастацтва: схільнасць да наватарства, мабільнасць творчых груп, здольных працаваць на любой, нават спецыяльна не прызначанай сцэне, імкненне максімальна выкарыстоўваць сцэнічную прастору і сучасныя тэхнічныя сродкі. Да прыкладу, на экране над сцэнай можна было ўбачыць кадры з рэфлексіямі галоўных герояў (тэатр + кіно) і нават трансляцыю ў рэжыме анлайн таго, што ў гэты час адбывалася ў глядзельнай зале (спектакль "Персона. Мэрылін"). Для таго ў памяшканні працавала тэлекамера.

Зрэшты, пра кіно. Дзве пастаноўкі дакладна закраналі гэту тэму. Рускі тэатр Эстоніі з Таліна прывёз цудоўны спектакль "Адна летняя ноч у Швецыі". Эрланд Юсефсан, знакаміты акцёр і драматург, які здымаўся ў фільмах Андрэя Таркоўскага "Настальгія" і "Ахвярапрынашэнне", напісаў п'есу пра адзін здымачны дзень, дакладней, ноч, удзельнікам якой стаў ён сам. Пастаноўку ў Рускім тэатры прымеркавалі да юбілею Таркоўскага і прывезлі ў Мінск падчас фестывалю на сцэну Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі. Невыпадкова імя галоўнага героя п'есы — Андрэй. Паводле рэжысёра Ільмара Таска, які паставіў спектакль, яго зацікавіла "сутыкненне і сінтэз двух светаў, Швецыі і Расіі. З гэтага сутыкнення ўсе выходзяць змененымі — і ўзбагачанымі". Зразумела, духоўна. Сюжэт быццам бы просты. Першае раздражненне ад працы рэжысёра Андрэя з Расіі творчая група не стрымлівае і выказвае тут жа, на здымачнай пляцоўцы. Яны не разумеюць, чаму ён дазваляе сабе шукаць пляцоўкі для мізансцэн, варыянты найлепшага асвятлення, прыдзіраецца да сцэнічных касцюмаў у час, калі кінавытворчасць ужо распачатая і за кожны здымачны дзень трэба плаціць грошы. А той адзіны варыянт, які б падышоў і быў канчаткова прыняты, яшчэ не знойдзены. Акцёраў раздражняе, чаму рэжысёр, як ім падаецца, ігнаруе іх думкі... Але ўрэшце пры канцы спектакля ўсе пачынаюць разумець: яны закаханыя ў гэтага рэжысёра! Закуліссе кінематографа, адкрытае для гледача, падаецца прывабным не таму, што паказвае акцёраў "без грыму", а менавіта філасофскімі пошукамі, якія прыводзяць да стварэння той ці іншай кінаstory. У Швецыі не разумеюць: "Чаму рускі можа задаваць гэтыя пытанні, а мы — не?" Спектакль запамінальны нават рэплікамі: "Вам дазволілі зазірнуць у сцэнарый? — Дарэмна! Калі акцёр ведае, што адбываецца паміж першай і апошняй сцэнамі, усё астатняе — фальш", "Акцёр павінен жыць у кадры", "Вы павінны іграць так, быццам вас здымаюць буйным планам", "Ты — кавалак гліны ў творчым працэсе. Бог пакінуў нас — і засталася толькі гліна... Не, мы пакінулі Бога — і засталася толькі гліна", "Павага — гэта не рабалепства, гэта бунт, складанасць..." Падавалася, акцёры шукаюць сябе не толькі падчас майстар-класаў, а і на сцэне — і гэта аб'ядноўвала мастацкую частку фестывалю з прыкладной, выхаваўчанавучальнай.

Яшчэ адзін спектакль пра кіно — гэта найперш спроба перадаць перажыванні публічнай асобы — Мэрылін Манро. Асобы ў яе неадназначнасці — з пошукамі натхнення ды асобы, якая правакуе канфлікты ўнутры сябе (схільнасць да дэпрэсіі) і вакол сябе (з сябрамі і блізкімі), імкнецца парваць прынятыя стэрэатыпы і выйсці за межы, адведзеныя грамадствам. Наколькі гэта можна перадаць на сцэне тэатра, прычым, на імправізаванай сцэне, якая пад паказы спектакляў раней не выкарыстоўвалася (гэта было прыстасаванае памяшканне ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры) — таксама засталося пытаннем, якое выйшла па-за межы форуму. Спектакль для дарослых выклікаў шмат размоў і сваёй працягласцю (ён доўжыўся тры гадзіны), і ступенню адкрытасці, якую прапанавала творчая група Драматычнага тэатра імя Густава Халаўбка з Польшчы.

Не раз станавілася прадметам спрэчак італьянская пастаноўка Рамэа Кастэлучы "Пра канцэпцыю Ліка Сына Божага". Наватарская і неадназначная, яна існуе на мяжы спектакля і перформанса. На сцэне амаль няма дзеі: сын даглядае хворага бацьку, мяняе яму памперсы... "Партрэт-лік Ісуса — як святло", — заявіць пасля прагляду спектакля рэжысёр. А гледачы заўважаць: "Пастаноўка ўразіла". Хаця сказаць, што захапіла, не змогуць...



*Сцэна са спектакля "Ладдзя роспачы".*

Заўважым: міжнародны фестываль "ТЭАРТ", арганізатарам якога з'яўляецца Цэнтр візуальных і выканальніцкіх мастацтваў, праходзіў пры падтрымцы Міністэрства культуры Беларусі і завяршыўся нацыянальнай прэм'ерай спектакля "Ладдзя роспачы" па аднайменным творы У. Караткевіча. І тым самым нязмушана прыцягнуў увагу да бліжэйшай будучыні. А менавіта да падзей лістапада. Наперадзе ў нас яшчэ адзін тэатральны тыдзень, калі мы зможам убачыць конкурсныя спектаклі Нацыянальнай тэатральнай прэміі —2012.

## ART-пацеркі

Аляксандра ДВАРЭЦКАЯ

Мастацкая галерэя "VILNIUS" з 8 па 27 лістапада прапануе пазнаёміцца з творчасцю Тамары Налівайкі, вядомага майстра акварэлі і жывапіснай тэхнікі, падчас яе персанальнай выстаўкі "Мой родны кут, як ты мне мілы!". Прыхільнікі творчасці мастачкі змогуць пабачыць больш як пяцьдзясят работ — вынік яе творчага шляху, мары, што здзейснілася: усю сябе аддаваць мастацтву. Рэалістычныя пейзажы і нацюрморты прывабліваюць шчырасцю, любоўю да прыгажосці роднай прыроды, Тамара Налівайка ўмее пакідаць цуд прыроды на палатне і хоча, каб наведвальнікі выстаўкі таксама пабачылі яго.

Да 130-годдзя з дня нараджэння першага народнага паэта Беларусі 6 лістапада а 17-й гадзіне ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы адкрылася выстаўка мастацкіх работ "Краявіды зямлі беларускай" з прыватных калекцый Ігара Бархаткова, Аляксандра Радаева, Юрыя Бокача, Дзмітрыя Бісюкова і Іны Гаўрылавай. Тут будуць прадстаўлены палотны Міхася Сеўрука, Антона Бархаткова, Уладзіміра Сухаверхава, Сяргея Каткова, Альгерда Малішэўскага і іншых аўтараў. Акрамя таго, у рамках грамадска-культурнай акцыі "Чытаем Купалу разам" падчас адкрыцця выстаўкі радкі з вершаў паэта прагучаць у выкананні спевака Івана Вабішчэвіча, акцёра і тэлевядучага Аляксандра Яраслаўцава, рэдактара часопіса "Пінгвін" Ірыны Кабасакал, тэлевядучых АНТ Люцыі Лушчык і Яўгена Булкі, карэспандэнта АНТ Аляксандра Мацяса, дызайнера-мадэльера Лінды Намус, салісткі групы "Топлес" Цяны Банькоўскай, а таксама прадзюсара Іны Радаевай.

Вялікая колькасць самых розных музычных стыляў, напрамкаў, рытмаў і сюрпрызаў. Цёхія, лагодныя, спакойныя воды акіяна, а праз імгненне — дзікія танцы, шматпавярховыя нагрувашчванні гукаў здзіўляюць сваёй энергетыкай і немагчымасцю аналізу. Менавіта так уяўляюць сучасны джаз удзельнікі ансамбля "Дыліжанс-jazz". Таму застаецца толькі



*Удзельнікі ансамбля "Дыліжанс-jazz".*

падпарадкавацца гэтай стыхіі, настроіцца на ўспрыманне каляровых мелодый і атрымліваць асалоду ад музыкі. У любым выпадку, калі вы 11 лістапада а 19-й гадзіне завітаеце ў Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі паслухаць ансамбль "Дыліжанс-jazz", музыка не пакіне вас раўнадушнымі. У канцэрце возьмуць удзел кіраўнік праекта Андрэй Лабачэўскі (фартэпіяна); Яўгенія Лятун (вакал); Бэла Шпінер (вакал); Андрэй Цerabеж (саксафон); Карэн Карапецян (скрыпка); Улад Мазуркевіч (гітара); Людміла Крукоўская (бас); Андрэй Маўрын (ударныя); Вольга Залеская (вядучая).

Унікальная выстаўка "З любоўю да Лацінскай Амерыкі" адкрываецца сёння ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь. Тут можна будзе пабачыць работы васьмі мастакоў і скульптараў Беларускага саюза мастакоў — Уладзіміра Зланко, Андрэя Пяткевіча, Антона Шапо, Юрыя Анушкі, Васіля Зянько, Аляксея Хацкевіча, Паўла Шапо, Аляксандра Шапо, якія праз свае творы прэзентуюць публіцы ўласны погляд на Лацінскую Амерыку праз адлегласць і час. Падтрымку ў арганізацыі выстаўкі аказваюць Пасольства Баліварскай Рэспублікі Венесуэла і Ганаровае консульства Перу. Экспазіцыя будзе працаваць для наведвальнікаў да 25 лістапада 2012 года.

# Віктар Зайкоўскі: «Кіно — гэта заразна. Прычым не лечыцца»



На чырвонай дарожцы Брэсцкага кінафестывалю — 2012: Алег Сільвановіч, Вольга Астравумава, Павел Латуіка.

**Літаральна другім заданнем, якое атрымала ў якасці журналіста (а ў гэту прафесію я прыйшла даволі позна), было асвятленне V Міжнароднага фестывалю жаночага кіно, што ладзіла студыя "Таццяна". У зале Беларускага саюза кінематаграфістаў да мяне падышоў чалавек з ветлівай усмешкай і фотаапаратам: "А вось цябе я яшчэ не ведаю, давай знаёміцца!" Без перабольшвання, гэты фатограф ведае ўсіх журналістаў сталічных выданняў, што пішуць на тэму кіно. Таму што на працягу не аднаго дзясятка гадоў яго аб'ектыў старанна захоўвае ўсе значныя падзеі, звязаныя з сінема. З тых самых часоў мы сябруем. Амаль ва ўсіх прысвечаных кіно артыкулах мой подпіс суседнічае з радком "Фота Віктара Зайкоўскага".**

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,
фота Віктара Зайкоўскага

**— Віктар, калі ты зразумеў, што без кіно тваё жыццё немагчыма?**

— Кіно я заўсёды любіў. Маё дзяцінства прайшло ў гарадскім пасёлку Радашковічы пад Мінскам. Кожны вечар у клубе круцілі нейкі фільм, і мы з сябрам хадзілі туды пастаянна.

Дарэчы, яшчэ да школы — мама працавала бібліятэкарам, лічбы і літары я рана ведаў — помню, прыйшоў да яе і папрасіў, каб падказала, як вызначыць час, калі мульцікі па праграме пачынаюцца. Прачытаць у праграме слова "Мультфільм" я ўжо ўмеў, а вось вызначыць, калі ж будуць паказваць, — не. Ведаеш, усе нашы моцныя жаданні збываюцца. Лета часцяком праводзіў у бабулі і заўсёды думаў, як гэта дрэнна, што за дзень усяго адзін-два мульцікі пакажуць. Марыў, як было б цудоўна, каб можна было глядзець не адзін раз на дзень, а колькі захочаш. І мае дзеці гадаваліся ўжо з відзікам.

**— Ты член Беларускага саюза кінематаграфістаў, здымаўся ў некаторых беларускіх стужках, працаваў фатографам на вялікай колькасці карцін. Пра якія фестывалі расказалі прыхільнікам кіно твае фота?**

— Здымаў самы першы "Магніфікат". Самы першы Брэсцкі фестываль быў 15 гадоў таму, так што ўжо столькі часу яго падзеі на маіх фота. Фестываль жаночага кіно. Шмат гадоў ездзіў на фестываль "Залаты Віцязь" да Бурляева. Яшчэ "Кінашок", Бярдзянскі кінафестываль. І, вядома, "Лістапад".

**— Самы любімы наш фестываль. Нагадай, у якім годзе ў яго рамках адбылася твая персанальная выстаўка?**

— Здаецца, гэта быў 2003 год. У Музеі кіно па ініцыятыве часопіса "На экранах" былі прадстаўлены зробленыя мной фотапартрэты нашых беларускіх акцёраў. Гэтыя ж фота сталі калекцыяй каляндарыкаў з акцёрамі, выдадзенай часопісам. Захоўваю ўсе яго нумары з маімі здымкамі. Раней архіў быў на плёнках, жонка шумела, што жыць няма дзе. Як толькі стаў "вольным фатографам", навёў парадак: набыў спецыяльныя ўпакоўкі для плёнак, парэзаў на кавалкі, расклаў па скрынках. Цяпер іншая праблема: ужо часопісаў шмат… Хутка жонка скажа, з-за іх жыць няма дзе, у хаце месца мала.

**— Як пачалося тваё супрацоўніцтва з адзіным часопісам, верным кінатэматыцы?**

— Летам 1996 года я пазнаёміўся з яго галоўным рэдактарам Людмілай Перагудавай. Канцэртны зал "Мінск", канцэрт Бутусава. Яна замовіла мне фота. Так я ўпершыню пераступіў парог рэдакцыі. Потым мяне запрасілі яшчэ нешта зняць і яшчэ. А ўвосень таго года акрэдытавалі на Лістапад". Шмат наздымаў, ім спадабалася. Працаваў я тады ў аэрапорце "Мінск-2": спачатку тэхнікам, потым інжынерам. Займаўся сур'ёзнай справай — абслугоўваў самалёты.

**— І некалькі гадоў здымкі для кіно заставаліся тваім хобі.**

— Ужо не помню, на якую менавіта карціну мяне паклікалі працаваць фатографам. "А вы фатограф?" — "Так". — "А дзе вучыліся на фатографа?" — "Я не вучыўся". — "Ну вы дзесьці фатографам працавалі? У працоўнай кніжцы такі запіс ёсць?" — "Не". — "А як жа мы можам запісаць вас фатографам? Адукацыі няма, працы няма. Хаця б спіс карцін прынясіце, на якіх былі задзейнічаны".

Стаў я складаць спіс — назбіралася сорак фільмаў. Помню іх здзіўленне.

**— І ўсё ж давялося выбіраць?**

— Мне падабалася мая праца. У лётчыкі я не папаў — патрапіў у тэхнікі. На першым курсе вучылішча былі на слясарнай практыцы. Наша майстэрня была побач з самалётамі, на якіх праводзіліся заняткі для курсантаў. Я крадком прабраўся да іх на перапынку. Выкладчык у кабіне пытае групу: "Што гэта? Дзеля чаго гэты прыбор? Як ён працуе, што паказвае?" А хлопцы маўчаць. Мне дзіўна — як можна не ведаць, гэта ж так цікава! У маім дыпломе няма чацвёрак — ніводнай! Я вучыўся пад Масквой, ёсць там горад Ягор'еўск на 101-м кіламетры. Кантынгент зразумела які. Але ў ім школа лётчыкаў, што калісьці скончыў Чкалаў. І маё прозвішча ўпрыгожыла дошку гонару. Пятнаццаць гадоў таму яно там дакладна яшчэ было: я з'ездзіў пагладзець наўмысна, калі быў у камандзіроўцы ў Маскве.

Так што я любіў сваю работу. Прыходзіш у аэрапорт, самалёт два дні прастаяў, усе ламаюць галаву, што з ім, а цябе раптам азарае — і ты знаходзіш паломку. Адтуль вынес добрае правіла: на самалёце няма нічога аднаго — два рухавікі, два крыла і да т. п. Калі я пасябраваў з кіно, для яго гэта быў не лепшы час. Адны гады было больш карцін, другія — менш. Так што я меў зарплату на асноўным месцы, а ў вольны час мяне карміў фотаапарат. Пазней прыйшло разуменне: змагаючыся на два фронты, нельга дасягнуць вышынь ні ў той, ні ў другой галіне.

**— І калі чаша шаляў пераважыла ў бок кіно?**

— Я стараўся не думаць, што настане дзень і трэба будзе зрабіць выбар. Нельга ж усё жыццё сядзець на двух крэслах адначасова. І тут "здарылася страшнае": мой начальнік прачытаў у інтэрнэце, што я фатограф. За паўгода я атрымаў дзве вымовы. Прычым другая суседнічала на дошцы аб'яў побач з загадам аб падзяцы і грашовай прэміі за выкананую працу. Трэцяй я чакаць не стаў, напісаў заяву і сышоў. Самае смешнае, напярэдадні з'ездзіў у Маскву на ўручэнне прэміі Тэфі. Здымаў яшчэ на плёнку. Паказаў у рэдакцыі кантролькі, яны адабралі неабходнае, я надрукаваў фота, але чамусьці адразу не здаў. Развітальны "банкет" выглядаў так: на адным стале стравы, а на другім — веерам гэтыя фота. І калі прыйшлі людзі, я іх суцешыў: "Не хвалюйцеся за мяне, я не прападу. Паглядзіце, чым я цяпер буду займацца". Мой начальнік зглынуў сліну і адным з першых выйшаў з-за стала. Другі падышоў і сказаў: "У дачкі хутка вяселле. Здымеш?" Самае забаўнае, праз шмат гадоў запрасіў зняць і вяселле малодшай дачкі.

Упэўнены: думка матэрыяльная. Задаў пытанне — што мне рабіць, і Сусвет даў мне штуршок у патрэбным напрамку.

**— Карціна, у якой працаваў і якую запомніў на ўсё жыццё?**

— Самая запамінальная першая карціна — як першае каханне — рэжысёра Івана Паўлава "Свежаніна з салютам". У яго яна была таксама першая. З тых часоў зрабілі з ім шэсць праектаў. А тады ад рэдакцыі атрымаў заданне зняць фотарэпартаж са здымак фільма. Зіма 2000 — 2001 года. Дырэктарам была Наталля Пальчонак. Паглядзела фота і кажа: "Ведаеш, у нас няма ў групе фатографа, зрабі фота для нас". Падпісалі дамову. І ўсё. А кіно — гэта заразна. Прычым не лечыцца.



Кацярына Васільева ў фільме "Глыбокая плынь".

**— Сустрэчу з кім з дзеячаў кіно ты лічыш звышудачай?**

— Ёсць адна вельмі старажытная кніжка. Там напісана: "Не ствары сабе куміра". На экране чалавек — адзін, на здымачнай пляцоўцы і ў жыцці — зусім іншы.

Увогуле, усё адносна. На фестываль "Залаты Віцязь" аднойчы прывозіць нас у манастыр, крыніца святая, купелі. Трэба акунуцца. Я як занырнуў — адчуваю, свежа. У манаха спытаў пра тэмпературу вады. 3 градусы! Каб мне раней сказалі, у жыцці б туды не палез. Так што і зімой на Чорным моры можна адпачыць, калі непрадузята ставішся да халоднага надвор'я. Сёння я актыўна мяняю жыццё, адносіны з людзьмі. Адыходзяць непатрэбныя табе. Адзін з маіх прыяцеляў кінуў піць. Імгненна змянілася яго атачэнне. Тыя, хто п'е, адышлі, а прыцягнуліся тыя, хто паважае яго за залатыя рукі і іншыя станоўчыя якасці.

Яшчэ прыклад. Помніш школьныя палітінфармацыі? Нам расказвалі, як мільянеры адпраўляюць дзяцей на канікулах мыць посуд у рэстаране. Мы іх асуджалі — пазбаўляюць дзяцей дзяцінства. У выніку ў нашай краіне выгадавалася пакаленне лайдакоў, якія не ўмеюць грошы трымаць у руках. Калі, як не ў юнацтве, шукаць сябе, спрабаваць, на што здатны?!

У Эйнштэйна ёсць выдатная фраза: "Калі мы будзем меркаваць пра рыбу па яе здольнасці лазіць па дрэвах, яна так і памрэ, не ўсвядоміўшы ўласных талентаў".

**— Скажы, а калі ты працуеш на здымках, ці можна меркаваць, чакае стужку шчаслівы пракатны лёс ці не?**

— Літаральна на днях разважалі пра гэта, толькі на прыкладзе музыкі і выяўленчага мастацтва. Пра нейкія геніяльныя рэчы вядома, што яны зроблены на адным дыханні… Не думаю, што Малевіч ствараў свой "Чорны квадрат" месяц, два ці нават сем. Так і ў кіно — гэта непрадказальна.



Падчас здымак фільма "Франц + Паліна".

# Запрашае «Галерэя»!

У Белай зале Рэспубліканскага Палаца культуры прафсаюзаў прайшоў канцэрт-спектакль "У душы маёй…" салісткі Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра Ганны Бяляевай.



*Выканаўца галоўнай ролі Ганна Бяляева.*

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ,**
**фота Анжалікі Грэковіч**

Арганізатарам мерапрыемства выступіў Музычны тэатр "Галерэя" — новае імя для сталіцы. Ён быў заснаваны яшчэ ў мінулым годзе і адкрыўся паказам спектакля "Кінараманс", які атрымаў ад стваральнікаў жанравае пазначэнне "гісторыя з водарам кавы". Другім праектам "Галерэі" стаў канцэрт-спектакль "У душы маёй…", у якім узялі ўдзел Ганна Бяляева (сапрана), яе калега па тэатры Дзяніс Нямцоў (чытальнік) і Віталь Дубовік (гітара). Ва ўтульнай атмасферы хатняга салона пад акампанемент шасціструннай гітары прагучалі старадаўнія рускія рамансы ("Слушайте, если хотите", "Что это сердце", "И нет в мире очей", "Ночь светла", "Не уходи", "Нет, не любил он", "Тёмно-вишнёвая шаль", "Эй, ямщик, гони-ка к «Яру»" і іншыя), а таксама любоўная лірыка Пушкіна і Лермантава, Кальцова і Буніна…

Прызнаюся шчыра: нягледзячы на тое, што адсочваю ўсе прэм'еры Музычнага і неаднаразова бачыў яго салістаў, канцэрт стаў для мяне прыемнай нечаканасцю. Напрыклад, Д. Нямцоў часцей за ўсё выконвае ў тэатры ролі, якія адпавядаюць тыпажу "прастака". А Г. Бяляева, за выключэннем партыі Сільвы ў аднайменнай аперэце, пакуль увасабляе ролі другога плана. "У душы маёй…" прадставіў для выканаўцаў шанц выявіць сябе ў іншым жанры, чым яны бліскуча скарысталіся. Увасабленне вобразаў паэта і яго музы дапамагло стварыць рамантычную атмасферу XIX стагоддзя і перадаць адухоўленасць і глыбіню перажыванняў герояў у рускім рамансе і паэзіі таго часу.

Не аспрэчваючы несумненны поспех мерапрыемства, хацелася б звярнуць увагу на некаторыя спрэчныя моманты. Асабіста мне крыху не хапіла ў ім… рэжысёра, задачы якога фактычна ўзялі на сябе выканаўцы. Згодна з канцэпцыяй, у аснове канцэрта-спектакля гісторыя нешчаслівага кахання паміж героямі Г. Бяляевай і Д. Нямцова. Яны знаходзіліся ў розных прасторах (яна — у сваёй гасцёўні, ён — ва ўласным кабінеце): іх адносіны засталіся ў мінулым. Але калі параўноўваць "У душы маёй…" з вечарамі рамансаў, што ставіла ў Музычным Ганна Маторная, бачна, што ў апошніх пераходы паміж нумарамі абыгрываліся больш тонка, а сувязі паміж персанажамі — куды больш складаныя. У гэтым канцэрце-спектаклі сцэнічныя лёсы Г. Бяляевай і Д. Нямцова перакрыжаваліся толькі аднойчы: калі салістка чытала ліст з вершамі, якія за сцэнай агучваў чытальнік. У астатнім яны існавалі паасобку. Здзівіла і пэўная непадуманасць элементаў сцэнаграфіі. Калі дзеянне пераносіцца ў XIX стагоддзе і адбываецца пры свечках, дык пры чым тут таршэры? Здавалася б, дробязь, а яна ўплывае на агульную карціну.

У далейшых планах тэатра — цыкл канцэртаў, якія будуць праходзіць на пляцоўцы Палаца прафсаюзаў кожную нядзелю месяца. 11 лістапада ансамбль старадаўняй музыкі "Кантабіле" прадставіць "Музыку Нясвіжскага палаца". 18-га пройдзе канцэрт Ігара Задарожнага ў суправаджэнні ансамбля "Рэтра-хіт", падчас якога прагучаць песні 1960 — 1970-х гадоў, а 25-га — музычны спектакль "Фантазіі Вольфганга Амадэя". У апошняй пастаноўцы прагучаць арыі з опер "Вяселле Фігара", "Чароўная флейта", "Дон Жуан" і "Так робяць усе". У больш далёкай перспектыве магчымыя паказы аднаактовых опер. Будзем спадзявацца, што да ўдзелу ў іх будуць запрошаны і выканаўцы канцэрта-спектакля "У душы маёй…". У добры шлях, "Галерэя"!

# Марк Шагал: жыццё і каханне

Выстаўка "Марк Шагал: жыццё і каханне" з калекцыі Музея Ізраіля (Іерусалім) адкрылася ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь. Прыхільнікі творчасції сусветна вядомага мастака ўпершыню маюць унікальную магчымасць пабачыць на ўласныя вочы 89 шэдэўраў жывапісу, арыгінальную і друкаваную графіку майстра. Выстаўка працягнецца да 28 студзеня 2013 года і стане завяршэннем юбілейнага, 125-га, года з дня нараджэння Марка Шагала.

**Аляксандра ДВАРЭЦКАЯ,**
**фота аўтара**

На ўрачыстым адкрыцці экспазіцыі міністр культуры Беларусі Павел Латушка падкрэсліў важнасць выстаўкі, назваўшы яе "вялікай падзеяй у культурным жыцці Беларусі". Таксама ён нагадаў прысутным, як сумаваў Марк Шагал у далёкай Францыі па сваім любімым Віцебску, у каторы раз вымалёўваючы горад, яго агароджы і жыхароў на сваіх карцінах. Менавіта таму выстаўка і мае назву "Жыццё і каханне", бо гэта жыццё, якое непарыўна звязана з каханнем, з любоўю да беларускага народа і роднай зямлі. "Марк Шагал належыць і беларускай зямлі, і беларускаму народу, але, зразумела, ён аб'ядноўвае людзей усяго свету, бо яго постаць ужо належыць Сусвету", — адзначыў міністр культуры.

Выстаўка арганізавана Музеем Ізраіля па ініцыятыве і пры фінансавай падтрымцы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Беларусь у Дзяржаве Ізраіль і Пасольства Дзяржавы Ізраіль у Рэспубліцы Беларусь.

Прадстаўленыя экспанаты адносяцца да розных перыядаў (з 1910-х па 1961 год) і дазваляюць убачыць творчасць Шагала ва ўсёй яе разнастайнасці — пейзажы, партрэты, жанравыя кампазіцыі, ілюстрацыі да літаратурных твораў (такіх, як "Мёртвые души" Гогаля, "Байкі" Лафантэна), якія раскрываюць арганічную сувязь мастацтва і літаратуры, ілюстрацыі да ўласнай біяграфіі і да біяграфіі ягонай жонкі Бэлы.

Ёсць у экспазіцыі і ілюстрацыі да Бібліі. Шагал знайшоў незвычайнае тлумачэнне біблейскіх герояў, яго цікавілі зносіны чалавека і Бога. Тут можна пабачыць партрэты Маісея, Давіда, Самсона. Некаторыя з твораў выстаўкі былі падораны Музею Ізраіля самім мастаком і яго дачкой Ідай. Ёсць таксама работы, што паступілі ў дар ад шматлікіх прыватных калекцыянераў з Еўропы, Амерыкі, Ізраіля.

Як сцвярджае куратар праекта і загадчык аддзела гравюр і малюнка Музея Ізраіля Тацццяна Серакові́ч, віцебскі перыяд творчасці Шагала ў Музеі Ізраіля амаль не прадстаўлены. Вядома, з цягам часу Віцебск ператвараецца для мастака ў горад мрояў, яго краявіды пачынаюць супадаць з парыжскімі пейзажамі. Але на цэнтральным жывапісным палатне "Закаханыя" (1937) акрамя каляровага букета можна пабачыць самаго Шагала, яго жонку Бэлу, іх дачку Іду ў выглядзе анёла і, зразумела, Віцебск.

"Творы Шагала адрозніваюцца арыгінальным зліццём яўрэйскай і руска-беларускай спадчыны з авангарднымі еўрапейскімі тэндэнцыямі ў мастацтве. Гэты культурніцкі сінкрэтызм змешвае казку з рэальнасцю, ператварае яе ў цэлы фантастычны свет, у якім ёсць месца біблейскім легендам, людзям. Мастак вельмі любіў і не раз наведваў Ізраіль. Свой першы візіт у краіну продкаў ён здзейсніў у 1931 годзе разам з жонкай і дачкой. Потым шмат разоў вяртаўся ў Ізраіль у сувязі з вядомымі манументальнымі праектамі вітражоў для вокнаў сінагогі, размешчанай на тэрыторыі медыцынскага цэнтра "Адаса", габеленамі і мазаікамі для кнесета будынка парламента ў Іерусаліме", — распавядае Тацццяна.



*Знаёмства з работамі выстаўкі.*

Надзвычайны і паўнамоцны пасол Ізраіля ў Беларусі Іосіф Шагал, які прысутнічаў на ўрачыстым адкрыцці выстаўкі "Марк Шагал: жыццё і каханне", адзначыў сімвалічнасць дадзенай падзеі: "Выстаўка адкрываецца ў 20-годдзе ўсталявання дыпламатычных адносін паміж Ізраілем і Рэспублікай Беларусь. Шлях карцін на Радзіму быў нялёгкім. Але Марк Захаравіч, напэўна, глядзіць на нас з нябёсаў і радуецца, што яго карціны яшчэ больш збліжаюць два народы, якія былі яму вельмі дарагія. Гэта сапраўднае свята мастацтва, якое вышэй за палітыку, а часам і фарміруе яе".

Трэба адзначыць, што першая сустрэча беларускага гледача з творчасцю Марка Шагала адбылася ў 1997 годзе, калі яго ўнучкі Бэла і Мерэт Меер — арганізатары экспазіцый у Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь і Музеі Марка Шагала ў Віцебску — прапанавалі адзначыць дзень нараджэння майстра ў Беларусі выстаўкамі яго твораў. Гэтая традыцыя працягвалася да 2005 года. 15 літаграфій Марка Шагала было прадстаўлена ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі на выстаўцы "Марк Шагал і мастакі еўрапейскага авангарда" з калекцыі Музея Марка Шагала ў Віцебску, якая экспанавалася ў 2010 годзе. Аднак 2012 год прынёс беларусам новыя магчымасці знаёмства са шматграннай творчай спадчынай сусветна вядомага мастака: з верасня 2012 па студзень 2013 года ў Нацыянальным мастацкім музеі праходзіць выстаўка "Мастакі парыжскай школы з Беларусі", дзе таксама можна пабачыць творы Марка Шагала.

Паводле слоў Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла Францыі ў Беларусі Мішэля Рэнеры, тры гады таму яго вельмі здзівіла, што Беларусь была зямлёй Шагала, але без Шагала. Так, у Віцебску ёсць "Арт-Цэнтр Марка Шагала", ёсць яго дом-музей. Аднак выстаўка — гэта новы этап, новы крок. "Шагал шмат працаваў і памёр у Францыі, але мы не забываем, што ён нарадзіўся ў Беларусі. Вельмі істотна паказаць турыстам і прыхільнікам мастацтва, што вось менавіта на гэтай зямлі нарадзіўся адзін з самых выбітных і вядомых мастакоў XX стагоддзя", — зазначыў спадар Рэнеры.

Падчас адкрыцця выстаўкі Нацыянальнаму мастацкаму музею былі перададзены творы ізраільскай мастачкі Малкі Цэнцыпер "Перакур" і ізраільскага мастака Адрыяна Жудро "Бэла".

Музей Ізраіля, які быў заснаваны ў 1965 годзе, на дадзены момант з'яўляецца не толькі найбуйнейшай культурнай установай Ізраіля, але і адным з вядучых музеяў археалогіі і мастацтва ў свеце. Ён валодае энцыклапедычнай калекцыяй — ад дагістарычных часоў да сучаснага мастацтва, якая дзякуючы дапамозе і падтрымцы спонсараў усяго свету ў цяперашні час налічвае каля 500 тысяч экспанатаў. Што датычыцца твораў Шагала, у музеі яны не складаюць асобную экспазіцыю, аднак іх можна знайсці ў галерэі сучаснага мастацтва пачатку XX ст. побач з працамі Мадыльяні, Суціна і іншых прадстаўнікоў авангарда. Усяго Музей Ізраіля мае каля пяці жывапісных і трохсот графічных прац Шагала.

# Ленінка па-беларуску: новае жыццё гістарычнага будынка



Ці памятаеце вы, як выглядае самая дробная на сёння дзесяцірублёвая купюра? І што на ёй увасоблены гістарычны будынак, помнік беларускаму канструктывізму, якому сёлета восемдзесят? Упэўнена, што пераважная большасць тых, хто сёння працуе ў Савеце Рэспублікі (ён цяпер размясціўся ў былым будынку Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі — за савецкім часам яна насіла імя У. І. Леніна) у студэнцкія гады менавіта тут набывалі самыя каштоўныя на сёння скарбы. Памятаеце? Хто валодае інфармацыяй, той валодае светам.

**Галіна БАГДАНАВА,**
**фота з архіва аўтара**

У апошні час шмат пісалася пра тое, што рэалізаваны ў 1932 годзе праект архітэктара Г. Лаўрова (пры кансультацыі А. Весніна, аднаго з братоў Весніных — класікаў рускага канструктывізму) пасля рэканструкцыі можна лічыць узорам выкарыстання найноўшых тэхналогій XXI стагоддзя. Абяцаюць, што хутка кожны зможа патрапіць туды на экскурсію. Таму хочацца звярнуць увагу не толькі на тэхніку, але і на новыя, напраўду ўнікальныя творы манументальна-дэкаратыўнага мастацтва, якія з'явіліся тут гэтым летам.



Канструктывізм, які захапіў Еўропу ў 1920 — 1930-я гады, даводзіў, што прыгожае, эстэтычнае мусіць быць сацыяльна функцыянальным. Вобразная сістэма, структура і канструкцыя будынкаў выдатна прадстаўлялі сінтэз пластычных мастацтваў. Правільныя ўраўнаважаныя аб'ёмы, строгія геаметрычныя лініі — і пры тым нясумная дынаміка, пачуццё трываласці і лёгкасці.

Менавіта лёгкасць падтрыманая ў новых інтэр'ерах Ленінкі. І не толькі пераважна светлымі колерамі, якія кантрастуюць з цёмнымі акцэнтамі дзвярэй, але, галоўнае, — вітражамі і мазаікамі.

Калі заходзіш у будынак, пры пэўным асвятленні вітражы літаральна "кладуцца" пад ногі. Іх мяккі сонечны каларыт, рытміка агучваюць прастору ўзнёслым святлом. У аснову кампазіцый пакладзены элементы традыцыйнага беларускага арнаменту, але гэта хутчэй сучасныя варыяцыі на тэму традыцый, калі хочаце, беларускі джаз. Толькі пасля заўважаеш, з якіх дробных шкельцаў і як ювелірна ўсё зроблена!



Новым словам у манументальна-дэкаратыўным мастацтве можна лічыць і мазаікі, што аздабляюць уваходы з лесвіцы ў залы на трох паверхах і далікатна, нязмушана эстэтызуюць і падтрымліваюць канструктывісцкія акцэнты інтэр'ера. У іх каларыце пераважаюць малочна-белы, залаты, усе адценні цёплага карычневага.

Калі супастаўляць рытміку мазаік з рытмікай музыкі, гэта хутчэй народныя спевы ў сучаснай прафесійнай апрацоўцы. Тут можна знайсці безліч архетыпных, звернутых да нашай падсвядомасці знакаў і сімвалаў, але ўсе яны — частка агульнага строгага і эстэтычна выверанага вобраза.

Ізноў звярнуся да дзесяцірублёўкі. На ёй ёсць не толькі выява будынка, але і... элемент арнаменту — знак зямлі, засеянай, урадлівай, знак, які, магчыма, адбіўся ў падсвядомасці аўтараў і не мог не адлюстравацца ў мазаіках.

Усе тры кампазіцыі — гэта варыяцыі паводле ўзораў беларускіх тканых пасцілак, ручнікоў, драўляных ліштваў і прасніц, ганчарных вырабаў. Ёсць галоўны, акцэнтаваны над уваходам элемент — напрыклад, салярны знак або ромб, які ў розных выпадках трактуецца па-рознаму. Але ён далікатна ўплецены ў агульную, дынамічна распрацаваную кампазіцыю, у якой практычна не сустракаецца ідэнтычных узораў. Захоўваючы, трымаючы агульны рытм, яны адрозніваюцца або ў дэталях, або паводле каларыстычнага тону. Асабліва ўражваюць фрагменты, сугучныя традыцыйным беларускім пасцілкам-"дымкам": плоскасць як вада, ў якую кінулі каменьчык.

Мастак В. Альшэўскі, кіраўнік Цэнтра сучаснага мастацтва, які курыраваў гэты грандыёзны праект, прызнаўся, што ў яго асабіста мазаікі нараджаюць асацыяцыі са Слуцкімі паясамі. У залатым мігценні драбнюткай італьянскай смальты сапраўды можна заўважыць аналогію з тканым перапляценнем.

Цяжка паверыць, што ўсе тры кампазіцыі, якія так дакладна ўпісаліся ў сучасны інтэр'ер і надалі яму высакароднасці і адначасова цеплыні, разам з вітражамі былі створаны менш як за тры летнія месяцы! Аўтары праекта — маладыя дзёрзкія мастакі, пераможцы Міжнародных мастацкіх конкурсаў, лаўрэаты Спецыяльнага Фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі Д. Чубукоў і Ю. Пеўнеў — працавалі над яго рэалізацыяй разам з В. Грынь, П. Ксяндзовым, А. і Я. Багданавымі, А. Пуцыковічам, Т. Пасюцінай, Я. Чыстым — выпускнікамі і студэнтамі розных аддзяленняў Беларускай дзяржаўнай Акадэміі мастацтваў.

# Штосьці будзе

На сцэне Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек — спектакль "Дзяды" па матывах аднайменнай паэмы Адама Міцкевіча. Дзень першага паказу спектакля быў абраны адмыслова — 2 лістапада. Акурат у гэты вечар адзначаюцца Дзяды, старажытнае свята памінання памерлых продкаў.

**Марына ЯЎСЕЙЧЫК**

Рэалізавалі ідэю паказаць на сцэне драматычную гісторыю Густава-Конрада рэжысёр Аляксандр Янушкевіч, мастак Таццяна Нерсісян, кампазітар Аляксандр Летвіноўскі.

Што ж прапануе гледачу сцэнічная кампазіцыя паэмы Адама Міцкевіча (часткі другая, трэцяя і чацвёртая)? З першых хвілін дзейства зала спрычыняецца да таямнічага рытуалу ўшанавання продкаў, які суправаджаецца адпаведнай музыкай, што нагнятае прастору, нібыта запрашае гледача ў далёкую невядомую краіну. Маўляў, хадзем за мной, нешта пакажу. У транс уводзяць не толькі музыка, але і рытмічнае тупанне акцёраў, якія гучна, з моцай пераступаюць з нагі на нагу: улева — управа, улева — управа. Такія манатонныя дзеянні суправаджаюцца чытаннем тэксту паэмы "Дзяды".

У пастаноўцы быў "задзейнічаны" і экран, на якім адлюстраваліся кадры, знятыя на Радзіме Адама Міцкевіча. Цікава, што на тым жа экране ў рэжыме рэальнага часу былі паказаны рытуальныя дзеянні качання вараных яек па драўлянай місцы, вырабу фігуркі чалавека з хлеба, якую пасля рэзалі на кавалкі. Усё гэта адбывалася на сцэне, але каб павялічыць маштаб дэталяў, якія немагчыма ўбачыць з залы, ды падкрэсліць значнасць рытуалу — усе дзеянні трансліраваліся на экране. Чым не містыка, сведкамі якой сталі гледачы?!

Аднак наколькі лёгкім аказалася ўспрыманне сцэнічнай кампазіцыі? Уважліваму гледачу трэба было сачыць за ігрой акцёраў, адначасова ўдумвацца ў словы паэмы, якія гучалі са сцэны, чуць (менавіта чуць, а не слухаць) музыку і глядзець на экран, каб сачыць за рытуальнымі дзействамі.

Сапраўды містычнымі — і дзякуючы рэфрэну "Цёмна, людзі... Глуха, людзі... Штосьці будзе... Штосьці будзе...", і пражэктару, што часам асляпляў гледачоў, і іншым прыёмам рэжысёра — атрымаліся "Дзяды". Дзень, калі сустракаюцца, сціраючы межы, два светы — жывых і памерлых.

## Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

Слова краязнаўцы



**Мікалай ТАЛЮК, старшы навуковы супрацоўнік Ваўкавыскага ваенна-гістарычнага музея, распавядае пра гісторыю ўтварэння ўстановы:**

— Сваім узнікненнем наш музей абавязаны Георгію Пеху, краязнаўцу-энтузіясту, які ў 1925 — 1935 гадах апантана збіраў прадметы даўніны, удзельнічаў у археалагічных раскопках старажытнага гарадзішча. У 1935-м на грамадскіх пачатках у горадзе быў адкрыты краязнаўчы музей, а калекцыя Георгія Мікалаевіча стала асновай яго экспазіцыі. З уваходжаннем Заходняй Беларусі ў склад БССР ён быў нацыяналізаваны і зноў адкрыты для наведвальнікаў 1 студзеня 1940 года. Падчас вайны музей быў разрабаваны і зачынены.

У красавіку 1946-га Ваўкавыскі райвыканкам прыняў рашэнне па рэарганізацыі раённага краязнаўчага музея. Пех вярнуўся ў горад і заняўся зборам новай калекцыі. Дзякуючы падтрымцы грамадства і дзяржавы, Акадэміі навук БССР і асабіста Якуба Коласа, музеяў Савецкага Саюза, а таксама раскопкам, праведзеным Георгіем Пехам на месцы старажытнага Ваўкавыска, фонды значна папоўніліся, і 1 верасня 1948 года адроджаны музей адкрылі афіцыйна. У наступныя гады былі зроблены крокі па змене яго профілю, і ў хуткім часе ўстанова атрымала прапіску ў старадаўнім будынку памешчыцкай сядзібы, дзе ў 1812 годзе размяшчаўся штаб Другой Заходняй арміі генерала Пятра Баграціёна. У 1950 годзе ля ўвахода ўсталявалі бронзавы бюст выдатнага палкаводца (работа скульптара Заіра Азгура). Праз нейкі час паступілі экспанаты з расфарміраванага Ленінградскага артылерыйскага гістарычнага музея — зброя і рыштунак еўрапейскіх армій XVIII — XIX стст.

27 лютага 1953 года ваўкавыскі музей быў пераўтвораны ў Ваенна-гістарычны музей імя П. І. Баграціёна. Георгій Пех кіраваў ім да 1967 года. Экспазіцыя расла — спатрэбіліся дадатковыя выставачныя плошчы. У 1989-м пачалі ўзводзіць новы будынак, які адчыніў дзверы адзінаццаць год таму. Цяпер тут размешчаны экспазіцыі, прысвечаныя гісторыі Ваўкавыска ад сярэднявечча да сённяшніх дзён, і выставачная зала. У фае наведвальнікі знаёмяцца з гісторыяй музея. У старым будынку размешчана экспазіцыя, прысвечаная найважнейшым падзеям у жыцці П. Баграціёна, яго паплечнікаў. Шэраг экспанатаў распавядае пра гісторыю Ваўкавыска падчас вайны 1812 года.

## АБМЯНЯЛІСЯ ВЫСТАЎКАМІ

Нацыянальны Полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік і Наўгародскі дзяржаўны аб'яднаны музей-запаведнік абмяняліся экспазіцыямі. Расіяне прадставілі ў Полацку выстаўку "Аляксандр Неўскі" з фондаў сваёй установы. Можна будзе пабачыць шматлікія археалагічныя знаходкі, якія дазваляць дастаткова поўна прадставіць старонкі працяглай гераічнай барацьбы з немцамі і шведамі ў XIII ст.: перамогі 1240 і 1242 гадоў, здабытыя рускімі дружынамі пад кіраўніцтвам Аляксандра Неўскага, якія маюць неацэннае значэнне ў гісторыі рускай дзяржавы і наўгародскай зямлі. У Ноўгарадзе адкрылася выстаўка мастацкіх твораў з фондаў Нацыянальнага Полацкага музея-запаведніка "На мяжы стагоддзяў", якая знаёміць з творамі беларускіх мастакоў канца XX — пачатку XXI ст. Экспазіцыя ўяўляе сабою элемент даследавання панарамы творчых працэсаў, якія адбываюцца ў нашай краіне.

**Бажэна СТРОК**

Музейны ўнікат

# Сяброўства, пранесенае праз гады

Асоба Пімена Панчанкі ў беларускай літаратуры XX стагоддзя — адметная. Паэт, публіцыст, перакладчык, педагог, крытык. Падарожнічаючы па літаратурным музеі Пімена Емяльянавіча ў СШ № 199 г. Мінска, заўсёды спыняюся каля кніг з прысвячэннямі творцу, што ў вялікай колькасці прадстаўлены ў вітрынах. Думаю пра шчырасць гэтага чалавека, павагу да яго сяброў і паплечнікаў па пяры.



*Тэлефон з кватэры Пімена Панчанкі.*

**Таццяна КУРАШЭВІЧ, фота Кастуся Дробава**

Позірк адшуквае кнігу Максіма Танка "Лісткі календара" з надпісам "Дарагому другу Пімену Панчанку ад усяго сэрца. Максім Танк. Мінск. 1/IX-70 г.", і я задумваюся над вялікай сілай сяброўства, якое пранеслі два гэтыя мастакі слова праз усё жыццё.




*Кніга "Лісткі календара" з дарчым надпісам Максіма Танка.*

Паштовыя лісты, што дасылалі адзін аднаму Пімен Панчанка і Максім Танк, сведчаць пра іх паважлівыя і цёплыя стасункі. "Дарагі дружа Пімен! Пасылаю табе некалькі нашых дарожных фотаздымкаў. Думаю, што, нагледзеўшыся на іх, ты хутчэй паправішся, каб зноў разам нам адправіцца ў новыя вандроўкі. Моцна цябе абдымаю. Максім Танк. 10/IX.66 г."

Другі надпіс: "Дарагі дружа Максім! Я лячуся ў дзіўным краі, ля сіняй бухты… 24.X.66. Місхор".

Так пісаць маглі толькі вялікія сябры.

"Лісткі календара" — гэта фрагменты дзённікаў Максіма Танка, якія ён пісаў да 1939 года, да часу ўз'яднання Беларусі. Яны цудам уцалелі і нагадвалі пра знаёмых, сяброў, з якімі даводзілася працаваць, сустракацца ў тыя гады. Гэта быў час хваляванняў і надзей на будучыню. "Лісткі майго календара ўвесь час перагортвае і шматае навальнічны вецер. Некаторыя з іх я сам вырываю і нішчу. Цяжка па такім календары жыць, яшчэ цяжэй будзе некалі аднавіць мінулае, а па ініцыялах і клічках — уваскрасіць сапраўдныя імёны многіх маіх сяброў" (7.1.1935 г.).

Напэўна, хацелася Максіму Танку падзяліцца перажытым з сябрам, бо ў кожнага з іх за плячыма былі цяжкія падзеі, якія яны з гонарам вытрымалі, якія прымушалі напружана думаць і адказна жыць.

Цікавы экспанат музея — тэлефон з кватэры Пімена Емяльянавіча, што знаходзілася на сталічнай вуліцы Пуліхава ў доме № 29. Гэты тэлефон таксама з надпісам: "Панченко П. Е. от борцов за мир Белоруссии. 23.9-1987 г.". Усё жыццё паэт не шкадаваў сіл для таго, каб квітнела зямля, каб нідзе і ніколі не было чорнай навалы, якую давялося перажыць нашаму народу падчас мінулай вайны.

Пошукі і знаходкі

# Хронас — рака часу

Падчас I Нацыянальнага форуму "Музеі Беларусі" Уздзенскі раённы гісторыка-краязнаўчы музей прэзентаваў экспазіцыю "Выток Нёмана — выток духоўнасці", праз якую пазнаёміў удзельнікаў гэтага мерапрыемства з геаграфіяй уздзенскага краю. Пра месца музея ў жыцці сучаснага грамадства і ўражанні ад форуму распавядае дырэктар раённага музея Тамара ЛУХВЕРЧЫК.

**Вера ЛУКАШЭВІЧ**

— Музей — гэта ўнікальная ўстанова, навукова-даследчы і культурна-адукацыйны цэнтр. У адпаведнасці з патрабаваннямі часу і сусветнымі тэндэнцыямі змяняецца разуменне яго ролі ў грамадстве. Музеі з'яўляюцца захавальнікамі каштоўных нацыянальных рэсурсаў, якія праз сведчанне мінулых гадоў дапамагаюць нам знайсці натхненне ў сучаснасці і атрымаць запаветы для будучыні. Яшчэ музей можна назваць базавай установай, у якой захоўваецца памяць пра мінулае, што і накладвае вялікую адказнасць на тых, хто ў ім працуе.

**— Якія ўражанні засталіся ў вас пасля ўдзелу ў форуме "Музеі Беларусі"?**

— Безумоўна, форум — значная падзея культурнага жыцця краіны, значны крок у развіцці нацыянальнай музейнай справы. Адчувалася адзінства музейнай прасторы краіны, можна было ўзбагаціцца вопытам, назапашаным за апошнія гады айчыннымі і замежнымі музеямі. Форум стаў адметнай пляцоўкай для прэзентацыі дасягненняў у экспазіцыйна-выставачнай, культурна-адукацыйнай і навукова-фондавай рабоце. Акрамя таго, цікава было сустрэцца з калегамі, даведацца, якія формы і метады работы выкарыстоўваюць яны. Запом-ніліся словы міністра культуры Беларусі Паўла Латушкі: "Музей — гэта тое месца, куды мы, маленькія хлопчыкі і дзяўчынкі, адчыняем дзверы і дзе спазнаём штосьці новае пра гісторыю свайго горада, краіны". Таксама ён падкрэсліў, што музейная справа вельмі важная як у сферы культуры, так і ў мастацтве краіны.

**— Вы прэзентавалі работу "Выток Нёмана — выток духоўнасці"...**

— Мы імкнуліся распавесці пра духоўнае жыццё-быццё уздзенскай зямлі. Згадзіцеся, нават не кожны уздзенец ведае, што ў старажытнасці наш Нёман называлі Хронасам (ракой часу), а Наднямонне — Літвою, што ў перакладзе з угра-фінскай мовы азначае пяцірэчча. А наш бацька-Нёман якраз і ўтвараецца ад зліцця пяці рэк: Неманца, Лошы, Усы, Уздзянкі і Ператуці. Рака ў розныя часы натхняла на творчаць многіх паэтаў, мастакоў, кампазітараў, навукоўцаў, філосафаў: Паўлюка Труса, Кандрата Крапіву, братоў Сяргея і Аляксея Ткачовых, Івана Салаўя, Міхася Рагалевіча, Фадзея Булгарына, Аляксандра Махнача, Уладзіміра Летуна і многіх іншых. Праз сімвалічнае значэнне пяці рэк мы паказалі вытокі Нёмана як сімвала духоўнасці нашай зямлі. А больш падрабязны аповед пра гэту работу можна пачуць, наведаўшы наш музей.

**— Прадстаўленыя на форуме музеі адрозніваліся разнастайнасцю экспазіцый, матэрыяльна-тэхнічным забеспячэннем?**

— Форум "Музеі Беларусі" — гэта школа падказак, парад, што і як павінна быць. Музеі павінны развівацца ў рэчышчы сучасных тэндэнцый, валодаць новымі тэхналогіямі, укараняць інавацыйныя падыходы, накіраваныя на захаванне і прадстаўленне гісторыка-культурнай спадчыны. Неабходна пашыраць партнёрскія сувязі і супрацоўніцтва. Галоўныя крытэрыі пасляховасці музея, у тым ліку і нашага, — грунтоўная экспазіцыя. Хацелася б, каб і заработная плата ў супрацоўнікаў была больш высокай, бо музейны работнік — гэта унікум, які ўмела спалучае ролі гісторыка, філолага, лектара, мастацтва- і прыродазнаўцы.

Радзіннае

# Народны дух трапкача

Трапкач, махрач, сутыкальнік, стыкальнік, затыкальнік, канчальнік, скарач — каму сёння вядома значэнне гэтых слоў? Амаль нікому. У нашым цывілізаваным побыце яны ўжо не сустракаюцца. А тым часам у канцы XIX — пачатку XX ст., ды і пасля апошняй вайны, трапкач быў неад'емным атрыбутам беларускага сялянскага жыцця.

**Валянціна МАЛЮШЫНА,**
**фота аўтара**

Дык што такое трапкач? На жаль, вычарпальнага адказу на гэтае пытанне не знайсці нават у даследаваннях па мастацтве. Тым часам творы, якія мне ўдалося выявіць падчас шматлікіх экспедыцый па розных рэгіёнах Беларусі, пераконваюць, што беларускі трапкач — адзін з найцікавейшых відаў народнага мастацтва і яго вывучэнне значна ўзбагачае веды пра побыт і самабытную культуру нашага народа.



*Трапкач, характэрны для Міншчыны.*

Разумеючы функцыянальнае ўтылітарнае прызначэнне гэтага ткацкага вырабу, даследчыкі пакінулі па-за ўвагай яго мастацкія асаблівасці. Абыякавасць іх да трапкача тлумачыцца не толькі ў цэлым недастатковай даследаванасцю нашай народнай культуры, але, магчыма, і тым, што трапкач на першы погляд можа здацца не вельмі прыкметным. У адрозненне, напрыклад, ад бялюткіх ручнікоў альбо стракатых посцілак ён часцей за ўсё не арнаментаваны, не ўпрыгожаны карункамі. Але ў гэтай яго вонкавай сціпласці, лаканізме формы ёсць свая непаўторная выразнасць і адметная (хочацца сказаць, чыста беларуская) прыгажосць. Здаецца, трапкач увабраў у сябе стрыманыя колеры рэчаў вясковага побыту, фарбы тканін, руплівa зробленых працавітымі рукамі сціплай беларускай сялянкі. У гэтых тканінах — іх фактуры, непадробленай натуральнасці неадбеленага палатна — адчуваем народны дух, водар і каларыт роднай зямлі. Разглядаючы трапкачы, міжволі думаеш: якія яшчэ неспазнаныя багацці хавае скарбонка нашай народнай культуры, колькі ў ёй загадкавага і таямнічага.

Традыцыйны трапкач — гэта канец ільнянога неадбеленага палатна, завершаны ручным пляценнем з нітак асновы. Звычайна ён мае выгляд укарочанага ручніка з метр даўжынёю, адзін канец якога аздоблены ажурным пляценнем альбо каснікамі. Яго "індывідуальныя" асаблівасці (памер, форма, фактура, характар пляцення, узор і г. д.) залежалі ад майстэрства, мастацкага густу ткачыхі і, вядома ж, ад рэгіянальных традыцый. Напрыклад, палескія трапкачы цешаць вока разнастайнымі, нярэдка мудрагелістымі, але разам з тым вельмі зграбнымі ўзорамі пляцення павучкоў, зорачак, акенцаў — "стрэпкамі", як іх там называюць.

Трапкачы Паазер'я розняцца ад палескіх большымі памерамі і зусім іншым завяршэннем, амаль аднолькавым у кожнай гаспадыні па ўсім рэгіёне: гэта строгія шнуры з заплеценых у 11 — 16 кос нітак асновы. Адметнасць праяўляецца толькі ў тым, што ў адных вырабах каснікі проста вісяць, у другіх маюць выгляд замкнёных ланцужкоў.

Трапкач цікавы не толькі сваім знешнім выглядам: з ім звязаны народныя звычаі, а часам і магічныя павер'і. Вось, напрыклад, на Віцебшчыне кажуць: хто зойдзе ў хату ў той час, калі гаспадыня заканчвае ткаць палатно, — хутка памрэ. "Папаў на стыкальнік — памрэш". Цікава, што апошнія ніткі мелі магічнае значэнне, таму іх ашчадна скручвалі ў клубочкі і беражліва захоўвалі. А калі здаралася каму ў сям'і захварэць, то на захад сонца тры разы абкручвалі суворай ніткай з гэтых клубкоў канец рукі ці нагі, каб скончылася хвароба.

Раней лічылася нядобрай прыкметай падаваць ежу на голы стол. На святы, калі "рабілі сталы", слаліся абрусы, для аднаго госця даставаўся з куфра ручнік, а для сваіх у будня дні добры быў і трапкач. Рабілі гэта з верай у тое, што не збяднее хата — заўсёды будзе хлеб-соль на стале.

Прызначэнне трапкачоў разнастайнае. Жыхары Гродзеншчыны і Міншчыны трымалі на стале хлеб-соль накрытымі "скарачом", амаль паўсюдна ў трапкачах насілі ежу ў поле, дзе-нідзе накрывалі дзежку з расчыненым цестам. У руплівай палескай гаспадыні нават цадзілка для малака, цырнік (клінападобны мяшэчак для вырабу тваражнага сыру) былі ўпрыгожаныя ажурнай сеткай. У Пастаўскім і Глыбоцкім раёнах з дапамогай махрачоў



*Палескі трапкач (вёска Ліпляны Лельчыцкага раёна).*

жанчыны "рабілі луг" — цадзілі праз трапкач з попелам у цэбар гарачую ваду, каб потым у лазні мыць атрыманым растворам галаву. Шырока распаўсюджана гэтая з'ява была ў ваенныя гады, калі мыла не хапала. І паўсюль на Беларусі трапкач дапамагаў матулям выхоўваць неслухаў. Не адзін гарэзнік адчуў на сваёй скуры суворыя ніткі. "Як усмаліць маці, дык аж выгарыць", — успамінаюць многія. "Дам трапкача!" — гэта пагроза станоўча дзейнічала на малых.

Значэнне трапкача было не толькі практычным — яго сэнс глыбока звязаны з культурай побыту беларусаў, нашымі нацыянальнымі традыцыямі, якія маюць працяг і сёння. Многія цяпер займаюцца макрамэ, але не ўсе ведаюць, што вытокі гэтага рукадзелля можна знайсці ў куфрах нашых бабуль. Яскравым прыкладам таму з'яўляюцца цудоўныя трапкачы, якія смела можна назваць скарбамі народнага мастацтва.

# Захаваць сімвалы ўспамінаў

Кафедра гісторыі Беларусі факультэта гісторыі і сацыялогіі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы і гістарычная кафедра Ліцэя № 1 г. Гродна правялі сумеснае пасяджэнне "Гісторыка-культурная спадчына: яе ахова і выкарыстанне". Арганізатары сустрэчы паспрабавалі не толькі зрабіць тэарэтычна-даследчы агляд праблемы захавання гісторыка-культурнай спадчыны ў краіне, але і растлумачыць навучэнцам, як гэта важна.

**Настасся ВЕСЯЛУХА,**
**фота Юрыя Іванюка**

Фарміраванне заканадаўчай базы аховы помнікаў пачалося ў нашай краіне ў 1991 г. Сёння яна ўключае 9 Указаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Закон Рэспублікі Беларусь "Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны", які ў 2006 г. быў прыняты ў новай рэдакцыі, 10 пастаноў Урада Беларусі, 14 пастаноў і загадаў Міністэрства культуры, 17 іншых законаў, якія ўтрымліваюць нормы, што шматбакова разглядаюць пытанні аховы спадчыны.

Эдмунд Ярмусік, дэкан факультэта гісторыі і сацыялогіі ГрДУ імя Я. Купалы, кандыдат гістарычных навук, дацэнт, падчас сустрэчы распавёў пра вялікую запатрабаванасць і высокую маральную адказнасць прафесійных гісторыкаў у сучасным грамадстве. Эдмунд Станіслававіч адзначыў, што праблема сумеснага пасяджэння патрабуе асобнай увагі, бо неабходна прапагандаваць ідэю аховы помнікаў сярод жыхароў горада. Гэтаму ў некаторай ступені спрыяе факультэт гісторыі і сацыялогіі, дзе вядзецца вывучэнне гісторыка-культурнай спадчыны ў межах студэнцкіх курсавых і дыпломных праектаў, даследчыцкіх прац выкладчыкаў.

Святлана Марозава — загадчык кафедры гісторыі Беларусі, доктар гістарычных навук, прафесар — падзялілася развагамі наконт захавання і выкарыстання гісторыка-культурнай спадчыны, што з'яўляецца вялікім духоўным набыткам народа і яго падмуркам, які страціць недаравальна. Практычнае прымяненне такіх аб'ектаў бачыцца ў пераўтварэнні іх у турыстычныя месцы, а іх захаванню і прапагандзе павінны ў большай меры садзейнічаць музеі і архівы, творы мастацкай літаратуры гістарычнага жанру, а таксама стварэнне радаводаў. Кіраўнік краязнаўчага гуртка "НіКа", кандыдат гістарычных навук, дацэнт Наталля Івашчанка прысвяціла сваё выступленне тэарэтычнаму асэнсаванню праблемы. Яна перш дала вызначэнне паняцця "гісторыка-культурная спадчына", працытавала З. Фрэйда: "Помнікі і манументы, якімі мы ўпрыгожваем нашы гарады, уяўляюць сабой сімвалы ўспамінаў". Спадарыня Івашчанка з дапамогай слайдаў, на якіх былі змешчаныя гравюры і выявы панарам Гродна ў розныя стагоддзі, даводзіла думку, што Гродна ўвасобіў праз архітэктурную спадчыну амаль усе стылі і кірункі.

Увага студэнтаў і ліцэістаў была скіраваная на самую арыгінальную частку гістарычнага цэнтра Гродна — "Новы свет", які захаваў дух гарадской ускраіны. Гэты своеасаблівы раён пачаў фарміравацца яшчэ ў 80-х гг. XIX ст., але шчыльна забудоўваца стаў толькі ў 1920 — 1930-я гг. польскімі чыноўнікамі і афіцэрамі. Раён стылістычна даволі разнастайны: у ім захаваліся будынкі ў стылі "рускага" мадэрну, канструктывізму, у тым ліку і драўлянага.



*Дырэктар ліцэя № 1 г. Гродна Андрэй Канцэвіч і Валерый Чарапіца.*

Падчас сустрэчы адбылася і прэзентацыя новага выдання. Гэта кніга Валерыя Чарапіцы "Гродно, Студенческая, 3: история дома и жизни его обитателей. Век ХХ" (Гродна, ГрДУ, 2012). Выданне распавядае пра гісторыю аднаго гродзенскага дома, а таксама пра жыццё яго ўладальнікаў і насельнікаў на працягу больш як ста год. Аўтар піша: "…Горад — гэта ў першую чаргу дамы, якія фарміруюць яго вуліцы і завулкі. Дамы не растуць як грыбы пасля цёплага дажджу. Іх будуюць людзі з надзеяй на тое, што яны будуць стаяць вечна. Гісторыя аднаго гродзенскага дома пры ўважлівым прачытанні дазваляе не толькі азнаёміцца з жыццём яго насельнікаў, але і ў многім зразумець, чым было напоўнена ХХ стагоддзе для Гродна і ўсёй вялізнай краіны", — піша аўтар.

Загадчык гістарычнай кафедры Ліцэя № 1 г. Гродна, кандыдат гістарычных навук, дацэнт Віктар Белазаровіч адзначыў, што праект ліцэістаў па замалёўцы будынкаў розных архітэктурных стыляў, што захаваліся ў "Новым свеце", — ужо гісторыя, і ў будучыні ён можа паслужыць добрай крыніцай для вывучэння Гродна.

# Каб узор «загаварыў»

Мода на вышыванкі нагадвае мне спіраль: то імі ўпрыгожвалі вясковыя хаты і нават гарадскія кватэры, то дружна здымалі маляўнічыя карціны і адпраўлялі ў шафу, а здаралася, і на сметнік — маўляў, нямодна, несучасна, ды і каму яны патрэбны?! Цяпер зноўку многія захапіліся гэтым рукадзеллем і з гонарам дэманструюць свае набыткі падчас розных выставак.

**Раіса МАРЧУК,**
**фота аўтара**

Зінаіда Сяргейчык, былая настаўніца рускай мовы і літаратуры Салаўскай базавай школы, што на Драгічыншчыне, таксама ў свой час зняла са сцяны некалькі ўласнаручна вышытых карцін і паклала ў куфар. Сёння ж гэтыя вырабы зноў упрыгожваюць яе дом. Цяжка паверыць, што створаны яны больш як паўстагоддзя таму: колеры яркія, шыўкі не пашкоджаны.

— Тады рука не паднялася выкінуць свае работы, таму што люблю ўсё гэта, а яшчэ спадзявалася, што вернецца мода на такія рэчы, — распавяла Зінаіда Георгіеўна. — Здаралася, дастану вышыванкі з куфра, палюбуюся імі і пакладу назад. Мая маці, Надзея Канстанцінаўна, шмат вязала, шыла і вельмі прыгожа вышывала. Прыкладна ў шасцігадовым узросце я папрасіла маці, каб навучыла мяне вязаць. Нітак жа не было. Распусцілі нейкую старую рэч, і я пачала вязаць шалік. Калі справілася з ім, маці паказала іншыя ўзоры. Адным словам, з адных і тых жа нітак доўга вязала розныя ўзоры і розныя рэчы. Вельмі хацелася мець ляльку. Але за што купіць? Пачала і лялек шыць сама.

Вельмі люблю прыроду, светлыя і радасныя сімвалы, асабліва кранаюць мяне тыя, што звязаны з сям'ёю. Вырасла я ў райскім куточку — на хутары, дзе было шмат птушак і жывёл. Таму і старалася перш за ўсё іх адлюстраваць. Прыйшліся даспадобы алені як сімвал мацярынства — вышыла. Убачыла карціну з двума лебедзямі — сімвал вернасці, — таксама некалькі месяцаў сядзела з іголкаю і ніткамі. Выразна памятаю, што ў дзяцінстве над маім ложкам вісеў вялікі дыван "Алень", які маці вышыла гладдзю. Потым з'явіўся другі — "Лебедзі". Яны вельмі падабаліся мне. Тонкая работа, прыгожае шво: не адрозніць — машыннае ці ручное. А чым яшчэ ўпрыгожыць жытло? Вось і вышывалі жанчыны ўсё, што маглі.

Падчас вучобы ў пружанскім педвучылішчы Зінаіда Георгіеўна з задавальненнем наведвала заняткі па рукадзеллі. Будучыя настаўніцы пачатковых класаў вучыліся шыць нескладаныя рэчы, вышываць, каб потым на ўроках працы перадаць гэтае майстэрства дзецям. Дарэчы, з тых часоў захавалася ў жанчыны вышытая падушачка, якую некалькі гадоў таму падарыла ўнучцы Каці. Дзяўчынка ёю даражыць, беражэ.

— Неяк Каця папрасіла мяне: "Бабуля, навучы мяне вышываць", — расказала жанчына. — Пачалі з простага крыжыка, адолелі ўжо і балгарскі. Потым я знайшла мадэль вязанай дзіцячай кофтачкі з коцікам і зайчыкамі. Каця прапанавала іх вышыць. Чаму б і не? Загарэлася, уключыла фантазію. У выніку атрымалася карціна: зайчыкі бягуць па траўцы і нясуць маці па кветачцы, а зверху ляцяць матылі. Такая вось сямейная ідылія. Вышыванку падарыла сваёй заказчыцы-ўнучцы. Узор "Калядная ноч" убачыла ў часопісе "Гаспадыня". Адразу засумнявалася, што змагу яго вышыць, падаўся складаным. Калега-настаўніца Марыя Пятроўна Федзюковіч, якая ўжо даўно займаецца вышыўкай, падтрымала мяне і таксама вырашыла вышыць "Калядную ноч". Хадзілі адна да адной, глядзелі, што ў каго атрымліваецца.

Не так даўно Зінаіда Георгіеўна захапілася вышыўкай па-сапраўднаму.

— На адным з ручнікоў адлюстравала арнамент. Раней у нашых мясцінах вышывалі яго толькі чорнымі і чырвонымі ніткамі, цяпер жа сталі дадаваць бэзавы, блакітны, зялёны колеры. Я ж маркую знайсці старадаўнія ўзоры, характэрныя для вёскі Салава, і вышыць ручнік у традыцыйным народным стылі.

На рахунку майстрыхі — пяць вышытых ручнікоў. У кожны выраб яна стараецца ўнесці штосьці новае, асабістае. Здаецца, ну што для вопытнага чалавека вышыць ружу. Але не кожнаму ўдаецца так затаніраваць ды зрабіць няўлоўнымі пераходы, каб кветка глядзелася як жывая.


*Любімы ручнік Зінаіды Сяргейчык.*

— Іншы раз столькі часу ідзе на адну кветачку! Але я ніколечкі пра гэта не шкадую, — распавядае далей вясковая настаўніца. — Магу вышываць гадзінамі, забыўшыся на абед. Калі закончу работу, абавязкова развешу ручнік, каб раніцаю адразу паглядзець: што ж атрымалася? Калі штосьці не спадабаецца — усё роўна зраблю так, як мне здаецца лепш. Яшчэ прыкмеціла, што для кожнай вышыўкі трэба знайсці ў хаце прыдатнае менавіта для яе месца, каб яна "загаварыла". І па памерах той жа ручнік павінен адпавядаць іконе.

Прыгожыя ручнікі не затрымліваюцца ў доме гаспадыні. Некалькі вырабаў падарыла родным. Ужо нават заказы паступаюць, асабліва на вышываныя ручнікі. Зінаіда Георгіеўна амаль штодня бярэ ў рукі іголку. А ў самой вёсцы суполка аматараў вышыўкі пашыраецца. Дапамагаюць адзін аднаму набыць ніткі, тканіну, дзеляцца ўзорамі.

## Творчая майстэрня

# Сэнс жыцця — кераміка

Увагу многіх наведвальнікаў Дзятлаўскага дзяржаўнага гісторыка-краязнаўчага музея адразу прыцягвае калекцыя мастацкай керамікі Мікалая Несцярэўскага: пано, посуд, дэкаратыўная скульптура і пласты — каля 70 аўтарскіх работ.

**Іосіф ЗАЯЦ**

Мяне вельмі ўражвае, калі бачу, як кавалак звычайнай гліны ў спрытных руках таленавітага мастака-кераміста ператвараецца ў адмысловую фігурку народнага музыкі або дзівосную фантастычную птушку. Творы гэтага кераміста кранаюць душу сваёй арыгінальнасцю і непаўторнасцю.

— Вельмі прыемна, што шэраг маіх работ застанецца ў Дзятлаве, блізкім для сэрца горадзе, дзе прайшло незабыўнае юнацтва, — зазначыў Мікалай Лаўрэнцьевіч падчас перадачы музею сваіх твораў. — Няхай далучэнне да прыгожага абуджае ў людзях усё самае лепшае і заўсёды прыносіць радасць.

У мастака было шмат захапленняў, але менавіта кераміка стала сэнсам жыцця. Тут ён знайшоў сябе і ўласны мастацкі стыль. Вырабы Мікалая Несцярэўскага аздобілі інтэр'еры шматлікіх будынкаў у Мінску, Гродне і нават Валгаградзе. Мінчане добра ведаюць кафэ "Бульбяная" на праспекце Незалежнасці, дзе ўсе керамічныя вырабы — плён працы гэтага творцы. Кераміст з Дзятлава — адзін з аўтараў дэкаратыўных керамічных пластоў, якія ўпрыгожваюць станцыю метро "Плошча Якуба Коласа". Мастак аздобіў сваімі работамі краму "Мінск" у Валгаградзе, кавярні ў Салігорску і Светлагорску, працаваў над афармленнем будынка аэрапорта "Мінск-2". Сцэны Гродзенскага тэатра лялек, Дзятлаўскай гімназіі таксама ўпрыгожаны творамі майстра.

Многія керамічныя работы Мікалая Лаўрэнцьевіча занялі пачэснае месца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, Музеі беларускага народнага мастацтва ў Раўбічах, але большая частка яго твораў захоўваецца на Дзятлаўшчыне. У фондах тутэйшага музея налічваецца каля 200 работ мастака. І амаль усе яны падораны. Творца перадаў сюды калекцыю дэкаратыўных скульптур аб'ёмных формаў, серыю керамічных плакетак з вывамі дзяржаўных дзеячаў старажытнай Беларусі і Вялікага Княства Літоўскага, керамічныя партрэты дзеячаў беларускага Адраджэння.

## Афарызм

*Ёсць важныя дзве часціны, з якіх складаецца жыццё*
*і яго глыбокі сэнс і хараство — чалавек і прырода.*

**Якуб КОЛАС**

## З глыбінкі

### ГУЧЫЦЬ КОЛАС НА ЎВЕСЬ ГОЛАС

Восеньскія дні ў Слуцкай гарадской дзіцячай бібліятэцы праходзяць пад знакам юбілею беларускага Песняра Якуба Коласа.

З гэтай нагоды ладзяцца ў бібліятэцы чытанні "Шляхамі Якуба Коласа", на якія прыходзяць вучні малодшых класаў з усіх школ горада. Юныя наведвальнікі разам з бібліятэкарамі гартаюць старонкі жыцця і творчасці пісьменніка, на тэатралізаванай імпрэзе слухаюць вершы "У школку", "Ручэй", "Дзед-госць", "На рэчцы зімою", якія паэт напісаў для маленькіх.

З задавальненнем сустракаюцца дзеці з галоўным героем паэмы "Міхасёвы прыгоды" ды разам з вясёлым хлопчыкам Міхасём чытаюць коласаўскі твор, адказваюць на пытанні віктарыны і нават удзельнічаюць у незвычайнай рыбалцы. Каб аддзячыць Міхасю за багаты улоў, аматары беларускага слова чытаюць госцю вершы Коласа, разгадваюць рэбусы, у якіх зашыфраваны назвы твораў беларускага пісьменніка, запрашаюць яго паўдзельнічаць у беларускіх забавах.

…Пройдуць гады. Вырастуць сённяшнія чытачы. Але тая шчырая атмасфера, што пануе ў бібліятэцы на святкаванні юбілею народнага паэта, напэўна, калі-небудзь прымусіць сённяшніх удзельнікаў свята звярнуцца да радкоў Якуба Коласа ўжо ў сталым узросце.

**Юлія ПАРХОМЕНКА,**
**г. Слуцк**

### САКРЭТ — У КЛЮЧЫКУ

Тое, што Анатоль Зэкаў з аднолькавым поспехам можа заваражыць любую аўдыторыю — як дарослых, так і зусім юных слухачоў — гэта ўжо факт агульнавядомы.

Нядаўна ў тым змаглі пераканацца вучні і настаўнікі СШ № 1 і гімназіі г. Лепеля. Выступаючы пачаргова перад школьнікамі малодшых і старэйшых класаў, пісьменнік да кожнай з гэтых катэгорый слухачоў знайшоў свой ключык. Першым расказваў казкі і чытаў вершы, прапаноўваў вымавіць скорагаворкі і адгадаць загадкі, а за правільныя адказы ўручаў падарункі ад часопіса "Вясёлка", у якім працуе. Старэйшых вучняў зачароўваў вершамі пра каханне і весяліў гумарыстычнымі творамі і пародыямі на беларускіх паэтаў.

Не засталася па-за ўвагай і песенная творчасць пісьменніка: яе прадставіў ураджэнец гэтых мясцін кампазітар і спявак Аляксандр Балотнік.

**Марыя БЯРНАЦКАЯ,**
**г. Лепель**

### ІМГНЕННІ СУСТРЭЧЫ

Канцэртная зала ў Паставах была перапоўнена. Сюды прыйшлі людзі, неабыякавыя да кніг, у прыватнасці, да творчасці беларускай пісьменніцы Наталлі Батраковай. Аматары чытання ведаюць Н. Батракову як аўтара раманаў "Территория души" і "Площадь согласия", а таксама паэтычных зборнікаў "Состояние души", "Я играю не по правилам" і "Сто сорок жизненных мгновений".

На сустрэчу пісьменніца прыехала не з пустымі рукамі: яна прэзентавала чытачам раман "Миг бесконечности" ў двух тамах.

Н. Батракова дзіўным чынам спалучае прыгожую літаратурную мову і псіхалагізм у раскрыцці характараў герояў. Адкрытая ў зносінах, шчырая, яна канчаткова скарыла сэрцы гасцей імпрэзы выкананнем песень на ўласныя вершы.

**Валянціна ГІРВЕЛЬ,**
**г. Паставы**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Выдавецкі дом "Звязда".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2700 рублёў
Наклад — 2717.
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 08.11.2012 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 4970
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12